

**ВЕРШЫ МАЛАДЫХ ПАЭТАЎ ПРА РЭВАЛЮЦЫЮ, ПАРТЫЮ, НАРОД**

**АПОВЕСЦЬ ПРА РАНАК НАШАЙ РЭСПУБЛІКІ**

**ПА ШЛЯХУ АГІТПОЕЗДА «КАСТРЫЧНІЦКАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ»**

**СЛАВА ІНДУСТРЫЯЛЬНАЙ БЕЛАРУСІ**

**ЗАСВЕДЧАНА КІНААБ'ЕКТЫВАМ**

**КРЫТЫК ПРА СУЧАСНУЮ БЕЛАРУСКУЮ ПАЭЗІЮ**

**10**

**КАСТРЫЧНІК**

Мінск, 1967

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

**Заснаваны ў 1953 годзе** — **№ 10 кастрычнік 1967**

## У НУМАРЫ:



**Выдавецтва «Звязда»**

Вокладка **В. Шаранговіча.**





Надзежда КРУПСКАЯ

# ПЕРШЫЯ МЕСЯЦЫ ПАСЛЯ КАСТРЫЧНІКА

Неўзабаве пасля ўзяцця ўлады мы пасяліліся з Уладзімірам Ільічом у Смольным, у невялікім пакоі былой класнай дамы. Такіх пакояў у Смольным было многа. Мы пражылі там аж да ад'езду ў Маскву ў сакавіку 1918 г.

Я бачыла Уладзіміра Ільіча толькі прыхваткамі, але больш за ўсё мне запамяталіся нашы вячэрнія прагулкі. Ільіч у той час хадзіў без усялякай аховы, ды яго тады яшчэ мала ведалі ў твар. Любімай нашай прагулкай было хаджэнне па Няве, і Ільіч, па звычцы на хаду, горача гаварыў, выкладаў тое, што яго хвалявала.

Першыя ж дэкрэты Савецкай улады ў корані змянілі ўвесь сацыяльны воблік краіны, змянілі ўсе ўзаемаадносіны, па-новаму паставілі цэлы шэраг пытанняў, адкрылі велізарныя перспектывы будаўніцтва ва ўсіх галінах работы. Іменна ў першыя месяцы закладваліся асноўныя камяні агромністай і зусім нечуванай будоўлі. Узяцце ўлады ў Кастрычніку даказала як нельга лепш, якое вялікае значэнне мела спалучэнне рэвалюцыйнага ўздыму працоўных мас і выразнага, глыбока абдуманага кіраўніцтва гэтым рухам. Цяпер даводзілася па-новаму перабудоўваць усё жыццё, узнімаючы нястомна свядомасць мас, энтузіязм мас і іх рукамі перабудоўваючы ўсю тканіну грамадскага ўкладу.

«Гвозд будаўніцтва сацыялізма — у арганізацыі»,— гаварыў Ільіч. Як кіраваць цяпер краінай, абапіраючыся на ўвесь рабочы клас, на тыя слаі сялянства, якія ідуць за рабочым класам? Вопыту не было яшчэ.

Думкі таго часу, што так хвалявалі Ільіча, лепш за ўсё адлюстраваны ў брашуры «Чарговыя задачы Савецкай улады» і ў яго дакладзе на пасяджэнні ВЦВК у красавіку 1918 г. «Першы раз у сусветнай гісторыі,— пісаў Ільіч у «Чарговых задачах Савецкай улады»,— сацыялістычная партыя паспела закончыць, у галоўных рысах, справу заваявання ўлады і падаўлення эксплуатататараў, паспела *падысці ўшчыльную* да задачы *кіравання.* Трэба, каб мы аказаліся годнымі выканаўцамі гэтай цяжэйшай (і ўдзячнейшай) задачы сацыялістычнага перавароту. Трэба *прадумаць,* што для паспяховага кіравання неабходна, *акрамя* ўменне пераканаць, акрамя ўменне перамагчы ў грамадзянскай вайне, уменне *практычна арганізаваць.* Гэта — самая цяжкая задача, таму што справа ідзе аб арганізацыі па-новаму самых глыбокіх, эканамічных, асноў жыцця дзесяткаў і дзесяткаў мільёнаў людзей».



У брашуры «Чарговыя задачы Савецкай улады» Ільіч пісаў аб неабходнасці арганізацыі ўліку і кантролю знізу, гаварыў аб неабходнасці падняцця прадукцыйнасці працы, аб неабходнасці адукацыйнага і культурнага ўздыму мас насельніцтва, аб неабходнасці паставіць перад масамі задачу вучыцца працаваць, пісаў аб спаборніцтве, аб неабходнасці павышэння ў масах свядомых адносін да працы, свядомай дысцыпліны і неабходнасці ўцягваць пагалоўна ўсё насельніцтва ў кіраванне дзяржавай.

Калі цяпер перачытваеш брашуру Ільіча «Чарговыя задачы Савецкай улады», прадуманую ім у першыя месяцы пасля Кастрычніка, бачыш, што яна і зараз з'яўляецца кіраўніцтвам да дзеяння. Кожны арганізатар, кожны член партыі, чытаючы гэтую брашуру, яшчэ ясней усведамляе ўвесь шлях, пройдзены Краінай Саветаў за 15 гадоў пасля Кастрычніка, ясней адчуе, якая велізарная творчая работа праведзена за гэтыя гады рабочым класам, працоўнымі масамі, як яны выраслі на гэтай рабоце, глыбей адчуе ўдзельную вагу, усё значэнне партыйнага кіраўніцтва за гэтыя гады.

Велізарныя цяжкасці стаялі на шляху гэтай перабудовы, прамысловасць была напалову разбурана вайной, у краіне пераважала дробная сялянская гаспадарка, самыя адсталыя яе формы, панавала дробнабуржуазная стыхія, лютавала бескультур'е, стары быт глыбока пусціў карэнні, увесь дзяржаўны апарат быў прыстасаваны да абслугоўвання памешчыкаў і капіталістаў, увесь уклад патрабаваў карэннай перапрацоўкі. Патрэбна было велізарнае напружанне, патрэбна была вялікая цвярозасць думкі, велізарная гібкасць тактыкі, каб пераадолець усе цяжкасці, змесці іх з дарогі, весці з дня ў дзень барацьбу за карэнную перабудову ўсяго жыцця.

Калі параўнаць тое, чым была наша краіна да Кастрычніка і чым стала цяпер,— розніца нечуваная. Падняліся да свядомага жыцця самыя глыбокія нізы. Якую б галіну мы ні ўзялі, усюды мы маем гаворачыя за сябе лічбы: развіццё прамысловасці, калектывізацыю, механізацыю сельскай гаспадаркі, рост прафесіянальных саюзаў, рост партыі, камсамола, піянерскага руху,

Сямён БЛАТУН

●

## К ЛЕНІНУ

**Пропуск да пропуска —**
**як шашлык —**
**Уздзеты на штык**
**трохлінейнай...**
**Двое прайшлі, трое прайшлі...**
**К Леніну, к Леніну.**
**Трымае паперу**
**сівенькі дзядок**
**У руцэ з распухлымі венамі.**
**Пешшу прыйшоў ён, сялянскі**
**хадок,**
**К Леніну, к Леніну.**
**Зямлісты шынель...**
**Акопны салдат**
**Дзіцем спыніўся ў здзіўленні...**
**Прывёў яго з фронту**
**салдацкі мандат**
**К Леніну, к Леніну.**
**Пропуск да пропуска —**
**як шашлык —**
**Уздзеты на штык**
**трохлінейнай...**
**Сотні прайшлі, мільёны прайшлі**
**К Леніну, к Леніну.**
**Так і цячэ той бясконцы паток —**
**Узросты усе, пакаленні —**
**За Праўдай,**
**Сумленнем і Чыстатой —**
**К Леніну, к Леніну!**

рост культурнага будаўніцтва, рост работы сярод жанчын, рост Саветаў. Па-новаму арганізуецца ўсё жыццё. Размах арганізацыі зусім інакшы.

Працаваў Ільіч у Смольным наверсе. Насупраць яго кабінета быў невялікі пакой — прыёмная. Дэлегацыя за дэлегацыяй прыходзілі да яго. Памятаю, аднойчы Ільіч гутарыў там з прыехаўшымі з фронту салдатамі. Ільіч стаяў, прысланіўшыся да сцяны, каля акна і штосьці растлумачваў, даказваў. Стоўпіўшыся плячо ў плячо, стаялі салдаты, і ўсе замёрлі, слухаючы Ільіча. Такіх дэлегацый праходзіла тады многа за дзень.

Праца Ільіча ішла ў абстаноўцы тагачаснага Смольнага, заўсёды перапоўненага народам. Усе цягнуліся да Смольнага. Смольны ахоўвалі салдаты кулямётнага палка. Гэты кулямётны полк стаяў перад Кастрычнікам на Выбаргскай старане і знаходзіўся цалкам пад уплывам выбаргскіх рабочых. Трэцяга ліпеня кулямётны полк першым выступіў і гатоў быў рынуцца ў бой. Керанскі рашыў як след пакараць паўстаўшых. Іх абяззброенымі вывелі на плошчу і ганьбілі як здраднікаў. Кулямётчыкі яшчэ мацней сталі ненавідзець Часовы ўрад. У Кастрычніку яны змагаліся за Савецкую ўладу і затым узялі на сябе ахову Смольнага. Ахоўвалі яны і Ільіча. Хоць, па праўдзе кажучы, ахова гэта была даволі першабытная. Адзін з кулямётчыкаў, Жэлтышоў, быў прыстаўлены да Ільіча, каб абслугоўваць яго. Ён насіў Ільічу абед. Здзіўляўся ўсім. Быў ён з Уфімскай губерні, ніколі не бачыў нават спіртоўкі. Да Ільіча ён адносіўся з асаблівым клопатам. Цяпер ён жыве ў калгасе ў Башкірскай рэспубліцы, прыхворвае, займаецца пчалярствам, часам піша, успамінаючы Ільіча.

Адзін час з харчаваннем Ільіча ў нас быў прарыў. Я цэлымі днямі была на працы. Марыя Ільінічна часам прывозіла з дому Ільічу ўсялякую ежу, аднак рэгулярнага, сапраўднага клопату не атрымлівалася. Нядаўна мне расказваў адзін юнак — ён мастак цяпер, закончыў Вхутэмас (Вышэйшыя мастацка-тэхнічныя майстэрні.— **Рэд.**) — яго маці была прыбіральшчыцай у сталоўцы ў Смольным і чуе аднойчы: хтосьці ходзіць у сталоўцы. Зазірнула — бачыць: Ільіч стаіць ля стала, узяў кавалак чорнага хлеба і кавалак сялёдкі і есць. Убачыўшы прыбіральшчыцу, ён збянтэжыўся крыху і, усміхаючыся, сказаў: «Вельмі чамусьці есці захацелася». Мне ён ніколі ні на што не скардзіўся, але і без таго ясна было, што патрэбна наладзіць правільнае харчаванне. Неўзабаве ў нас пасялілася ў суседнім пакоі маці т. Шотмана і ўзяла нас з Ільічом пад сваю апеку.

Мне не прыходзілася непасрэдна назіраць у гэты час кіпучую работу Ільіча. Ва ўсю ішла ломка старога, вялася велізарная арганізацыйная работа, Ільіч проста гарэў на гэтай рабоце. Я ведала аб ёй па расказах Ільіча, па размовах з таварышамі, што прыходзілі да Ільіча і расказвалі мне пра сваю работу. Рэвалюцыя разгортвалася ва ўсю. Я вельмі была занята работай на культурным фронце. Ільіч лічыў гэту работу надзвычай важнай, лічыў, што культура — той цэмент, які звязвае ўсе дасягненні, без якога сацыялізма не пабудуеш, лічыў неабходным налягаць ва ўсю на гэты ўчастак будаўніцтва, але ў гэты момант ён менш гаварыў аб гэтых пытаннях, чым звычайна. Перад ім стаялі рашаючыя пытанні велізарнай важнасці, вызначыўшыя сабою характар далейшага лёсу Савецкай улады,— пытанне аб Устаноўчым сходзе, а затым аб Брэсцкім міры.

◆ ◆ ◆

**Валянцін ЛУКША**

●

# ДЗЕСЯТЫ КУБРЫК

**Тут будоўля**
**падобна вялізнаму плёсу,**
**Што спрачаецца**
**з вельмі сур'ёзнай ракой.**
**Усяляюць шасцёрку ўчарашніх матросаў**
**У дзесяты пакой.**
**На сцяне са спяцоўкамі побач бушлаты —**
**Подых службы салёнай марской,**
**І завуць цяпер кубрыкам нашы рабяты**
**Той дзесяты пакой.**
**Хоць не чутна усплёску начнога прыбою,**
**Гулкай боцманскай дудкі даўно ўжо няма,**
**Хлопцы ў дружбе з парадкам марскога адбою,**
**І прыбоем на вуліцы стогне зіма.**
**А калі за акном палымнее усход,**
**Устае па-рабочаму хутка горад,**
**І ідуць будаваць велізарны завод**
**Усе шасцёра.**

**Уладзімір ФАМІН**

●

**Тры рэвалюцыі і вайны**
**тры**
**У яго за спіною.**
**Дзесяцібальныя вятры**
**Шугалі над галавою.**

**Бачыў Леніна ён**
**не раз,**
**У адзіным страі**
**з ім крочыў.**
**Зімні браў у кастрычніцкі час**
**Петраградскі рабочы.**

**Іскраў ленінскіх**
**бляск у вачах**
**Не згасае дагэтуль...**
**Бальшавік,**
**Ён падняў на плячах**
**Лёс не толькі Расіі —**
**Планеты.**

Мал. І. Давідовіча.

Сяргей ГРАХОЎСКІ



# РУДАБЕЛЬСКАЯ РЭСПУБЛІКА

Аповесць

## АД АЎТАРА

Дзе яна, Рудабельская рэспубліка? На картах ці ў падручніках геаграфіі яе не шукайце. І ўсё ж яна была, змагалася за права «людзьмі звацца», за свабоду, за праўду, за сённяшні дзень.

Былая Рудабелка — цяпер звычайны гарадскі пасёлак, цэнтр Кастрычніцкага раёна Гомельскай вобласці. Туды штодня прыходзяць цягнікі, адзін за адным прыбываюць рэйсавыя аўтобусы. Спакойна цячэ вузенькая Нератоўка, абапал вуліцы шумяць старыя купчастыя вербы. Весела і спорна працуюць людзі, растуць і вучацца дзеці. Пасёлак як пасёлак. Праўда, вырас ён толькі пасля вайны, на месцы некалькіх спаленых вёсак.

А гісторыя гэтага краю незвычайная і гераічная: у Рудабелцы бадай ніколі не было акупантаў.

Як жа ўдавалася амаль бяззбройным сялянам адстойваць заваёвы Кастрычніка ад страшэннай навалы акупантаў, што ішлі на Савецкую краіну пад рознымі сцягамі? Хто гэта помніць? Хто пра гэта раскажа?

Герояў і ўдзельнікаў тых падзей застаецца ўсё меней і меней. Не многа захавалася і дакументаў з часоў грамадзянскай вайны.

Самаахвярная барацьба рудабельцаў у часе Вялікай Айчыннай вайны ў пэўнай ступені засланіла подзвігі выдатных герояў першых рэвалюцыйных гадоў. Партызаны грамадзянскай вайны, іх дзеці і ўнукі ў першы ж дзень вайны сталі на абарону роднай зямлі. Іх узначаліў першы сакратар райкома партыі Ціхан Піменавіч Бумажкоў. У глыбокім тыле ворага Кастрычніцкі раён увесь час заставаўся савецкім: тут праходзілі партыйныя канферэнцыі, працавалі школы, выдавалася газета «Чырвоны мсцівец», людзі жылі па савецкіх законах, над раёнам палымнеў сцяг, падняты першымі рэўкомаўцамі ў кастрычніку 1917 года. Іх імёнамі, іх жыццём і подзвігамі ганарацца сучаснікі і нашчадкі.

Таму лічу сваім грамадзянскім абавязкам расказаць у гэтай аповесці пра некаторыя падзеі паўвяковай даўнасці, пра першыя крокі Савецкай улады на Палессі.

Што ж я магу расказаць, калі засталося так мала сведак, а яшчэ меней дакументаў? І ўсё ж пошукі заўсёды прыносяць плён.

У дзяцінстве я жыў непадалёк ад Рудабелкі. Памяць захавала водгулле тых па-

дзей, аблічча некаторых герояў, факты і самую атмасферу грамадзянскай вайны. У 1935 годзе я сустракаўся і доўга гаварыў з многімі рудабельскімі партызанамі, з іх бацькамі і дзецьмі. Трыццаць гадоў мяне хвалявала гэтая тэма. Удалося знайсці сястру першага старшыні рудабельскага рэўкома, героя грамадзянскай вайны Аляксандра Салаўя — Марыю Раманаўну Андрэеву. Многія сцвярджалі, што яна загінула ў 1920 годзе. А яна змагалася не толькі ў першыя гады рэвалюцыі, але была адважнай партызанкай у Айчынную вайну. Успаміны Марыі Раманаўны дапамаглі зразумець многія рысы характару, вытокі ўчынкаў і подзвігаў яе брата.

Шмат цікавага пра дзейнасць бальшавікоў Бабруйшчыны ў гады нямецкай акупацыі 1918 года расказаў мне былы намеснік старшыні павятовага рэўкома Пётр Міхайлавіч Серабракоў. Сустрэчы з былымі паплечнікамі Салаўя і ўдзельнікамі грамадзянскай вайны А. Падутам, Н. Званковічам, У. Шантырам, Ц. Валодзькам, Б. Адзінцом, С. Герасімовічам, Ф. Кабернікам, Т. Жулегам, Ц. Тоўсцікам, М. Драпеза, Г. Агал натхнялі расказаць людзям праўду пра тыя гераічныя гады.

Каштоўныя матэрыялы знайшліся ў Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ, у Цэнтральным рэспубліканскім архіве і ў Бабруйскім краязнаўчым музеі.

З усіх дакументаў і фактаў трэба было адабраць самае значнае і цікавае, каб хоць у нейкай ступені перадаць атмасферу тае пары, характары, паводзіны, настроі і думкі герояў. Хацелася расказаць пра першых бальшавікоў Рудабельшчыны, пра людзей, якія ішлі за імі, пра подзвігі сапраўднага беларускага Чапаева — Аляксандра Раманавіча Салаўя.

Працуючы над аповесцю, у асноўных месцах прыйшлося парушыць храналогію падзей, дадумаць і пашырыць некаторыя эпізоды, змяніць некалькі прозвішчаў.

Буду вельмі рады, калі гэтая нявыдуманая аповесць дасць маладому чытачу хоць некаторае ўяўленне пра адну з гераічных старонак нашай рэвалюцыйнай гісторыі.

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## 1

Вагон калыхала і тузала на кожным стыку. Цягнік ледзьве поўз у цемрадзі асенняй ночы.

Як ён ішоў, чым дыхаў — цяжка сказаць, але ішоў, часам спыняўся, пыхкаў, лапатаў параю і зноў ішоў, марудна і няўпэўнена, вобмацкам, як сляпы. У закураных ліхтарах маргалі і дагаралі свечкі, а ў іншых вагонах было зусім цёмна. Але ніхто ў цягніку не спаў. Нават тых, каму пашэнціла ўшчаміцца і расцягнуцца на верхніх паліцах, не браў сон. Яны ўсё чулі, пра ўсё па-свойму меркавалі і нястомна думалі: «Як то яно будзе?», «Куды паверне?», «Чым гэта ўсё скончыцца?». Адны цяжка ўздыхалі, другія разважалі ўголас:

— От бальшавікі кажуць: зямля сялянам, фабрыкі рабочым. Усё гэта добра. А як узяць тую зямельку, калі яна панская? Заарэш, толькі сілу ўваб'еш, насенне зглуміш...





Аляксандр Салавей.

— Насенне што? Глядзі, яшчэ ўрэжуць па азадку дваццаць пяць гарачанькіх, як некалі ў пана Іваненкі.

— Э, ваўка баяцца, у лес не хадзіць! Калі тое было! Тады ж слабоду па царскім маніхвесце давалі, ды з рук не пускалі. Паткнуліся абрэзаць панскую зямельку, а казакі па дзвюх палавінках як урэзалі, дык аж цяпер свярбіць! А гэтая слабода нашая без цара і без пана... Сам бачыў, як у Бабруйску на Казначэйскай нейкі дзяцюк сунуў кулаком у храпу гарадавому, а той толькі юшку выцер, лахі пад пахі, ды — ходу.

— Не, што не кажы, а зямля наша,— казаў немалады салдат з пшанічнымі вусамі і перавязанаю брудным бінтам рукою.

— Наша то наша, а ці будзе з яе каша? От вапрос! — сумняваўся сухенькі дзядок з рэдзенькаю бародкаю, навіслымі брывамі і зморшчаным маленькім тварам. На старым выцертая рудая світа, на тоўста накручаных анучах ледзьве ліпелі лапці. У зубах свістала маленькая счарнелая люлечка.

Гаманіў увесь вагон. За дымам самакрутак не відно было твараў, толькі варушыліся калматыя цені ў авечых шапках, кажухах і світах.

Да гаворкі старога з салдатам прыслухоўваўся чалавек у шынялі, у салдацкіх чаравіках з абмоткамі, у шапцы без какарды. Ён сядзеў у кутку, трымаючы паміж каленямі вінтоўку, пад лаўкаю ляжаў яго зацухмолены салдацкі мяшэчак. Ён здагадваўся, што стары і салдат з іхняй воласці, бо ведаюць пра пана Іваненку і пра тое, як мужыкі ў дзевяцьсот пятым годзе дзялілі панскую зямлю, помняць і казацкія бізуны. Але ні таго ні другога ў змроку вагона пазнаць не мог.

— Дый ці доўга ўседзіць гэная ўласць? — не суніма́ўся стары.— Дом Раманавых трыста гадоў стаяў, а Керанскі ледзь паўгода праліпеў. Кажуць, у спадніцы ходу даваў. Не, браце, пачакаць трэба, паглядзець, што з гэтага выкруціцца. А зямля нікуды не дзенецца, калі праўда — нашая, дык нашаю і будзе.

Чалавек у шынялі праціснуўся паміж абутых у лапці ног, кажухоў і клункаў на праход, прыгледзеўся да старога:

— Ці не з Карпілаўкі дзед будзе? — запытаў ён.

— А ты чый жа такі ўгадчык, што пазнаў? Чакай, чакай, лічнасць недзе бачыў,— дзядок падаўся наперад.— Эге, ці не Раманаў сынок часам? Толькі каторы?

— Глядзі ты, пазнаў. Ляксандра я, самы большы.

— Я то думаю, ці не Салаўёў гэта латышок... У водведкі ці насаўсім?

— Наваяваўся за сябе і за тых, што не радзіліся яшчэ. Хопіць! Пара за зямлю брацца. А яна, дзед, наша і не сумнявайся. Крывёю заплачана за яе, а купчую сам Ленін падпісаў.

— Ці не кантужаны ты, што ні мяне, ні старога не пазнаеш? — запытаўся салдат з перавязанаю рукою.

— Ну, канешна, Анупрэй!.. Драпеза...— ляпнуў Аляксандр салдата па плячы.— Дзе ж цябе, чорта, пазнаеш: завусацеў, перапаў, толькі нос ды вусы тырчаць. Як гэта собіла нарвацца на дурную кулю?

— Эт, ярундовіна. Кукса гэтая ў мяне, як пропуск: каму не тыцну — дарогу дае. Цяпер дадому. Тры гады не быў. Старым трэба памагчы на ногі стаць.

— А я, брат, сёмы год, як з дому. А дзе цяпер той дом, сам не ведаю...

— Хэ! У Харомнае твой стары з Ганнаю ды Марылькаю ў самым пачатку вайны перабраліся,— сказаў дзядок з рэдзенькаю бародкаю.— Яго пан з Хлебнай паляны турнуў. А колькі ён там, гаротнік, карчоў папаварочаў, колькі карэнняў пападраў, зямлю, як пух, вырабіў, а яго каленам пад зад — ідзі, куды хочаш. Дык ён у Гатальскага цяпер з трацiны петуецца. З сяструхаю тваёю ўдваіх упрэгліся, а сыны за веру, цара і ацечаства ў акопах крываваю юшкай умываюцца.

— Цяпер і я бачу, што гэта дзядзька Цярэшка. Змарнелі ж вы нешта. Каб так дзе сустрэў, дык і не прызнаў бы.

— Дзіва што змарнеў. Не з вяселля, браце, еду. Дзесяць месяцаў вошы ў бабруйскай цюрме прудзіў. Баланды з тараном пасёрбаеш, сухара згрызеш і дровы цэлы дзень рэжаш.

— За што ж гэта вас? — запытаў Аляксандр.

— А трасца іх матары ведае, за што! Прысукаўся аканом з двара, што я капу панскага ячменю ўкраў. Цягаў, цягаў мяне ўраднік, потым у валасной цёмнай пацукоў лавіў, а ён, выжлятнік, прыйдзе ды тронкамі сашкі так спаласуе, што ні стаць, ні сесці. Я ж ні сном ні духам нічога не ведаў. І якраз незадоўга перад тым, як скінуць Мікалая, упяклі аж на тры гады. Тых, што проці цара гаварылі і афішкі расклейвалі, паўпускалі, а на мяне кажуць: «Зладзюга, сядзі». От і сядзеў. Каб ужо ведаў, што так будзе, дык украў бы не то што ячменю, пшаніцы прытарабаніў бы, каб бабе хоць на зацірку было. Бальшавікі, дзякуваць ім, пусцілі. Прыйшоў нейкі іх глаўны, чорненькі, кучаравы, паадчыняў дзверы і кажа: «Выходзьце, таварышы, слабода! Ленін,— кажа,— дэкрэт выпусціў: зямля, значыцца, мужыку, а заводы рабочым. Ета,— кажа,— Савецкая ўлась называецца. А цэрквы і цюрмы,— кажа,— зраўняць трэба з зямлёю». Ну, цюрмы я сам бы ўсе папаліў. А што ім цэрквы замінаюць? Без бога, як той казаў, ні да парога. Без веры чалавек, як гавяда бязрогая.

Аляксандр засмяяўся. Ён паклаў руку на плячо старому:

— Царква, дзядзька Цярэшка, тая ж цюрма для душы чалавека. А колькі зямлі папоўскай па ўсёй Расіі! Яна ж нашая, зямелька тая. На фронце равуць грывастыя стаеннікі з крыжамі ў руках, забіваць бласлаўляюць, на смерць жывых саборуюць. А за каго? Каму гэта трэба? От і мазгуй, каму тут верыць...

У ліхтары дагарала свечка. Вагон стукаў і рыпеў, зыбаючыся на стыках і стрэлках. За акном была чарната асенняй ночы. Аляксандр на самай верхняй паліцы ўгледзеў новыя хромавыя боты, што вытыркаліся з-пад афіцэрскага шыняля, цёмную патыліцу, а вуха і твар былі прыкрыты вайсковаю фуражкаю без какарды.

— Нейкае ваша благародзіе едзе ў наш бок,— кіўнуў ён уверх.

— Садзіўся нейкі абскубаны афіцэрык, без палетаў, і гузікі сукном паабшываныя. Здэцца, з Ермаліцкай пароды. Як зашыўся ў



Бабруйску, дык не чхне. Відаць, не ў свой вагон сеў,— адказаў стары Цярэшка.

Цягнік спыняўся каля нейкіх цьмяных агеньчыкаў, чухкаў паравоз, чутна была знадворку лаянка асіплых галасоў, праплывала за акном жоўтая пляма ліхтара, спалохана ўскрыкваў гудок, зноў павольна ляскалі колы, калыхаўся састаў і поўз у цемрадзь.

У вагоне храплі, чухаліся і мармыталі спрасонку. Стаяў цяжкі дух разапрэлых ануч і аўчын, пякельнага самасаду і дзёгцю. У цёмных кутках яшчэ гаманілі дзядзькі пра надзелы, пра казённы і памешчыцкі лес, пыталіся адзін у аднаго, ці надоўга тая слабода, ці не боязна дзяліць панскую зямлю, каб потым усё гэта бокам не вылезла.

Аляксандр прыткнуўся на краёчку лаўкі, прыплюшчыў вочы, але не спаў. Ён прыслухоўваўся да ўсяго, пра што гаварылі ў вагоне. Сялянскія трывогі і няўпэўненасць былі зразумелыя яму: людзям не верылася, што зямля можа быць іхняй — скінулі цара, а паны як былі, так і асталіся, і той жа стражнік з мешалкаю пры боку хадзіў па сяле і не аднаго такога Цярэшку ні за панюх табакі загнаў у каталажку. От і баяцца яшчэ. А яны ж цяпер самі — улада. Толькі адкрый ім вочы, каб паверылі ў сябе, каб зразумелі, што стрэслася ў свеце.

Аляксандр успамінаў усё, што бачыў і перажыў за гэты тыдзень. Няўжо прайшоў толькі тыдзень? Ён зірнуў на свае каляныя салдацкія чаравікі. Здавалася, з іх яшчэ не атрэсся пыл петраградскіх вуліц, а шынель яшчэ пахне дымам кастроў, што палалі каля Смольнага і на плошчы перад Зімнім палацам. Ён бег разам з матросамі і салдатамі па гэтай плошчы, лез праз чыгунныя вароты, потым па мяккіх дыванах ступаў з прыступкі на прыступку, усё вышэй і вышэй, у такім святле, што аж сляпіла вочы. Потым бачыў, як матросы выводзілі напалоханых міністраў у расшпіленых мундзірах і накінутых на плечы шынялях, як бегалі салдаты па залах, калідорах і шукалі самога Керанскага.

Круцілася ў галаве кола ўспамінаў: даўжэзныя гаманлівыя, поўныя салдат і матросаў калідоры Смольнага. Здавалася, ён і цяпер чуе бразгат вінтовак і кацялкоў, грукат падкаваных ботаў змены каравула. Адзін раз ён бачыў, як з вялікіх дзвярэй, трымаючы ў руцэ доўгую тэлеграфную стужку, выставіўшы наперад плячо, нібыта разразаючы моцны вецер, прабег па калідоры невысокі з лысінаю чалавек. Усе расступаліся, давалі яму дарогу. Ён з некім вітаўся, нешта некаму гаварыў і так, як з'явіўся, нечакана знік за высокімі дзвярыма. Услед за ім каціўся шэпт: «Ленін! Ленін пайшоў! Бачыў Леніна? Гэта ж быў ён».

**Яўген ХВАЛЕЙ**

●

## ЧЫРВОНЫ КАСТРЫЧНІК

**Мы яму абавязаны,**
**Ён, як май малады.**
**З ім навекі мы звязаны,**
**Як з зямлёю дубы:**
**Бо бацькоўскаю кроўю**
**Ён здабыты ў баях;**
**Ніткай матчынай кроіў**
**Хлеб у грозных гадах;**
**Раздаваў лусты ўдовам —**
**Не згубіць бы сірот...**
**Падымаў золак новы**
**Над зямлёй на ўвесь рост.**

Зноў нарастаў грукат прыкладаў і крокаў. Аляксандр прахапіўся. Стукалі колы. Насупраць, скурчыўшыся, як малое дзіця, спаў дзядзька Цярэшка. Храплі і мармыталі ў сне мужчыны і кабеты. Прыхінуўся шчакою да жалезнага прэнта і роўна соп Анупрэй. Толькі круціўся на мулкай паліцы «абскубаны афіцэрык», але, убачыўшы Аляксандра, сцішыўся і прыкінуўся, што храпе і ён.

Аляксандр прыхінуўся да акна, хацеў пазнаць, дзе яны едуць. Да чорнай шыбіны папрымярзалі снежныя крупы, пашарэла зямля, і больш нічога не было відно.

Так болей ён і не заснуў, аж пакуль не прыехалі ў Ратміравічы. А далей цягніку не было куды ісці — тупік.

Загуў, замітусіўся, загаманіў вагон. Свечка даўно дагарэла. Спрасонку ўсе таўкліся, штурхаліся, тыцкаліся, як сляпыя. З-пад ніжніх паліц сунуліся нечыя ногі, на іх наступалі тыя, што праціскаліся ў праходзе, спатыкаліся і лаяліся на чым свет стаіць, зверху на галовы спаўзалі нейкія клункі, ношкі і торбы, ссоўваліся спіны ў кажушках і світках. Усе агрызаліся і крычалі.

Аляксандр пачапіў мяшэчак на адно плячо, перакінуў вінтоўку і, калі схлынуў натоўп, падаўся к выхаду. За ім выйшлі Анупрэй і Цярэшка.

Гразь падшэрхла. На стрэхах і ў разорах бялеў першы кволы сняжок, нібы хто прысаліў зямлю. Пасля вагоннай цеснаты і распаранай духаты цела калацілі дрыжыкі, вецер працінаў тонкі выцерты шынель. Прыйшлося яго падперазаць папругаю.

Аляксандр азірнуўся: вагоны апусцелі, у парадзелым змроку людзі разыходзіліся хто куды. Не відно было толькі афіцэрыка з верхняй паліцы.

Нібы здагадаўшыся, каго выглядае Аляксандр, загаварыў дзед:

— Будзіў гэтага Ермальчука, а ён нібы апруцянеў...

— Яму з намі не па дарозе. Пойдзем, мужчынкі.

Топчучы пругкія грудкі стылай гразі, яны ўтрох звярнулі на сцежку і спорна пайшлі праз густы ракітнік, што рос адразу за станцыяй. Пад нагамі шамацела хрусткае лісце.

Над вёскаю падымаліся белыя стаўбуны дыму, а ў акенцах пагойдвалася няроўнае святло — палілі ў печах. Крычалі пеўні, вішчалі парсюкі, рыпелі пры студнях вочапы. Пачынаўся сінявата-шэры ранак позняй восені.

Усе гэтыя гукі, гаркаваты пах дыму і прыгарэлай бульбы, нізкае неба і прыцярушаная першым сняжком зямля былі Аляксандру да болю знаёмыя. Ён успамінаў родныя краявіды ў акопах пад Перамышлем, у балотах Піншчыны, у царскасельскім шпіталі. Яны мроіліся яму бяссоннымі начамі ў Смольным, і часам не верылася, што зноў давядзецца хадзіць па гэтых сцежках.

Сем гадоў ён не быў дома, сем гадоў нічога не чуў пра бацьку і Марыльку, пра добрую і чулую мачаху. Усіх мачах звычайна лаюць і клянуць, а цётка Ганка была, як родная маці: чатырох выгадавала. Успомнілася, як на прызыў праводзіла яго аж да Парыч, усё нешта пхала ў торбу і галасіла, як па родным сыне.

Да вайны Аляксандр служыў у Гатчыне, у кавалерыйскім палку, і тады-сяды палучаў ад бацькі кароткія пісьмы. Стары жаліўся, што цяжка адрабляць арэнду: Косцік яшчэ слабаваты, Марылька хоць пруткая, здатная да работы, але яшчэ малая і яе шкода вельмі моцна залыгваць у ярмо, а Петрыка забралі ў салдаты. Пісаў, што Рагуля ацялілася бычка з белаю лысінкаю і яны збіраюцца яго гадаваць. Бацькавы пісьмы пахлі роднаю хатаю, нагадвалі маленства ў Хлебнай паляне, цесную зямлянку на ўзлессі. Тады яшчэ жыла мама. Статная, бялявая і зусім маладая. Тата яе зваў Лавізаю. Сынок часам папраўляў яго:

— Не Лавіза, а Луіза наша мамка!..

— А хіба не адно і тое? Лавіза яшчэ лягчэй.

Мама гаварыла па-латышску, спявала латышскія калыханкі і расказвала дзецям казкі далёкай Курляндыі. Часам заходзіў адведаць дачку і ўнукаў высокі, крыху сагнуты, вусаты Крышан Якшэвіч. Ён зімою і летам насіў камізэльку з казловае кажушыны. Садзіўся на парозе цьмянай зямлянкі і моўчкі курыў. Відаць, нудзіўся па сваёй Курляндыі, шкадаваў, што дачку замалада абселі дзеці, што б'ецца яна ад цямна да цямна на панскіх лядах, а шчасця і блізка не відно.

Стары Крышан шанаваў свайго зяця Рамана за працавітасць, цвярозасць і сумленне. Любіў ён і ўнукаў, але нейкаю стрыманаю, маўкліваю любоўю.

Па дарозе Аляксандру ўспаміналася, як вечарамі каля камінка бацька латаў хамут ці аброць і расказваў дзецям пра сваю маладосць, пра тое, як адразу пасля жаніцьбы пайшоў да панскага ўпраўляючага Ганса Хрыстафоравіча Мухеля сказаць, што кончылася яго і Луізіна парабкоўства. Ён папрасіў на першы час за адработкі, а як разжывуцца, у арэнду кавалачак зямлі.

— Зэмля нужна сдэлать,— адказаў сухапары немец.

Раман не зразумеў, як можна «сдэлать» зямлю і толькі моўчкі лыпаў вачыма.

— Рубіт лес, вірывайт корні, как его, пэнькі, пэнькі. Там — зэмля, хлебный зэмля, будэт хлэбный паляна. Панімайт?

Так і дагаварыліся: Раману за балацінаю адвялі кавалачак лесу. Удваіх з маладою жонкаю выкапалі яны зямлянку, накалолі плашак, абклалі імі сцены, з гліны збілі печ, яловаю карою і дзёрнам прыкрылі страху, пачалі жыць. Валілі сосны, палілі лаўжы, хадзілі закураныя і паабдзіраныя. Падсякалі, абкопвалі і выдзіралі пні, і кожны лапік дзірвану па некалькі разоў капанічылі. Плуга ж не ўваб'еш у тое ламачча. А ўвосень пасеялі пуды са тры жыта. Першыя чатыры гады, пакуль карчавалі, арэнды Мухель не браў. На пяты год Раман збіраў па капейцы, па залатоўцы, каб аддаць Мухелю пяцьдзесят рублёў, на шосты — сто, а на сёмы — усе паўтары сотні.

Ступаючы ўскрай дарогі, Аляксандр глядзеў на заінелыя лугі і балаціны, на далёкія і блізкія лясы і думаў: «Цяпер гэта ўсё наша». З ім параўняўся дзядзька Цярэшка. Відаць, старому карцела пагаварыць, бо, гамончы, ісці весялей і не так дарога сцягваецца. Ён кіўнуў галавою на лёгенькі салдацкі мяшэчак, што матляўся за Аляксандраваю спіною:

— Служыў, служыў, кажаш, хлопча, ваяваў, ваяваў і ў Піцеры быў, а торбачку пусценькую дадому нясеш...

— Тут, дзядзька, такое багацце, што яму і цаны няма.

Цярэшка падбег бліжэй, азірнуўся і шэптам спытаў:

— Няўжо золата?

Аляксандр толькі ўсміхнуўся.

— Можа і праўда ў царскіх пакоях наадкалупваў? Там жа, мабыць, і завесы і клямкі залатыя. Нааддзіраў бы з дзесятак, от і было б на разжытак. Брэшуць ці не, што ў цара Мікалая гаршчок пад ложкам і — той залаты быў...

— Брэшуць, дзед. Усё золата Мікалашка на снарады пераліў ды на генеральскія крыжы.

— А ты хоць які крыжык заслужыў?

— Заслужыў... Добра, што не бярозавы. Два Георгії, чатыры кулі і тры медалі заслужыў. От і ўвесь мой набытак за сем гадоў царскай службы.

Дзед Цярэшка адстаў і пайшоў следам. Ён усё пазіраў на зашмальцаваную торбачку і думаў: «Ніхто і не змікіціць, якое багацце чалавек нясе... Дзіза, што і стрэльбу з сабою ўзяў. Калі што, дык бараніцца ёсць чым. А ў мяне што? Жменю вошай на волю нясу, мех ануч ды арыштанцкую міску з кубкам. Не кідаць жа дабро ў пустой камеры».

Ішлі моўчкі. Вецер працінаў бок, ляскаў крысамі шыняля, сек у шчокі дробнаю, колкаю крупкаю.

На загонах палегла схопленая першымі замаразкамі рунь, сівелі прыцярушаныя нясмелым сняжком папары, над пацямнелымі стагамі крычалі вароны і садзіліся на стромкія сцежары. Такога прастору, такой цішыні ў Аляксандравым жыцці даўно не было. Ад хуткай хады ён расчырванеўся і расшпіліў каўнер шыняля. А думкі, успаміны далёкага і блізкага мінулага не давалі спакою. Можа таму, што за апошнія гады не было калі ўспамінаць і думаць пра родныя мясціны: тры гады ў акопах, у гразі і ў крыві, заўсёды на нямецкай мушцы. Толькі і ведаў тады: зараджай, страляй, ляці ў атаку, адступай, поўзай у акопе, дыхай парахавым дымам і прэллю сырой зямлі, гарачай крывёю і потам. Часам так хацелася ўзлезці на цёплую чарэнь бацькавай печы і моцна заснуць пад спеў цвыркуна і гоман ветру... Але ўсё гэта было такім далёкім і недасяжным, што не хацелася дарэмна вярэдзіць душу. Цяпер ён даў волю сваім думкам.

Ён бачыў Хлебную паляну — лапік зямлі, раскарчаванай бацькамі сярод дрымучага лесу. Маленькі, ён баяўся ваўкоў і страшыдлаў, што кігікалі то савою, то раўлі крумкачом. Потым адважыўся і пайшоў па сунічных узгорках, па грыбных баравінах, па цубкім брусніцніку і багуне. Лес быў таямнічы і ласкавы. Успаміналася бясхлебіца кожнай вясны, недароды і нястачы. Але ніколі паміж бацькоў не чуў ні папрокаў, ні сварак. Калі сяк-так скідалі хату і трохі разжыліся, бацька выпісаў газету і вечарамі чытаў уголас усёй сям'і, хоць маці і яны, малыя, кепска разумелі тое, што ён чытаў: усе, апрача бацькі, гаварылі на матчынай мове.

Некалі ў Рудабелку аж з Курляндыі пераехала сямей сорак латышоў. Адны былі парабкамі ў пана Іваненкі, другія арандавалі такія ж ляды, як і ягоны бацька, трэція бандарылі, стальмахавалі, рабілі на бровары ці ў млынах.

Увосень нанялі латышы паўхаты, і стары Трэйзін пачаў вучыць дзяцей. А ў нядзелю сюды збіраліся мужчыны і кабеты, каб памаліцца богу. Чатыры зімы адхадзіў у гэтую школу Аляксандр. Ён добра чытаў і пісаў, складаў і памнажаў, але больш за ўсё любіў кніжкі пра расліны. Іх даваў яму настаўнік і часта казаў: «Вырасцеш, навучышся і будзеш аграномам». Аляксандр і сам марыў уведаць сакрэт, каб зямля добра радзіла, каб не было недародаў, каб не пухлі з голаду дзеці. Яму так хацелася абдурыць пана і збіраць на сваіх лядах столькі жыта і бульбы, што ні Мухелю, ні Іваненку і не снілася.

Але дзе там яму было да таго аграномства!

Увярэдзілася, варочаючы калоды ў лесе, маці. Паенчыла, пастагнала з тыдзень і згарэла, як свечка. А бацька толькі што выплаціў арэнду, і ў хаце не было болей ані шэлега, каб наняць папа і адслужыць па нябожчыцы малебен. Не было грошай і ў дзеда. Прыйшлося ўпрасіць айца Серафіма, каб хоць за адработкі правёў гаротніцу на вечны спакой. Потым усю вясну Аляксандр араў і баранаваў папоўскія маргі.

Яму зрабілася маркотна і горка ад гэтых успамінаў. Ён павярнуўся назад, счакаў, пакуль дагоніць Цярэшка, і запытаў у яго:

— А Пракоп Гошка яшчэ жывы?

— Гэта каторы Пракоп, мо «Певавар»?

— Але, «Півавар»,— усміхнуўся Салавей.

— Што яму адходзіць? Ніякая трасца не бярэ.

Аляксандр зноў пайшоў спорнаю хадою і ўспомніў, як некалі Пракоп на сваім хутары варыў піва на хрэсьбіны. А яно так усхадзілася, што выбіла шпунт. І трэба ж было, каб той шпунт якраз уцэліў Пракопу ў лабаціну, ды так лупянуў, што той аж звіўся. Паўдня адлівалі няшчаснага. Ад таго і пайшло — «Певавар» і «Півавар».

Калі добра выбіднела, узышлі на халопеніцкі мост. На берагах пасівеў няскошаны сітнік, на голай лазе дрыжаў доўганькі чырвоны лісцік. Завівалася на вірах цёмная вада. Спыніліся перадыхнуць. Аляксандр паставіў каля парэнчы вінтоўку, дастаў кісет і пачаў частаваць фабрычнаю махоркаю.

Стары доўга цмокаў люлькаю, а як добра ўгарэлася, сеў на брус, прыжмурыў хітранькія маленькія вочкі і пачаў распытваць:

— Скажы ты мне, Аляксандра, хто ж цяпер намі камандаваць будзе? Цара скінулі, міністраў разагналі, гэты аблакацік, кажаш, у спадніцы ўцёк. А без галавы ды без аброці народ, як чарада авечак без барана, разбрыдзецца куды каторы. Дык, як яно будзе, га? Без уласці неяк непрывычна...

— Уласць, дзядзька, у народа цяпер у руках. Саветы будуць усім кіраваць. Рабочыя, сяляне, салдаты выбіраюць сваіх дэпутатаў, тыя збіраюцца і рашаюць, што і як рабіць. Саветы цяпер усяму галава.

— А хто ж будзе самы глаўны над тымі Саветамі, каб слухаліся яго, ну... можа часам пабойваліся. Бо дай чалавеку волю, каб ён рабіў, што захоча, папераграызаюць адзін аднаго. Скажам, табе захочацца ўхапіць лепшую валоку панскай зямлі і я на яе прыцэлюся. От і шчэпімся загрудкі — каламі не разбароніш. Не, браце, улась трэба, каб парадак быў.

— На тое бальшавікі і рэвалюцыю рабілі, каб мы самі гаспадарамі над усім былі.

— А хто яны, тыя бальшавікі, скажы ты мне, хлопча? Кажуць, бальшавікі, бальшавікі, хоць бы аднаго пабачыць, што за ён.

— Паглядзі на мяне, дзед.

— І на мяне,— разгладзіў пшанічныя абкураныя вусы Анупрэй Драпеза.

Цярэшка палыпаў вачыма, павярнуўся да аднаго, да другога, нібы бачыў іх першы раз, устаў, пачапіў на плечы мяшэчак і першы сышоў з моста.

— А я тады хто? Меншавік? — агрызнуўся ён.

Да дому аставалася вёрст восем.

## 2

Хутар Сераброн стаяў у лесе, як у вянку. Наўкруг яго было валок дзесяць дагледжанай і добра ўробленай зямлі. Сярод саду — вялікі дом пад бляшаным дахам, цераз дарогу — абора і доўгі свіран з чэсанага бруса.

Да веснічак пад'ехала фурманка. З воза саскочыў той самы «аб-

скубаны афіцэрык», якога так і не дабудзіўся Цярэшка ў Ратміравічах. Ён счакаў, пакуль усе выйшлі з вагона, забраў свой чамадан і пайшоў наймаць фурманку, каб даехаць дадому. Доўга таргаваўся з упартым дзедам, якімі грашыма яму плаціць. Мікалаеўскіх той не браў, думскіх і керанак за грошы не прызнаваў і ўсё казаў: «От, каб золатам, можна было б і падвезці... Гэта ж вярстоў са дваццаць, калі не болей, будзе».

Ледзьве ўмалёгаў яго Казік Ермаліцкі і такі прыехаў да бацькавага дома. Ацерабіўся ад саломы, забраў куфэрак і моўчкі пасунуўся да форткі.

З будкі выскачыў велічынёю з добрага цяля руды ваўкадаў і, звонячы па напятым дроце колцам ланцуга, кінуўся насустрач. Казік адскочыў і прычыніў брамку. Ланцуга не больш як на аршын не хапала да варот. Ашыйнік падняў на хібе поўсць, сабака станавіўся на дыбкі, кідаўся збоку ў бок, выскаляючы вялікія жоўтыя іклы.

— Пірат, Пірат, што ж ты, дурненькі, сваіх не пазнаеш! — улагоджваў яго Казік.

Гэта быў не той Пірат, якога ён некалі гадаваў шчанюком, другі — страшнейшы і большы. Але Казік ведаў, што ўсіх сабак, якія вяліся ў іх двары, бацька інача не зваў, як Пірат. Адкуль ён узяў гэтае сабачае імя і што яно значыла, ніхто не ведаў.

І гэты крутнуў хвастом, перастаў кідацца, але ўсё яшчэ вурчэў і выскаляўся.

У акне нехта паказаўся ў белай хусцінцы, зірнуў і знік. Але з дзвярэй ніхто не выходзіў. А Пірат гыркаў і мітусіўся каля самай форткі. Возьмецца Казік за клямку, а сабака зноў на дыбкі і — заходзіцца брэхам...

Ляпнула клямка, шырока расчыніліся дзверы, і на ганак выйшаў бацька. Здавалася, што ён паменшаў, раздаўся ў плячах, зусім аблысеў.

— Пірат, на месца! — сабака ўтуліўся і нехаця пасунуўся ў будку.

— Што васпану трэба? — спытаў стары, не сыходзячы з ганка.

— Ці не тут жыве Андрэй Ермаліцкі? — захацелася пажартаваць Казіку.

— А каб цябе бог любіў! Няўжо сынок! Анэта, чуеш! Барджэй сюды! — і стары кінуўся сыну насустрач.

Ён паказытаў Казікаву шчаку калючаю барадою, ухапіў цяжкі куфэрак і панёс да ганка. Выціраючы аб фартух рукі, насустрач бегла маці. Яна тыцкалася ў сынаву шчаку і ў цубкія падкручаныя вусікі, смаркалася і выцірала фартухом слёзы.

— А дзіцятка ж маё! Матчыны малітвы дайшлі да ўсявышняга! Дзякаваць богу, што цэлы вярнуўся!

— Хадзем у хату, мама. Там пагаворым.

У доме ўсё было так, як і да Казікавага ад'езду. Стаялі два вялізныя акаваныя жалезнымі шынамі куфры, сточаны шашалем камод, доўгая дубовая канапа. Толькі разлапушыліся фікусы і пазасланялі вокны. Маці бегала ў клецьь, мітусілася каля прыпечка, на трынозе цвырчэла яешня, бацька кроіў чырвоную добра завэнджаную паляндвіцу.

Казік у споднім кашулі плёскаўся і фыркаў пад вялікім мядзяным умывальнікам. Потым доўга прычэсваўся перад счарнелым аблузаным люстрам, падбіваў рукою густыя каштанавыя валасы, падкручваў густыя кароткія вусікі.

— А дзе ж Гэлька? — успомніў ён пра сястру.



— Ат, скруцілася дурніца. Ніякага зладу з ёю няма. Можа б ты паўшчуваў? Я ўжо і лейцамі гразіўся, і замуж хацеў за Невяроўшчыка аддаць, дык і не блізка. Ушалопалася ў нашага парабка. Можа ж помніш Івана Кандратавага з Кавалёў? Бясштэніка з абадранцаў. А так сабою відны, чубаты і не гультай... Хацеў яго яшчэ «на Юр'я» прагнаць, дык ушчала такі лямант: «і павешуся, і ўтаплюся». Чаго добрага, думаю, і праўда рукі на сябе, дурніца, наложыць, сораму не абярэшся. І так усім наша дабро вочы коле. А сёння досвіта ў млын разам паехалі. Як ведаў, што шатровачка на бліны трэба будзе...

Казік спахмурнеў. Сястру ён пакінуў цыбатым падлеткам, а цяпер, выходзіць,— паненка. Хітры, відаць, гэты парабчук: задурыў ёй галаву, а сам на бацькаў хутар аблізваецца. Думаў, больш наследнікаў няма, жывым хацеў пахаваць...

Маці заслала велікодны кужэльны абрус, расставіла талеркі, унесла запацелую бутлю налiўкі, дастала з палічкі прысадзістыя рубчастыя чаркі.

Сына пасадзілі на кут пад абразы. Побач з Мікалаем-чудатворцам вісеў партрэт імператара і самадзержца ўсея Русі Мікалая другога. Казік сядзеў у расшпіленым мундзіры. Бацька, наліваючы ў чаркі чарнічную настойку, не зводзіў з сына вачэй.

— За яго імператарскае вялічаства і ўсю царскую фамілію,— устаўшы, апаражніў Казік сваю чарку.

Бацька падняцца не дагадаўся, перакуліў кілішак, крэкнуў і занюхаў мякішам хлеба.

— Сярдзітая, халера: спірытус з панскага бровара,— стары ўторкнуў на відэлец тоўстую празрыстую скварку і пачаў жаваць.

Маці толькі прыгубіла чарку і выскачыла ў кухню.

— Дык што гэта будзе, скажы ты мне, Казічак? Як жыць будзем?

— А што? Жыцьмем, як жылі.

— Рэзрух нейкі пайшоў. Не разбярэш, што да чаго. Рудабельскія галадранцы плявузгаюць, што ўжо і Керанскага скінулі. Якія ж грошы цяпер будуць, скажы ты мне? Кацярынкі ляснулі, керанкамі хоць падатрыся... А я тыя і гэтыя берагу. Пойдуць, няпраўда, і яшчэ ў якой цане будуць! Мазалём жа загараваныя.

— Керанскі Аляксандр Фёдаравіч праспаў Расію на царыцыных пярынах, і грошы яго можаце спусціць, пакуль не ўсе ведаюць. А цар-бацюшка яшчэ пакажа сябе. Генералы прыдушаць гэты цёмны зброд. Сілу збіраюць вялікую. І нам тут няма чаго драмаць у шапку.

Бацька падліваў у чаркі і не прапускаў ніводнага сынавага слова: ён то ўсё ведае. Ахвіцэр! Не раз, мабыць, вось так, у афіцэрскім сабранні, з генераламі разам сядзеў, чуў, што разумныя кажуць.

Маці тупала каля стала і не зводзіла з сына вачэй. Аж не верылася, што гэта той самы Казічак, які на вогнік і на залатуху хварэў, які шчыглоў увосень лавіў на каноплях...

— Дзе ж цяпер наш пакутнічак цар з наследнікам, з Аляксандраю Фёдараўнаю ды княжнамі?.. Няўжо ж і праўда ў цюрме?

— Гэта ўсё бальшавіцкія выдумкі, мама. Яго так схавалі, каб ніхто і не пазнаў, і пераправілі ў Францыю. Там ён жывы і здаровы. Як толькі раздушым бальшавіцкую нечысць — калі ласка, ваша імператарскае вялічаства, займайце прастол... От тады зажывем. А скуру з гэтых «таварышаў» на барабаны нацягваць будзем.

— Дык ты зноў збіраешся нас пакінуць, Казічак? — спалохалася старая.

— Хіба тут няма гэтай погані? Ехаў са мною ў поездзе Салаўёў сынок з нейкім старым зладзюгам. Наслухаўся я іх! От і будзем душыць, каб юшка пацякла. Вешаць свалачэй трэба. Гэты, пэўна, дзякрэцікаў бальшавіцкіх навёз. На чужую зямлю ласы. Тры аршыны ім адмераем і асінавы кол загонім.

— Твая праўда, сынок. Гэтыя рудабельскія зрэбнікі яшчэ ў японскую вайну бунтавалі. Гэта ж трэба, зямлю панскую дзяліць надумаліся, дзве пуні ў двары спалілі! Ну ж і ўрэзалі тады ім казакі, што і цяпер чухаюцца. А самых заядлых у Сібір пазаганялі, адкуль крумкач і касцей не прыносіць. Дай ім толькі волю, пракаўтнеш, дык яны з глоткі выдзеруць.

Выпілі яшчэ па кілішку. Казік прагна еў і хваліў паляндвіцу. Маці ўсё падсоўвала і падкладвала яму смачнейшыя кавалачкі. Ён пацягнуўся да хрусту ў касцях, пахістваючыся, устаў з-за стала.

— А цяпер спаць.

— Я ўжо табе паслала, сыночак. Ідзі ў камору...

— Што я дома, нікому ні гу-гу. Калі хто бачыў, скажыце на дзень прыязджаў і зноў у часць вярнуўся. Шынель схавайце. А парабчука гэтага... каб і смуроду яго тут не было!

Няроўна ступаючы, Казік пайшоў у камору, пакрактаў, сцягваючы хромавыя боты, і хутка захроп.

Андрэй Ермаліцкі нізка звесіў галаву, утаропіўся ў стальніцу і доўга яшчэ думаў пра ўсё, аб чым толькі што гаварылі з сынам. Пальцы нервова качалі маленькую галачку з хлеба. Было чуваць, як шашаль точыць старую шафу.

## 3

Здалёк убачыў Аляксандр дым над комінам бровара, верхавіны старых ліп у панскім садзе — усё тое самае, што бачыў сем гадоў назад, калі ішоў у Парычы на прызыў. Толькі раскусціўся пры дарозе ракітнік, падраслі хвойкі на пясчаным узгорку.

Дзень шэры і зябкі. Палі прыцярушыў лёгкі сняжок, толькі рудзее сцежка, пратаптаная клетачкамі лапцей, ды каляіны поўныя каламутнай вады і тонкіх патрушчаных ільдзінак.

Вось і вялікі панскі сад. Апалае лісце згрэбена ў кучкі, на іх ляжыць зрэзанае сухое сучча. Відаць, збіраюцца паліць. Жалезная брама на чырвоных мураваных слупах замкнута, дарожка, што вядзе да высокага белага палаца, размецена, у вокнах пакояў бялеюць фіранкі.

Выходзіць, тут нічога не змянілася: параконкі вязуць да бровара доўгія скрыні з бульбаю, ідуць парабкі, дурманіць востры пах гарачай брагі. Відаць, па-ранейшаму ўсім камандуе панскі ўпраўляючы. У яго цяпер новы гаспадар — зяць былога царскага камергера — барон Урангель. Паны дрыжаць і туляюцца недзе ў бурлівым Петраградзе, а тут падразаюць сад, падмятаюць дарожкі, нібы нічога і не змянілася. Мабыць, і не ведаюць рудабельцы, што ўлада цяпер належыць ім, што панская зямля, бровар і гэты палац ужо іхнія. «Добрую школу можна зрабіць у пакоях»,— падумалася Салаўю.

Калі мінулі грэбельку праз Нератоўку, хлопцы развіталіся з Цярэшкам і пайшлі вуліцаю, абсаджанай старымі парэпанымі вербамі. На іх з вокан маленькіх хат пазіралі кабеты, спыняліся і доўга глядзелі салдатам услед дзеці. З веснічак выскачыла маладзіца ў падранай на плячы кофце, з закасанымі мокрымі рукавамі.

— Салдацікі, а салдацікі! Можа дзе пра майго што чулі? Кавалевіч Амяллян завуць. От кінуў поўную хату дзяцей і душыся тут з імі, а пра самога ні слуху ні духу.



Салдаты спыніліся, пераглядзелі адзін на аднаго.

— Не, Параска, не чулі пра твайго Амялляна.

Жанчына пляснула рукамі:

— А, божачка, ці ж не Ляксандра Раманаў гэта. І Ануфрэй, здэцца. А вой! Дзякуваць богу, што хоць жывыя, з рукамі ды з нагамі вярнуліся. А мой ужо недзе, мабыць, зямельку парыць. Ой, няшчасная я!..— загаласіла так, як, відаць, галасіла часта, чакаючы і ўспамінаючы свайго Амялляна.

— На пабыўку ці саўсім? — размазваючы слёзы, запытала Параска.

— Адваяваліся. Хопіць, — уздыхнуў Ануфрэй Драпеза.

— А стрэльбу нашто валачэш? Няўжо яшчэ не наняньчыўся з ёю?

— Прывык. Хай будзе. Можа яшчэ і спатрэбіцца,— усміхнуўся Аляксандр.

— Не плач, Параска... Калі жывы, прыйдзе твой Амяллян.

— Каб жа даў бог! — і пабегла ў двор.

У канцы Карпілаўкі Ануфрэй спыніўся:

— Мне сюды,— і працягнуў Аляксандру руку.

— Што, бальшавік, рабіць збіраешся? — спытаў Салавей.

— Што ўсе, тое і я. Савецкую ўласць рабіцьмем.

— А вінтоўку не ўзяў. Тут, брат, рэвалюцыю яшчэ толькі пачынаць трэба. Ты ж вельмі не прысыхай да бабы. Прыходзь у валасць. Збярэмся, падумаем, з чаго пачынаць...— Салавей паправіў на плячы вінтоўку і пайшоў, шастаючы апалым лісцем.



Ануфрэй Драпеза.



Максім Ляўкоў.

На валасці ранейшай шыльды з двухгаловым арлом не было. На зашчытку ганка, дзе яна вісела, відзён квадрат светлых дошак. Гэта абрадавала Аляксандра. Ён падняўся па прыступках і ўвайшоў у вялізную пустую зборню. У кутку на доўгай лаве сядзела старая жанчына і жавала кавалак падгарэлага скавародніка.

— Добры дзень, цётка!

— Эге ж, здароў, салдацік,— адказала яна, дажоўваючы кавалак.

Пры-ду-шыць.— Ён сціснуў жылаваты валасаты кулак,— у самым зародку прыдушыць нават думку пра «равенство и братство»... Мужык ёсць мужык, а пан ёсць пан. Улада належыць дужым і разумным абраннікам. А вы тут распусцілі нюні!

Мікалаю Мікалаевічу было крыўдна слухаць папрокі маладога пана. А ён жа чакаў падзякі, што збярог хоць тое, што можна было зберагчы. У глыбіні душы ён не столькі думаў пра барона, колькі пра сябе. Не раз з'яўлялася жаданне — захапіць самае каштоўнае і знікнуць з гэтай прапашчай завашыўленай і ўзбунтаванай Расіі. Уцячы, куды вочы глядзяць: у Румынію, у Чэхію або ў Францыю. Купіць кавалачак зямлі і быць гаспадаром самому сабе, а не служыць усё жыццё чорту лысаму. Але загаварыў пра іншае:

— Асмелюся далажыць, ваша светласць, калі б мы распусцілі нюні, дык ад вашага маёнтка засталіся б толькі галавешкі. Не без майго ўдзелу на хутарах дзейнічае адборны атрад нашых людзей пад началам маладога прапаршчыка Казіміра Ермаліцкага і былога настаўніка Парфіра Плышэўскага. Тры воласці даўно пад іх кантролем. А рудабельскай бандзе Салаўя сам Доўбар-Мусніцкі не даў рады. Гэтыя галаварэзы раззбройвалі салдат, не прапусцілі ў Ратміравічы браніраваны цягнік, заманілі ў пастку і перабілі цэлы атрад легіянераў.

— Не палохайце! Пра «страхі» я наслухаўся па дарозе сюды,— нецярпліва перабіў барон.— Давайце лепей падумаем, з чаго пачнем гаспадарыць. К вечару падрыхтуйце спісы ўсіх, хто расцягваў маё дабро, хто дзяліў зямлю, і прад'явіце ім рахунак: у дваццаць чатыры гадзіны ўсё даставіць на месца. Вам ясна?

Мікалаю Мікалаевічу было настолькі ясна, што аж твар яго пасвятлеў. Вярнуць усё назад, тое самае, што вырваць з воўчых зубоў ягня. А што на гэта скажуць рэўкомшчыкі? Яны ж недзе тут, пакуль што прытаіліся, нешта думаюць. І не проста так, без бою, пусцілі сюды немцаў. Можа, заманілі ў пастку? У кожным разе, спаць трэба не распранаючыся. А барону што? Накрычаў, загадаў і паехаў... Калі ўдасца, вядома. Гэтыя салаўі-разбойнікі і яго могуць пачапіць на сухую асіну.

— Без узброенай сілы, ваша светласць, нічога не зробіш,— асмеліўся ён прызнацца,— мужык азвярэў. Сілу трэба ламаць сілаю.

— Не палохайцеся. Нямецкія салдаты нам дапамогуць,— гаркнуў барон.

Мікалай Мікалаевіч выцягнуўся, як на парадзе.

— І яшчэ. Я хачу бачыць гэтага прапаршчыка і настаўніка. Падумайце, як гэта лепей зрабіць. А пакуль можаце ісці.

Мікалай Мікалаевіч знік за дзвярыма. Барон некалькі разоў прайшоўся па пакоі. Праз акно ўбачыў паджарага нямецкага афіцэра. Ён, ляскаючы кароценькім стэкам па наглянцаваных крагах, ішоў у палац. Барон пайшоў яму насустрач, каб, нібы незнарок, сустрэцца ў вестыбюлі.

— Гут морген, гер комендант,— весела і бесклапотна прывітаўся з ім барон.

Той выскаліўся конскай усмешкай і запрасіў у свой кабінет на першым паверсе.

«Хто ж тут, нарэшце, гаспадар? — з абурэннем падумаў Урангель.— Калі б мы з табою сустрэліся дзе-небудзь пад Сувалкамі, я б з цябе зрабіў рэшата, а пакуль... пакуль трымайся, генерал!»

Камендант прапанаваў барону садзіцца побач на канапе.

— Я вымушаны прасіць пана каменданта дапамагчы мне вярнуць



маю маёмасць, раскрадзеную бандытамі, і наогул навесці парадкі ў навакольных вёсках: пара пакончыць з бандытамі і трымаць мужыка ў страху і паслушэнстве.

— Армія не ёсць паліцыя, пан барон. І ўсё ж мы паможам вам. Але перш за ўсё — кантрыбуцыя. Хлеб, масла, сала неабходны імперыі. Мы іх будзем браць і пасылаць у фатэрлянд. А нам і вам павінны памагаць самі мужыкі.

— Як? — здзівіўся Урангель.

Камендант хітранька засмяяўся:

— Трэба выбраць самакіраўніцтва. Нацкаваць аднаго на другога: няхай грызуцца і памагаюць нам.

Назаўтра Мікалай Мікалаевіч з трыма салдатамі ездзіў вярхом на кані ад хаты да хаты і загадваў збірацца ў маёнтак на сход.

У панскі двор ішлі толькі старыя, павольна, неахвотна: ліха яго ведае, што там загадаюць. У кожным разе, ніхто дабра не чакаў. На дзядзінец перад пакоямі ўваходзілі маўклівыя і панурыя дзядзькі, кожны стараўся стаць воддаль, схавацца за нечую спіну. Сабралася і некалькі ўдоў. Сярод іх была і Параска, босая, у зрэбным андараку, у палінялай хустачцы, завязанай пад бараду.

Калі сабралася чалавек сорак, на ганак выйшаў нямецкі камендант і сам барон у расшпіленым кіцелі, без пагонаў, з чорнымі, нібыта прыклеенымі, валасамі, сухарлявы і тонкі, як хлудзіна. Многія «свайго пана» бачылі ўпершыню. Можа, каб не навалакліся германцы, так бы ніколі і не ўбачылі, што гэта за фрукт, што за барон Урангель...

Рыжавусы немец з конскімі зубамі падняў руку і загаварыў. Потым змоўк і паглядзеў на барона. Той выйшаў наперад, абвёў усіх маленькімі, глыбока схаванымі вочкамі:

— Пан камендант гаворыць: нямецкае камандаванне патрабуе паслушэнства і павагі да арміі яго імператарскай вялікасці Вільгельма другога. Супраціўленне распараджэнням улады будзе расцэнена як бунт. Бунтаўшчыкоў у часе вайны расстрэльваюць. За напад ці замах на нямецкага салдата вінаватыя і іх пасобнікі будуць пакараны смерцю, а вёска спалена.

Зноў загаварыў немец. Барон толькі ківаў галавою. Калі камендант спыніўся, пачаў перакладаць:

— Расія Германскай імперыі вінна вялікую кантрыбуцыю. Бальшавіцкія галадранцы плаціць не маюць чым. Таму кожны сялянскі двор павінен здаваць нямецкай арміі хлеб, масла, сала, мёд, лён. Дадам ад сябе: хто паслухаўся бунтаўшчыкоў і забраў хоць адну парушынку з майго маёнтка, павінен зараз жа ўсё вярнуць на месца. Чуеце? Заўтра ж! Хто гэтага не выканае, няхай яго дзеці праклінаюць бацьку за тое, што пакінуў іх сіратамі.

Камендант нецярпліва зірнуў на пана, паляпаў сябе па руцэ стэкам і загаварыў зноў.

— Усе распараджэнні нямецкага камандавання,— перакладаў барон,— будуць перадавацца праз валаснога старасту. Ім будзе ваш чалавек, які не знюхаўся з бальшавікамі, у якога вялікая сям'я і ёсць свая зямля.

— Міхала Званковіча,— шапнула Параска Мікодыму Гошку, а той, не варушачы губамі, пераказаў суседу.

— Ноччу хадзіць сурова забараняецца, пераходзіць з вёскі ў вёску можна толькі па спецыяльнаму пропуску, выданаму нямецкай камендатурай і воласцю. Дык хто варты быць старастам? — запытаў барон.

Нехта ззаду выгукнуў:

— Міхал Званковіч няхай будзе!
— Але ж, чалавек самастаяцельны,— падтрымалі яго.
— І футар мае добры.

Барон пашаптаўся з упраўляючым. Той паціснуў плячыма і развёў рукамі.

— А можа хто больш варты? — запытаў пан.

— Лепшых у нас няма. Няхай Міхал будзе,— загуў пракураным басам Мікодым, а за ім і ўвесь невялікі натоўп.

Так і абралі Міхала Званковіча старастам. А людзі разыходзіліся панурыя і змрочныя.

## 8

Маладыя і старыя, хто з кошыкам, хто з лубяною каробкаю, хто з аброццю за плячыма, з Карпілаўкі, Рудні, Кавалёў і Лаўстыкаў ішлі ляснымі сцежкамі, прабіраліся хмызнякамі і балацінамі на Зайцаў хутар. На ўзлессі была невялікая палянка, зарослая пабялелым ціпцам і званцом. Сюды і сыходзіліся «грыбнікі» і «ягаднікі». Садзіліся купкамі, курылі «пякельны» самасад, перакусвалі і паціху гаманілі. Калі сабралася чалавек семдзесят, з пахілай хаты, што стаяла на самым узлессі, выйшлі рэўкомаўцы і з імі нейкі незнаёмы малады хлапец у сіняй саціеветавай кашулі, саматканых штанах і залатаных ботах. Хоць і апрануты па-тутэйшаму, але ніхто яго не ведаў.

За паўвярсты, а дзе і за вярсту ад хутара Анупрэй Драпеза расставіў варту: можна было смела гаварыць. Калі ў круг выйшлі Салавей, Ляўкоў, Пракоп Малаковіч і той незнаёмы хлапец, усе прыціхлі. Салавей зняў шапку.

— Таварышы! — пачаў ён.— Рэўком сабраў вас сюды, каб пакуль што не вельмі настырацца з немцамі і не праліваць дарэмна людское крыві. Людзі нам яшчэ спатрэбяцца. А Савецкая ўласць была, ёсць і будзе. У рэўком вы выбралі невялікіх паноў, не конча нам сядзець за сталамі, можна і за пнём рашыць усе нашыя клопаты. Выбралі вы і валаснога старасту. А раз выбралі, дык слухайцеся яго. Міхал Званковіч шкоды вам не зробіць. Так я кажу, мужчыны?

— Не, бронь божа!

— Дзе ты бачыў, каб такі чалавек...— загулі ў адказ мужчыны.

— Ведалі, каго выбіралі,— падміргнуў Салаўю Мікодым Гошка.

— Значыць, што Міхал загадае, трэба споўніць. А то расшалопаюць немцы, што людзі старасту не слухаюць, і паставяць замест яго якога-небудзь шляхцюка ці эсэра.

— І то праўда,— выкрыкнуў стары Цярэшка,— барані божа шэршань уссядзе, дык з-пад яго не вырабішся. Няхай лепш будзе свой чалавек...

— А цяпер, мужчыны, вам нешта хоча сказаць старшыня павятовага рэўкома таварыш Ра... таварыш Раеўскі. Тое, што ён скажа, запомніце, а што ён быў тут — забудзьцеся.

Хлопец у саціеветавай кашулі стаў побач з Салаўём і таксама зняў шапку. Шырока расстаўленыя вочы пад густымі бровамі лагодна засвяціліся, на галаве тырчалі коратка падстрыжаныя чорныя валасы.

— Таварышы рудабельцы! Той, хто думае, што немцы тут будуць вечна, памыляецца. Савецкая ўлада была вымушана заключыць у Брэсце мір з германцамі, каб спыніць вайну, сабрацца з сіламі і турнуць так, каб іх тут і смуроду не было. А раз іх пусцілі, дык трохі пацерпім і паглядзім, чаго яны вартыя. А забудуцца, што ў гасцях, дадзім ім так, што свае блішчастыя спічакі разам з галовамі пагубляюць. Тут сабраліся бальшавікі-парцейцы і чырвоныя партызаны, дык ад вас ніякіх сакрэтаў няма. Акупанты акупантамі. Яны, як трэскі на вадзе, пабоўтаюцца, і рака іх выкіне. А Савецкая ўлада жыве скрозь — у Маскве і ў Петраградзе, у Смаленску і ў Бабруйску, і тут, у Рудабельцы. Не ўсе немцы аднолькавыя. Сярод салдат ёсць рабочыя і сяляне, ім абрыдла вайна, яны хочуць так, як і мы, скінуць Вільгельма. Яны не толькі спачуваюць, але і дапамагаюць нам. Ёсць яны і тут. Пастарайцеся іх перацягнуць на свой бок. Нямецкія камуністы перадалі нам сваю газету «Ротэ фанэ», што значыць — «Чырвоны сцяг». Трэба яе непрыкметна рассоўваць сярод салдат. І яшчэ адно я вам хачу параіць. Солі, газы, мыла купіць у вас няма дзе. А ў Бабруйску ўсё ж дастаць можна. Праз валаснога старасту папрасіце каменданта, каб дазволіў вам зарганізавацца ў кааперацыю. Ваш надзейны чалавек будзе ездзіць у Бабруйск і прывозіць усё, што трэба.

— А сярнічкі там ёсць? — запытаў Цярэшка.— І каб хоць трохі дзёгцю, а то перады, як сабачая шкура, трашчаць...

— Будуць сярнічкі, і дзёгаць, дзядзька Цярэшка,— супакоіў старога Ляўкоў.

А Пракоп Малаковіч хадзіў сярод людзей і раздаваў кожнаму невялічкія лісткі. На іх было напісана: «Ко всем гражданам оккупированной Белоруссии». Большыя былі засеяны дробнымі, вельмі ж пакручастымі літарамі. Няйначай, нямецкімі. Гэтыя трэба было падсоўваць салдатам.

Тут жа Пракоп абвясціў: хто хоча запісацца ў бальшавіцкую партыю, няхай падае заявы яму.

— А як я не ўмею пісаць? — запытаў Цярэшка.

— Папрасі граматнага, а потым і самога навучым.

— Вучыць вучы, толькі на грэчку, Пракопка, не стаў...— не супімаўся стары.

**Сцяпан ГАЎРУСЁЎ**

●

**Прызнаюся — я шчыра зайздрошчу**
**Аркестранту, што кожны парад**
**Падаецца на людную плошчу,**
**І сабе, і прывычнасці рад.**

**Хай сабе ён трымаецца збоку,**
**Ён — душа маляўнічых калон.**
**Абнаўляюцца людзі ў патоку,**
**З году ў год не мяняецца ён.**

**Ён у форме прывычнай, як споведзь.**
**І навечна застыла нібы**
**Яго шчок бясклапотных пунцовасць**
**Ад начышчанай меднай трубы.**

## МНОГА-СТАНОЧНІЦА

**Вузялок дзяўчаты ловяць —**
**Той ад смеху аж дрыжыць,**
**І праз нітак каляровасць**
**І бяжыць ён, і бяжыць.**

**А тканін узор стракаты**
**Аж звініць ад салаўёў —**
**Іх прывабілі дзяўчаты**
**З васемнаццаці гаёў.**

**Запявала і танцорка,**
**Паглядзі — з усіх бакоў**
**Зіхацiць скарагаворка**
**Дваццаці пяці станкоў.**

**Вузялок той дурасліві**
**Угрунём ды угрунём**
**І, зняможаны, шчаслівы,**
**Пырхне ў рукі — птушанём!**

Партызаны смяяліся з Цярэшкавых кепікаў, усміхаліся і рэўкомаўцы.

— А як пісаць, таварыш Малаковіч? — запытаў Іван Кавалевіч.

— Яшчэ і ты, смаркач, у парцію лезеш,— ускочыў Цярэшка.— Трымайся лепш за шляхцянчыны кумпякі, дык можа Ермаліцкі табе галагуцкага пеўня ў пасаг дасць...

Іван пачырванеў і апусціў галаву, адны засмяяліся, бо прывыклі смяяцца, што б ні сказаў Цярэшка, другія зацыкалі на старога, каб змоўк.

Салавей нахмурыў бровы, яго тугія загарэлыя шчокі пачырванелі, нібы дзед не Івана, а яго папракнуў шляхцянкаю.

— А ці ведаеце вы, дзядзька Жулега, што тая шляхцянка выракласяя багацця, кінула засценак і бацькоў, каб толькі пайсці замуж за спрадвечнага парабка? Брат бандыт, а яна горнецца да нас. Пішы, Іван, заяву. Абедзвюма рукамі галасую за цябе. А там і першае савецкае вяселле згуляем...

Пракоп раздаў лісткі ў касую лінейку, агрызак хімічнага алоўка. Грамацеі, прымасціўшыся хто да пянька, хто падклаў стосік лістовак, пачалі пісаць заявы ў Рудабельскую ячэйку РКП бальшавікоў ад сябе і «за негр аматнага... па яго лічнай просьбе».

Праз паўгадзіны Пракоп Малаковіч сабраў дваццаць восем заяў, напісаных насліненым хімічным алоўкам, падпісаных знаёмымі прозвішчамі і крыжыкамі.

— Таварышы, лістоўкі пастарайцеся да раніцы расклеіць на прысадах і платах, газеты падкінуць нямецкім салдатам. Гэта першае заданне маладым бальшавікам,— сказаў Салавей.— А цяпер разыходзьцеся па адным, па двох. Пашукайце грыбоў, пашчыпайце чарніц, каб ніводзін сабака не ведаў, дзе вы былі і каго бачылі.

Мужчыны бралі свае кошыкі, каробкі і аброці і разыходзіліся па лесе.

А на Заечым хутары яшчэ доўга раіліся рудабельскія рэўкомаўцы з Платонам Фёдаравічам Равінскім. Ён прыехаў сюды з пропускам, выпісаным Густавам Шульцам на імя Фёдара Раеўскага.

Ён расказваў, як павінна дзейнічаць кааперацыя, казаў, што крамнікам у Бабруйску трэба звяртацца да таварыша Ліакумовіча, а ён ужо забяспечыць усім, што трэба. А галоўнае — ствараць і ўзбройваць партызанскія атрады, перацягваць нямецкіх салдат на свой бок, а кайзеравых служак узяць у такія абцугі, каб яны і хадзіць баяліся па гэтай зямлі.

— Тут нядаўна, Платон Фёдаравіч, прыехаў малады пан, барон Урангель, і спаганяе з мужыкоў усё, што забралі з яго свірнаў,— перабіў Равінскага Ляўкоў.— Грозіцца, што будзе страляць тых, хто не паслухаецца яго загаду.

— Сам ён нічога не зробіць, а немцы наўрад ці згодзяцца быць панскімі ка́тамі. Можа, варта яго пужануць, каб гэты барон паляцеў вон?

— Прыстукнуць яго, гада, трэба. Гэта ж такі выжлятнік, што свет абыдзі, другога не знойдзеш. Каб даў яму волю, ён бы тут нарабіў...— загуў густым басам Максім Ус.

— Ты яго прыстукнеш, а колькі можа асірацець сямей за аднаго нягодніка. Немцы азвярэюць і пачнуць распраўляцца з нявіннымі людзьмі. Папалохаць можаце, каб з'ехаў хутчэй,— раіў старшыня павятовага камітэта.

О, каб ён ведаў тады, што гэты самы барон Урангель стане атаманам белагвардзейскіх галаварэзаў на поўдні Расіі, што яго крывавы след пацягнецца праз Крым і Чорнае мора, ён бы сам параіў, а то і загадаў Максіму Усу ці Анупрэю Драпезу «прыстукнуць» барона.

Пасля Платон Фёдаравіч не раз шкадаваў, што дараваў жыццё генералу Урангелю, і той ніколі не здагадваўся, каму ён абавязаны сваім існаваннем.

Трохі памыляўшыся, з лаўкі ўстаў Нічыпар Званковіч, выцягнуў з-за пазухі складзены ў чатыры столкі аркушок паперы.

— Тут майго дзядзьку Міхала выбралі валасным старастам, прымусілі нібыта быць нямецкім ганчаком. А ён чалавек сумленны і от напісаў заяву, каб і яго прынялі ў бальшавіцкую партыю. Не ведаю, што думаеце вы? А я б прыняў. Наш ён чалавек.

— Думаем тое, што і ты,— весела адказаў Салавей.— Каб Міхал быў не наш, ніхто б яго ў старасты не выбіраў. Воласць была бальшавіцкаю, бальшавіцкаю і асталася. Так ці не, хлопцы?

— Давай сюды заяву,— працягнуў руку Малаковіч.— Хто за тое, каб прыняць Міхала Званковіча ў партыю камуністаў-бальшавікоў?

Разам з усімі прагаласаваў і старшыня павятовага рэўкома.

Пад вечар ён сабраўся ў дарогу. Цімох Валодзька запрог маленькага мышастага коніка, укінуў у палукашак свежай травы і павёз галоўнага павятовага камуніста па аднаму яму вядомых лясных дарожках.

За паўвярсты паперадзе фурманкі ішоў па лесе Максім Ус, з двума наганамі і гранатай, а назіркам шасталі па кустах Нічыпар Званковіч і Лявон Адзінец...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Назаўтра новы валасны староста папрасіў дачку панскага вінакура Лізу, каб схадзіла з ім да нямецкага каменданта і ператлумачыла таму ўсё, што ён мае сказаць.

На дзядзінцы дымілася паходная кухня, а каля яе стаялі адзін за адным салдаты з мядзянымі кацялкамі. Кухар у даўно нямытым каўпаку боўтаў чарпаком у катле і разліваў у кацялкі густы рысавы суп. На дошцы, пакладзенай на дзве цагліны, ляжалі кантовыя бляшаныя пушачкі з галетамі. Кожны браў блішчасты слупок і з поўным кацялком адыходзіў у цень ліпавых прысад. На ганку ў расшпіленым мундзіры стаяў камендант і глядзеў, як сілкуецца яго войска. Заўважыўшы, што маладзенькая статная дзяўчына ў доўгай спадніцы, белай блузачцы і саламяным капялюшыку з нейкім мужчынам ідзе да яго, камендант хуценька зашпіліўся на ўсе гузікі, насунуў на лоб лакіраваную каску.

Міхал Званковіч адвесіў нізкі паклон, Ліза толькі кіўнула прыгожай галоўкай і нешта залапатала па-нямецку.

— Растлумач яму, што мужчыны хочуць згарнізаваць капярацыю, вазіць з Бабруйску мыла, газу, соль, каб тут зрабіць хоць якую невялічкую крамку, і просяць у пана каменданта дазволу.

Камендант выслухаў, што яму пераказала Ліза. Рудыя вусы заварушыліся, захадзілі густыя бровы, падобныя на вусы. Ён гаварыў, нібы лаяўся.

— Пан камендант кажа, што сяляне павінны здаваць арміі кайзера Вільгельма хлеб, сала, масла, мёд і палатно. А староста абавязаны выдзеліць падводы і далажыць пану каменданту, у каго што можна ўзяць.

— Падводы загадаць не штука, а хлеба ды сала гадоў на дзесяць назапашана на хутарах у Перагудаў, Гатальскіх, Ермаліцкіх ды Вінярскіх. Чаго ж? Можна і паказаць, дзе яны хаваюць дабро. А мужыкі даўно нішчымніцу ядуць. Адкуль у іх той хлеб ды сала?

Ад таго, што ніяк не магла перакласці слова «нішчымніца», Ліза аж пачырванела.

— Спісы, у каго ёсць хлеб, я дам. А як нашчот капярацыі, спытай.

Яшчэ паўпінаўся трохі камендант, але Міхал яго ўмалёгаў. Можа тут і Ліза дапамагла сваімі прывабнымі шэрымі вочкамі і румянымі шчочкамі з залацістым пушком каля вушэй. Камендант сказаў, што на першы сход пайшчыкаў прыйдзе сам разам з перакладчыцай.

І сапраўды прыйшоў. У школе за вузенькімі партамі і проста на падлозе сядзелі барадатыя і сярэдняга веку мужчыны, асобна каля печы стаяла чалавек дваццаць кабет і маладзіц. Палавінка сонца яшчэ вісела над лесам і залівала пакой чырвоным бляскам. Па вуліцы ў воблаку рудога пылу ішла з пашы чарада кароў, чутно было, як ляскае пастух доўгаю пугаю і кляне «лысух» і «рагуль».

Камендант увагнуўся ў нізкіх дзвярах, каб не збіць шышака на бліпічастай касцы, атрос з мундзіра пыл і пайшоў да стала. Следам за ім убегла Ліза. Жанкі скоса паглядзелі на яе. «Ні была б то адна кроў, бач, як дагаджае...» — шапнула Мікодыміха Парасцы.

Камендант сеў за стол і паманіў пальцам валаснога старасту. Міхал стаў побач і неяк сарамяжа загаварыў:

— Гражданы вобчаства, мужчыны і бабы, сядзім мы пры лучыне і самі закурэлі, як галавешкі. Газы няма. І солі, каб прысаліць які гаршчок, нідзе і драбочка не знойдзеш. Як пахне мыла, ужо і бабы забыліся.

Відаць, Ліза дакладна перакладала прамову старасты, бо камендант усміхаўся і ківаў галавою.

— Калі ж мы згарнізуем капярацыю, збяром паі, выберам крамніка, казначэя і ўсю ўправу, можна будзе тое-сёе даставіць з Бабруйску.

— Хоць бы трохі анучы адмыць да вошы на дзецях выпрудзіць.

— Бацвіння няма чым прысаліць,— загаманілі бабы.

З апошняй лаўкі падняўся высокі бялявы Пракоп Малаковіч. Мужчыны пераглянуліся, зашапталі: «Бач ты яго, і не баіцца!», «А чаго яму баяцца, ён жа не канакрад які?» «Сціхніце вы»,— цыкнула на іх Параска.

Пракоп гаварыў спакойна і разважліва:

— Што капярацыя нам трэба, кожны ведае. Дык каб доўга не гаварыць, давайце выберам праўленне, казначэя там, прадаўца. Збяром паі, і няхай едуць у Бабруйск. Я думаю, лепшага казначэя, як Мікодым Гошка, нам не знайсці, а крамнікам няхай бы быў хоць Цімох Валодзька. Хлопец ён малады, вёрткі. Адным словам, свой чалавек. Ну і Сцяпан Жынко, як граматнейшы, над імі за старшага. А як вы думаеце?

— Думаем так, як і ты,— з другога канца выгукнуў Лявон Адзінец.

А Ліза сядзіць побач з вусатым немцам і ўсё шчабеча яму на вуха, усё перадказвае, хто што гаворыць.

З апошняй лаўкі высунуўся доўгі, як жардзіна, Аверкаў Каленік. Шэрыя валасы звісалі аж на каўнер крамнага пінжака. З маленства ён падаваў кадзіла папу, і сам збіраўся пайсці ў боскія служкі, а як закруціла вайна ды рэвалюцыя, узлаваўся на ўвесь свет, зашыўся на бацькавым хутары. А ў нядзелю і на прастольныя святы спяваў на клірасе і часам, калі не было дзяка, чытаў «Апостала». А цяпер здурэў, ці што? Выскачыў, як Піліп з канапель, ды як ляпне:

— Няхай паненка перакажа гаспадзіну каменданту, што тут сабраліся адны бунтаўшчыкі і рэўкомаўшчыкі, і Пракоп, і Лявон Адзінец, і Параска, і той жа хвалёны Мікодым. Хапайце іх і вяжыце!

Усім аж дух заняло ад неспадзеўкі. Ліза пабялела ў твары, азірнулася на ўсе бакі. Камендант яе запытаў:

— Was sagt dieser Mann? *

Дзяўчына нахмурыла бровы, нібы падбірала патрэбнае слова, потым усміхнулася і «пераказала»:

— Er sagt, Produktionsgenossenschaft das ist sehr gut. **

Ніхто не зразумеў, што яна сказала, і чакалі, што будзе рабіць камендант. А ён заківаў бліпічастаю каскаю, заварушыў цубкімі рудымі вусамі і праз жоўтыя конскія зубы прабурчаў адзінае зразумелае слова: «Gut! Sehr gut! ***

Хтосьці Каленіка так тузануў за пінжак, што той аж язык прыкусіў, некалькі галасоў прашапталa: «Юда, хрыстапрадавец!» І ўсе замоўклі, нібы нічога і не было.



Цімох Валодзька — 1967 год.

Так, як і прапанаваў Пракоп, у каапeрацыю выбралі Цімоха Валодзьку, Мікодыма Гошку і Сцяпана Жынко. У былой манапольцы вырашылі зрабіць краму. Камендант дазволіў раз на тыдзень збіраць праўленне і кожны месяц — сходы пайшчыкаў, выпісаў пропуск ездзіць у Бабруйск па тавары.

Рудабельская каапeрацыя заварушылася на другі ж дзень. Малады, маленькі, як вузельчык, і вельмі ж спрытны Цімох Валодзька толькі што сыскаўся з нейкага далёкага салдацкага шпіталю і цяпер, згаладалы па рабоце, прыбіваў паліцы ў краме, збіраў па хатах мяхі пад соль, запісваў, што каму прывезці.

Мікодым хадзіў з двара ў двор і спаганяў паі, каб было, як ён казаў, за што рукі зачапіць.

Ахвотна дзядзькі ехалі ў падводы па тавары для каапeрацыі. З пропускам рудабельскай камендатуры іх нідзе не затрымлівалі нямецкія патрулі. Валодзьку нават дазволілі браць з сабою карабін, каб адбівацца, калі часам нападуць «бандыты».

У Бабруйску ён прыязджаў на склад, захоплены рэўкомам у купца першай гільдыі ў самым пачатку рэвалюцыі. Гаспадар некуды з'ехаў, а складам так і загадваў бальшавік Ліакумовіч, у свой часназначаны загадчыкам прададдзела. Склад стаяў на Бярэзінскім фарштадце, далёка ад людскіх вачэй. Бабруйчане забыліся пра яго, а немцы і не чулі пра яго існаванне. Густаў Шульц выдаў Ліакумовічу пасведчанне з пячаткамі гарадской управы, што склад належыць таварыству сельскіх каапeратываў. Гэта сцвярджала і шыльда, прыгожа размаляваная загадчыкам. Ліакумовіч, чалавек інтэлігентнага выгляду, з пышнымі, заўсёды дагледжанымі вусамі, з белымі манжэтамі і каўнерыкам, сядзеў у маленькай баковачцы і выпісваў тавары, а ў скла-

* Што сказаў гэты мужчына? (нямецк.)
** Ён кажа, што каапeратыў вельмі добра. (нямецк.)
*** Добра! Вельмі добра! (нямецк.)

дзе варочалі скрынкі Барыс Найман і Шолам Агал. Яны пад мыла закладвалі мяшэчкі з порахам, піраксілінавыя шашкі, абоймы патронаў, запакоўвалі пачкі газет, якія прывозіў з Оршы Катловіч, лістоўкі, аддрукаваныя ў Бабруйску, і нумары «Rote Fahne».

Апрача ўсяго гэтага, Валодзька часта прывозіў некалькі карабінаў, наганаў і гранат. Ахоўнаю граматаю ў яго быў пропуск рудабельскага каменданта.

Звычайна, калі прыбывалі новыя тавары, збіралася «пашыранае праўленне кааперацыі». Прыходзілі Салавей, Ляўкоў, Малаковіч і Адзінец. Нібыта незнарок заходзілі камандзіры партызанскіх атрадаў — Максім Ус, Нічыпар Званковіч і Анупрэй Драпеза. Тут праводзіліся пасяджэнні рэўкома і партыйнай ячэйкі, раіліся камандзіры атрадаў, раздаваліся лістоўкі і газеты. А калі часам заходзіў нямецкі патруль, Сцяпан Жынко паказваў камендантаў дазвол раз на тыдзень збіраць праўленне кааперацыі. Часам салдат частавалі «шнапсам» з панскага бровара і салёнымі агуркамі.

Салавей трохі ўмеў гаварыць па-нямецку і тлумачыў салдатам, што іх ашукаў кайзер, што яны не павінны крыўдзіць сялян, што ім трэба хутчэй вяртацца дадому, скінуць Вільгельма і ўзяць уладу ў свае рукі. Салдаты задумваліся, бо кожны хацеў хутчэй скінуць гэтую абрыдлую амуніцыю, вярнуцца да сям'і. Яны прагна накідваліся на лістоўкі, якія знаходзілі ў сваіх кішэнях, чыталі ў газеце нямецкіх камуністаў артыкулы Карла Лібкнехта і натхнёныя прамовы Розы Люксембург.

У казарме тоненькія лісткі, напісаныя на роднай мове, пераходзілі з рук у рукі, іх хавалі ў сенніках і за падкладкамі шынялёў, імі дзяліліся з таварышамі, як навінамі з дому.

Камендант ніяк не мог уцяміць, хто прыносіць у казармы гэтую «камуністычную заразу». Ён злосна рваў на дробныя шматкі лістоўкі і газеты, тупаў нагамі, рассякаў паветра кароценькім стэкам і крычаў: «Нават куры не баяцца іхніх пагроз. А салдаты кайзера заўсёды верныя прысязе і айчыне!»

Камендант пасылаў у вёскі і на хутары атрады салдат. Яны выграбалі з засекаў і кадоўбчыкаў жыта, з гарышчаў сцягвалі падсушаныя кумпякі, усё складалі на фурманкі, выдзеленыя старастам.

Галасілі бабы, умольвалі хоць на зацірку пакінуць мукі, пашкадаваць іх дзетак. А салдаты нібыта не чулі і не разумелі іх галашэння.

Барон Урангель прасіў каменданта, каб завярнулі абоз у яго двор і ссыпалі ўсё ў панскія свірны. Ён даводзіў, што гэта яго дабро, нарабаванае мужыкамі і бандытамі. А камендант выконваў загад камандавання — збіраў кантрыбуцыю натурай, на кожную фурманку даў па салдату і адправіў першы абоз у Ратміравічы.

Падводчыкі ішлі каля вазоў, салдаты ляжалі на мяхах і смакталі доўгія люлькі. Колы рыпелі па глыбокім пяску, шумелі старыя замшэлыя сосны і шчабяталі звонкія лясныя птушкі.

Калі абоз уехаў у густую пушчу, каля самай дарогі прагрымеў залп. Спалоханыя коні рвануліся ў лес, перакуліўся адзін, другі воз, разам з мяхамі пассоўваліся немцы, не паспеўшы ўхапіцца за свае карабіны. А іх ужо акружыў атрад — чалавек сорак узброеных маладых і барадатых мужчын. Адстрэльвацца і супраціўляцца не было сэнсу. «Што можа зрабіць дзесяць салдат з такою вялікаю бандаю? Загінуць? За што і дзеля чаго? Каму ж ахвота паміраць?» — думалі перапалоханыя да паўсмерці немцы. Яны паднялі рукі, баючыся паварушыцца.

Адны партызаны лавілі коней і заварочвалі на вузкую лясную дарогу, другія збіралі пакіданыя салдатамі карабіны, здымалі з папруг цесакі і высыпалі з патранташаў патроны. Потым салдат паставілі па два ў рад. Тут кожны перакалаціўся, як асінавы ліст. «Чаго добрага,— думалі яны,— дадуць залп, то табе і будзе Vaterland...»

Але да іх падышоў смуглявы, сярэдняга росту мужчына і, мяшаючы — слова па-руску, слова па-нямецку, лагодна і ціха загаварыў:

— Вы хацелі пакінуць дзяцей без хлеба. Выходзіць, бандыты вы. Хоць ваш камендант бандытамі лічыць нас. Мы — партызаны, мы абараняем свае сем'і, сваю зямлю ад бандытаў і ворагаў. Ідзіце спакойна назад. Ніхто вас не зачэпіць. А каменданту перадайце, што не выпусцім адсюль ні аднаго зярняці. Вас сотня, а нас тысячы. Усе мы былі салдатамі і ўмеем добра страляць.

Ён усміхнуўся, выцягнуў з-за пазухі пачак нямецкіх лістовак і раздаў кожнаму па некалькі штук.

— Auf Wiedersehen, Genossen! — і прыставіў далонь да казырка палінялай салдацкай шапкі.

Салдаты павярнуліся, нібы па камандзе, і ціха, час ад часу азіраючыся, патупалі па пыльнай лясной дарозе. Калі трохі адышліся і ўбачылі, што ніхто за імі не ідзе, прыпусціліся ледзь не рыссю.

— Заварочвай на Зайцаў хутар! — загадаў Салавей.— Няхай кожны разбірае сваё, а шляхецкае раздзелім сіратам і ўдовам.

Весялей пакаціліся колы па цвёрдай лясной дарозе. Следам ішлі партызаны. У некаторых на адным плячы вісела свая стрэльба, а на другім — нямецкі карабін. Максім Ус падперазаўся двума поўнымі патранташамі. Хлопцы расказвалі, як хто страляў, колькі забраў патронаў, хваліліся новымі карабінамі.

Пад вечар таго ж дня, напалоханы партызанамі і раззлаваны беспапаможнасцю нямецкага камандавання, барон Урангель загадаў закласці яму брычку, сказаў, што едзе ў госці да харамецкай пані, паклаў пад сядзенне нейкія скрыначкі і шкатулкі, накінуў калматую бурку, ускочыў на абшмулянае скуранoe сядзенне і памчаўся рыссю па пыльнай дарозе.

Калі ўскочылі ў лес і брычку затузала на выбоінах і карэннях, барон адно крычаў фурману: «Паганяй!» Толькі сцішыліся замыленыя коні, калі праехалі Халопеніцкі мост. Барон азірнуўся назад, з палёгкаю ўздыхнуў, нібы выскачыў з варожай засады. Яму шкода было пакідаць такі маёнтак і не хацелася рызыкаваць жыццём, неабходным «для выратавання Расіі».

Ён пераначаваў у Харамецкім маёнтку. Там яго ўжо чакалі Казік Ермаліцкі і Парфір Плышэўскі. Пра што яны гаварылі, ніхто не ведаў. Раніцаю баронава брычка паехала па дарозе на Бабруйск.

Болей у Рудабелцы барона Урангеля ніхто не бачыў. Толькі Максім Ус доўга яшчэ шкадаваў, што выпусцілі яго жывым.

Далей будзе.



Анатоль СЕРБАНТОВІЧ

## КАЛЯРОВЫЯ СНЫ

Прыязджаю у край наш лясны
І ў бабулі старой начую.
І не толькі звычайныя сны —
Каляровыя сны гляджу я.

Чорны колер — бацькаў пагон,
Кроў людская — гарачая чырвань,
Маладая зара — агонь,
Спапяляўшы маю Айчыну.

Пакідаю свой край лясны.
Заначую у чыстым полі.
Ды ад вас, каляровыя сны,
Не магу уцячы я ніколі.

## ГРАЧАНКА

Над кармою пракрычала чайка.
За яе палётам я сачу
І хачу, танклявая грачанка,
Ад яе імя тваё пачуць.

А мяне, лятаючы над полем,
І у трыснягах каля ракі,
Чайкі называюць Анатолем,
А-на-толь — высвістваюць шпакі.

І бяжыць танклявая па сходнях,
І са мной яна ужо на ты:
— Анатоль па-грэчаску — усходні...
А на ўсходзе — рускія браты...

Анатоль...
А слоў запасу мала...
Голас сумнай просьбаю звініць,
Так, як продкі нашы ад навалы,
Ад галечы сёння засланіць.

Б'ецца ў берагі сівое мора.
Па гудку бягу на параход,
Грозны на яе нямое гора,
Ціхі на сваё — на сотні год.



Валеры САНЬКО



# ПАВАРОТ

Апавяданне

Мал. А. Волкава.

I

Гаварылі двое — плячысты, дужы хлопец і сухарлявы, невысокі мужчына. Сухарлявы настойваў, але няўпэўнена; хлопец рашуча адмаўляўся.

— Ды што вы, Сяргей Пятровіч... Як па такой гразі выехаць...

Гаварыў хлопец павольна, упарта нахіліўшы галаву. Пазіраў спакойна і сур'ёзна, у куточках вуснаў блукала ціхая ўсмешка.

Невысокі мужчына быў старшыня калгаса Курдзін. Ён і сам не верыў, што нехта паедзе такой дарогай па ўгнаенне. Бырко, брыгадзір трактарыстаў, яму так і адказаў:

— Хоч, Пятровіч,—загадай. Выправадзіць любога можна. Я і сам паеду. Але загадваць іншым не буду. Хочуць трактарысты — няхай едуць. На сваю рызыку. Бо машына па такой калатушы не пройдзе. Сядзе на першай вярсце.

З раёна ў «Прамень» яшчэ на першыя зазімкі прыйшоў наказ — вывезці ўгнаенне са станцыі. Старшыня прамарудзіў. «Паспеецца. Не гарыць. Штогод вывозілі, не будзем апошнія і цяпер»,— адказаў ён маладой і нявопытнай аграномцы. Але вясна прыйшла нечакана, бурна. Учора вечарам яшчэ цісну‌ў марозік, снег звонка рыпеў пад нагамі, а сёння раптам палеткі пашарэлі, вулачкі Некрашоў сталі непралазныя ад гразі. Ледзяшы, што накіпалі за ноч пад стрэхамі, раставалі, як толькі ўзнімалася сонца. Калі ў «Промні» ўспомнілі пра ўгнаенне, дарогі сталі непраходныя. Аднак вывезці яго трэба было. Марыя Атахновіч, звеннявая па льну, прыбегла ў праўленне: «Дзе абяцанае ўгнаенне? Хочаце, каб на вецер працавалі...»

Курдзін кінуўся да механізатараў, а пасля гаворкі з брыгадзірам сам пайшоў да Марыі. «Што рабіцьмем?» — запытаў у яе, як у роўні. Нядаўняя дзесяцікласніца аж пачырванела ад гонару, што з ёю так гаворыць старшыня, і параіла схадзіць у майстэрню да Алеся Сутана: «Скажыце, што мне гэта патрэбна».

Курдзін павесялеў, але калі і ад Алеся, звычайна паслухмянага і стараннага, пачуў тое ж «не», адразу звяў.

— Памяркуйце самі, Сяргей Пятровіч — як давезці яго. Цераз Рагачоўшчыну не думай. Балота распусціла. А на Лясішча таксама не патыкайся — Лясішчаўскі лог глыбокі. Ён заплыў. Патонем з макаўкаю.

Марыю ўбачылі ледзь не абодва разам. Яна подбегам напрасткі кіравалася да майстэрні.

— Ты яшчэ не сабраўся? — здзіўлена спытала яна, дзябёлая, смуглявая, з мяккім грудным голасам, які цяпер гучаў усхвалявана і адначасова ўладарна.

— Паехаў... Хіба не бачыш? — няхораша пажартаваў Алесь у адказ.

— Дапраўды не паедзеш?

Старшыня перамінаўся з нагі на нагу, уздыхаў.

— Няўжо ж маню! Як па гразішчы такой ды не выпхнуцца... — голас Сутана здаўся хрыпатым і чужым нават яму самому.

Дзяўчына схіліла галаву. Нейкі час цягнулася маўчанне. Яны пазіралі адно на аднаго. Трывожна каркаючы, сарвалася з голай тонкай бярозы варона. Вырываліся з промняў, плылі па небе абложныя і рыхлыя воблакі, раставалі...

Старшыня чакаў канца гаворкі і думаў пра гэтых дваіх маладых. Абое яны нейкія калючыя, адно аднаму нічога не перапусцяць, і, мабыць, толькі паддаўшыся маці, Алесь заслаў да Марыі сватоў. Вяселле ж дамовіліся згуляць па восені.

— Ты што, Алеська, жартуеш? — сінія, пранiклівыя вочы Марыі праменіліся ласкаю.

— Трэба, урэшце, самім не бавіцца,— хутка загаварыў Сутан, размяклы і ад таго злы на сябе. Хоць ён і пратэставаў, іх план пачаў ужо ўкладвацца ў яго галаве.— У апошнюю хвіліну ўспомнілі. Не тады сані ладзяць, калі ў лес трэба ехаць.

— Алесь, ну віноўны я. Прагледзеў,— лагодна загаварыў павеселелы нечага Курдзін.— Але ж выручыць трэба... Чаму я да цябе прыйшоў? Бо ведаю, ніхто не прывязе. Умельства не хопіць. А ты зможаш... Вечар, падмарозіць якраз...

Трактарыст усміхнуўся, закруціў чубатаю галавою, эхнуў. Просты і добры твар хлопца ўсё часцей усміхаўся.

— Ды зразумей ты — без угнаенняў усё паляціць,— даводзіла сваё і звенкая. Рэдзенькія кудзеркі на яе ілбе ўздрыгвалі.— Дзяўчаты так стараліся... Урабілі глебу. Не зямля — пух! Трэба ж камусьці пасабіць нам.

— Добра... Я паеду... Але, пабачыце, сяду макам,— прамовіў нарэшце хлопец.— У Лясішчаўскім яры не ўз'едзеш... А з'ездзіць — чаму не, можна...

— На павароце не выедзь толькі, а то такую пытлю задам... Не пагляджу, што сам улагоджваў,— пасміхваўся дарогай з майстэрні да гаража Курдзін.

— Разумею, чаго там... Касцу пагоды не ждаць.

Звечарэла зусім, калі магутны ДТ важна зачаўкаў гусеніцамі. Матор гудзеў роўна і бадзёра.

## II

Калёсы прычэпа на шырокіх гусенічных разорах пакідалі слядыы — вузкія і глыбокія; яны адразу аплывалі, зацінаяліся. Над полем шырока і шчодра свяціў месяц. Полымя Млечнага Шляху пераліваласяў вышыні, сыходзіла на зямлю і, белае, чароўнае, засцілала дрэвы ў маўклівым полі, афарбоўвала снег у фіялетавы колер.

Трактарыст адчуваў нейкую шчымлівую еднасць з гэтым супакаеннем прыроды, і, хоць знешне аставаўся спакойны, яго прыўзнімала пачуццё свабоды, улады і лішку энергіі. Лясішчаўскі лог паказаўся нечакана. Алесь спыніў трактар, з варожым, незразумелым для самога пачуццём пайшоў па крутым і коўзкім беразе.





Па яры каціўся вадзяны паток. Вада трывожна плескатала ў цесных берагах. На хвіліну яе жывы бляск нібы заваражыў Алеся. Ён ступіў у ваду, памацаў ботам гальку на дне і рашуча зрабіў некалькі хуткіх і асцярожных крокаў. Дно было пясчанае, тупкае, па ім смела можна было павярнуць трактар, каб уз'ехаць на процілеглы бераг. Але ён доўга яшчэ шукаў лепшы праезд.

— Ну, была не была! — урэшце закіраваўся ён назад.

Ціхмяныя шолахі ночы перакрыў рэзкі і грубы гул матора. Алесь павёў рычаг, трактар тарганууся, і паволі пацягнуўся пагрузлы да самых восяў у хлюпаткой кашы прычэп. Рухі хлопца, дасюль стрыманыя і ўпэўненыя, сталі скаваныя і запаволеныя, ён замёр у напружанні. Трактар паволі з'язджаў з берага.

Алесь ведаў, што з разгону развярнуцца, каб уз'ехаць, немагчыма, і не даваў ходу машыне. Пальцы ўчэпіста трымалі рычаг, і толькі калі першыя тракі гусеніц дакрануліся да мутнай вады, ён пераключыў хуткасць, паддаў газу. Уся махіна адразу ажыла, пакацілася скарэй і імклівей.

Сутан пацягнуў на сябе правы рычаг павароту, трактар паслухмяна выпісаў гусеніцамі паўдугі ў вадзе, ірвануў прычэп, палез на другі бераг.

«Усё ў парадку...» — бліcканула думка. Шчасна затахкала сэрца.

Але тут здарылася непрадбачанае. Аслізлы, размяклы бераг пад прычэпам пачаў асядаць.

Прычэп бокам сунуўся да патоку. Каб працягвалася гэта яшчэ імгненне, прычэп перакуліўся б. Алесь моцна тарганyў ужо левы рычаг — і прычэп не перавярнуўся, толькі стаў упоперак дарогі.

«Што ж рабіць?» — у нейкай здранцвеласці думаў Алесь, злосна ціснучы педаль газу. З-пад гусеніц вычмяквалі вялікія камякі гразі, наваколле глушылася гукамі перагружанага матора, а пракляты прычэп не крануўся. «Кончыцца салярка, і тады будзе яшчэ горш...» Ён выключыў матор.

Чорная і халодная вада, паблiскваючы пад святлом месяца, лізала дно прычэпа. Алесь далоняй выцер спацелы твар.

## III

Ён сярод ночы прыйшоў да брыгадзіра, расказаў яму ўсё, спытаў, што рабіць далей.

— Спаць ідзі. Не ведаеш, што рабіць... — сказаў брыгадзір спакваля.

Гэты малакасос раздражняў Бырка: «Заўсёды, носіцца з якімі-небудзь вар'яцкімі планамі... Згадзіўся ехаць па ўгнаенне. Курдзін праспаў, няхай сам і адбаярваецца. Дык не, Сутан знайшоўся, паехаў. Змагу! Змог... Цяпер Насту разбудзіў, дзяцей траха не напалохаў...»

— А ўдабрэнне хай там? — нейкі тугі камяк перакочваўся ў грудзях Алеся. Яму хацелася вылаяцца. За тупасць, за абыякавасць... Не для сябе ж ён паехаў...

— Усё роўна намоклі ўжо мяшкі. Ноч пачакаюць.

— Дзе мне саляркі ўзяць?

— Паедзеш? — здзівіўся Бырко.

— Трос вазьму. Два. Стачу.

— Нічога не выйдзе.

— Чаму не выйдзе?

— Адзін не выцягнеш, а ніхто больш не паедзе. Трактары не пойдуць. Ведаеш жа...

— А варакевічаў трактар таксама не пойдзе? — з'едліва, з ледзь стрыманым раздражненнем запытаў Алесь.

— Вечарам скрышыў нешта. Стаіць. Трэ будзе разабрацца.

— Ну і д'ябал з вамі ўсімі! — Трактарыст рашуча пакрочыў ад ганка. Да весніц не дайшоў, запытаў: — Дзе мне ўсё-такі салляркі ўзяць?

— Зайдзі ў майстэрню. Там у адной бочцы ёсць. Варывону скажы, так і так, адпусціць.

— Колькі яе там?

— Бяры, колькі трэба. Аформім пасля.— Счакаўшы, дадаў: — Масла, пры спатрэбе, возьмеш уверсе на паліцы.

— Добра,— адказаў Алесь і пайшоў з двара.

Вярнуўся Алесь днём, так і не выцягнуўшы прычэп, праклінаючы брыгадзіра і ўсю іхнюю механіку. Тут ён натрапіў на старшыню.

— Я казаў, не трэба ехаць. Не паслухалі. Выгналі... А цяпер усе рукою махнулі. Абодва тросы парваў...

Курдзін бачыў перад сабою стомленага, выпацканага чалавека, спахмурнелага ад няўдачы.

— Чаму ніхто не паехаў пасабіць? — спытаў ён.

— А хто па такой хлюпоце зможа да праклятага Лясішчаўскага даехаць? І на чым? У Варакевіча ж, як на зло, сапсаваўся.

Старшыня, не спяшаючыся, пайшоў па набрынялай дарозе. Нізкае вясновае сонца пускала па цёмнай вадзе лужын іскрыстыя белыя дарожкі.

Алеся непакоіла і сустрэча з Марыяй. Ён храбрыўся, у думках гаварыў дзяўчыне цэлыя прамовы, але сустрэчы чакаў з хваляваннем; пры думцы пра яе замірала сэрца і тонкім халадком працінала спіну.

Сустрэліся яны раніцаю наступнага дня. Марыя спыніла яго па дарозе ў майстэрню — ён ішоў памагчы Варакевічу. Не павіталася.



— Ну што? — коратка, з нездавальненнем у голасе, спытала дзяўчына; прыгожыя вочы яе былі трывожныя і разгубленыя.

— Пра што ты? Добрай раніцы. Што ўчора рабіла?

— Ты яшчэ прытвараешся, быццам не разумееш, пра што? Ты ж знарок пасадзіў прычэп. Вось, маўляў, паскачы без маёй дапамогі, без мае ласкі.

— Што ты, галава, толькі гаворыш? Падумай... Як ты магла нават думаць такое? Няўжо я... Ці мо ў мяне сэрца няма, па-твойму?

— Майму полю пустому скажы гэта,— і пайшла ў свой бок.

Ён кінуўся следам.

— Маруська, пачакай!

— Не выкручвайся...

Толькі цяпер ён заўважыў людзей. Некаторыя ўсміхаліся. Зняважаны, у нейкім аслупяненні, Алесь заспатыкаўся, ідучы назад, дахаты. Вялікая крыўда і абраза перапаўнялі яго душу.

У гэты момант Марыя павярнулася, зірнула на яго. Алесева постаць рашуча аддалялася.

— Ох, дапякла, гадаўка, хлопцу! — уздыхнула старая Варывоніха.— Ох, і дапякла ганарліваму...

## IV

Прычэп вывезлі цераз два дні. Размоклыя папяровыя мяшкі былі парваныя. Рэшткі нявымытага дажджамі і вадою ўгнаення раздалі адстаючым брыгадам.

Горка раскайвалася Марыя, што дарэмна пакрыўдзіла хлопца. Яна жадала сустрэцца з ім. Гэта ёй удалося толькі на трэці дзень пасля той сваркі. Ён ехаў з поля. Хацела пагаварыць, усё растлумачыць, але ДТ, грозным рокатам крыючы аселіцу, пранёсся міма.

— Хадзі пешшу. Прывыкла... — данеслася з трактара.

Вечарам на танцы Алесь прыйшоў п'яны, аблаяў Марыю, калі яна падышла.

— Прэч, дурніца! Ідзі трактару майму выкажыся...

Алесь Сутан запіў. Мусіць, ён і сапраўды моцна кахаў дзяўчыну. Добрыя вясковыя жанчыны ціха ківалі галовамі, ці то асуджальна ці то спагадліва гаварылі ўслед, бачачы нецвярозага хлопца:

— Далася дзеўка ў знакі, далася, атрута...

Марыя не падыходзіла да Алеся. Неяк улетку яны сустрэліся, але, прытварыўшыся злоснымі і гнеўнымі, адвярнуліся і разышліся.

Упартыя былі гэтыя двое.

А потым каля Марыі закружыў хлопец з Кляпчан, рослы, плячысты, вясёлы. Спярша ён прыязджаў па суботах, а потым — чым далей, тым часцей.

Прыйшла восень. Захмарыла неба, пачаліся дажджы. Над Некрашамі па начах клубіліся нізкія і густыя туманы. Дні станавіліся карацейшыя, а сонца грэла ўсё меней і меней. Лес агаляўся, яго ўсё часцей авейвала задумлівая самота. Нейкая ўрачыстая, спакойная цішыня і замілаванасць пасялялася вечарамі сярод прыбраных палеткаў. Журботнае неба ласкава і самотна праводзіла ў вырай чароды апошніх птушак. У адзін з такіх дзён, калі Алесь пасабляў маці насіць у склеп бульбу, у іх весніцы няўпэўнена пастукалі.

— Чаго табе? — спытаў Алесь, калі ўбачыў прыбраную ў квяцістую тараноўку Марыю. Сярод белага дня, на вачах усіх людзей не пасаромелася яна прыйсці да хлопца.

Алесь быў рады яе прыходу. Так моцна, што не ведаў спачатку,

што казаць, як павітаць дзяўчыну. Ён не раз ужо лаяў сябе за тыя грубыя словы, што гаварыў ёй пры сустрэчах.

— Ласкавей будзь, сынок, ласкавей,— пошапкі сказала старая Сутаніха; яна ў думках даўно і не раз ажаніла сына з Атаховічаваю дзеўкаю.

Марыя не адкрыла веснічак, пазвала гаспадара.

Алесю ад радасці хацелася сціснуць, абняць дзяўчыну, сказаць ёй добрае, сардэчнае слова, але нешта стрымала яго: ён вырашыў да канца вытрымаць характар. «Пакутуеш, прыйшла... так табе і трэба. Я болей бедаваў»,— падумаў ён. Алесь падышоў да яе, падкрэслена марудзячы, нібыта раздумваў. Хмура, з неахвотаю спытаў:

— Ну што табе?

Дзяўчына не бачыла, здавалася, нічога. Вялікімі прыгожымі вачыма прасвятлёна і замілавана пазірала на хлопца.

— Кастусь у нядзельку сватоў зашле,— ціха праказала Марыя, сарамлівым дзявочым рухам цярэбячы вылінялую, але і цяпер прыгожую тараноўку.

Стала горача. Яму ўжо замроілася немаведама што. Ён не зразумеў адразу, што дзяўчына-крутня не зробіць такога ўчынку: не прыйдзе да былога каханага прасіць парады.

— Ну і што? — непрытоеная ўсхваляванасць і ў той жа час абыякавасць, якую ён наўмысна выстаўляў на паказ, прагучалі ў голасе. І голас яго быў халодны, як восеньскі дождж...

— Што мне сказаць сватам? — незразумела пакорліва, са смуткам і горыччу спытала яна.

— Што хочаш,— кпліва ўхмыльнуўся Алесь, адчуваючы асалоду ад сваёй сілы і ўлады.

— Як гэта — што хочаш? — перапытала дзяўчына і дрыготкімі пальцамі пачала перабіраць сплеценыя ў кутас махры тараноўкі.

Алесь глядзеў долу. Марыя нешта прагна, з болем у твары хацела адшукаць у яго постаці. Усё было марна. Твар яе збялеў, перасмыкнуўся. Прыгнечаная, змарнелая, яна павярнулася і пайшла. Яна нічога не заўважала. Ішла так, як чалавек, гатовы на ўсё.

## V

Неўзабаве ў Некрашах гулялі вяселле. Яно было багатае і вясёлае. Прыйшло шмат моладзі. Алеся Сутана не запрасілі. Ён прыйшоў сам. Напіўся і пачаў буяніць. Аднак шаферы яго хутка супакоілі. Некалькі дзён пасля не выходзіў на работу.

Адразу па вяселлі Алесь думаў, што калі так выйшла, то і чхаць на ўсё, ён зможа перасіліць сябе. Але ішоў час, а забыць дзяўчыну ён не мог. Нібы прычаравала якая дзіўная сіла. Каб пабачыць яе, паплёўся ў Кляпчаны.

Першыя зазімкі ўжо аздобілі вецце прыдарожных бяроз, і яны стаялі задуменныя, ціхія. На калгасным полі прахаджваліся паважныя гракі. Чуўся іх грай і лапатанне крыл. Журботная закінутасць і аднастайнасць зімніх палёў узмацнялі тугу хлопца.

Алесь быў цвярозы. Магчыма таму ён не ўваліўся адразу ў хату Марыі, а пачаў шастаць ля акон.

Яна выйшла, сказала:

— Не бі дарма ног. Цяпер позна.— Яна была ў новай вопратцы, такая ж рухавая, але з твару паблажэла. Уся неяк за гэты час пасталела. «Абабілася»,— падумаў Алесь, адзначаючы, што такая, змарнелая, з кругамі пад вачыма, Марыя яшчэ болей вабіць.



— Сказаць трэба. Пастой...

— Што?

Ён і сам не ведаў што, хмура паўтарыў:

— Пачакай.

— Мяне муж жджэ.

Адна гардзіна на акне ў хаце сапраўды была адхінута. Алесь плюнуў, пайшоў.

Цераз паўгода пасля гэтай гаворкі ён жаніўся.

Жыў ён добра, спакойна. Любіў, на здзіўленне вяскоўцам, адзіноту. Працаваў па-ранейшаму добра.

Некрашоўцы гаварылі, што пашчасціла Валі Самусевіч на мужа. Сама ж Валя думала іначай. На Алеся находзілі раптам хвіліны нейкай задуменасці і засяроджанай маўклівасці. Тады ён сядзеў ціхом, угнуўшы галаву ў плечы, альбо ляжаў на ложку і маўчаў. Валя ведала, што не пра яе ён думае. Спадзявалася на адно — мо, калі народзіцца дзіця, муж памякчэе сэрцам, стане спагаднейшы, чутнейшы і да яе самой.

## VI

Анатоль Клязовіч, Алесь Сутан і Уладзімір Кадзюшка сябравалі даўно, змалку. Іх дружба вытрывала праверку часам. Яе не перапынілі шчаслівыя выпадкі, нягоды і розныя іншыя жыццёвыя абставіны. І хоць рэдка бывае ў наш час, каб сябры юнацтва не раз'ехаліся, не асталіся толькі ў зварушлівых і пякучых успамінах сэрца, у гэтых траіх здарылася іменна так. Пасля арміі яны вярнуліся ў родную вёску, працавалі, ледзь не ў адзін год пажаніліся. Іх сяброўства працягвалася і ў пасталенні. Знешне яны сталі больш стрыманыя, але ўсё роўна доўга адзін без аднаго не маглі быць. На свята сыходзіліся разам. Так было лепш. Як і ў часы далёкай маладосці, усюды хадзілі сваім гуртам. Сустрэліся і сёння, гаварылі, а нарэшце выйшлі на людзі.

Плыло павуцінне, вешалася на дрэвы і правады. За вуліцаю ляжалі ў спакойным птушыным перазвоне, у сонечных промнях цёмна-карычневыя далі ўзараных папараў... Ранняя восень гаспадарыла ў прыродзе.

Каля хаты Выдымчыкаў сабралася моладзь са ўсяго калгаса. Вяселле. Іграе духавы аркестр. У клуб музыкі пойдуць вечарам, а цяпер танцы каля хаты маладой Тамары Выдымчык. Брат яе Віцька, рухавы, падпіўшы, па-гаспадарску распараджаецца сярод танцораў. Чуцён яго зычны голас.

— Колца! Барышні справа! Па-аблагадарррыць!

Прыходу жанатых мужчын не заўважалі. Алесь трохі з жалем падумаў, што мінуў той час, калі на яго заўсёды азіраліся дзяўчаты, перашэптваліся жанчыны, у якіх былі дочкі-нявесты.

Іграў аркестр. Кружыліся пары.

Тонка, да пранізлівасці тонка выводзіў рулады кларнетыст; маладымі вачыма пазіраў стары музыка на дзяўчат. Дудзела труба, працяжна, рыпліва. І гухкаў барабан салідна і мажна. А скрыпка залівалася, плакала; рэзаў смык струны, і ад яго гарачай, палкай самаадданасці, гаротнай у гэтым заліхвацкім гудзе і віхурэнні, рабілася нечага скрушліва і вусцішна на душы. «Не трэба на вяселлі іграць на скрыпцы, не трэба»,— падумаў Алесь.

Кружыліся пары. Полька. Ходырная, гульная. І яе танцавалі жвава, з імпэтам.

— Сходзім і мы патупаем,— прапанаваў Алесю Анатоль. У яго ўсё было добра — з працаю, жонкаю, бацькамі. Алесь зайздросціў гэтай жыццёвай уладкаванасці сябра.

— Ты што, выпіў?

— Не.

— То і людзей не смяшы.

Алесь аблакаціўся на плот.

Госці выходзілі з хаты. Радасна-гаманкія, станавіліся вакол аркестра, спявалі песні. Выйшла і Марыя ў абдымку з высокім чарнявым чалавекам. Безуважны твар Сутана балюча перасмыкнуўся.

— Толя! — звярнуўся ён да Клязовіча. Твар Сутана заліўся чырванню.— Пазнаў?

— Чаму не. Каго добрага не пазнаеш, а яе... Цьфу!

— Не гудзі,— коратка перапыніў Сутан.— Пайду лясну з ёю. А вы, хлопцы, прыцісніце рыпачоў. Хай гадзіну рэжуць. Хлопцаў папрасіце, каб падтрымалі.

— Зробім. Не турбуйся.

Нявыказаны і, мроілася, беспрычынны жаль агарнуў яго. Не раз ужо думаў, што мінулае забылася, у сэрцы асталіся, маўляў, толькі нудотныя ўспаміны пра шчасце. І раптам ад адной стрэчы ўсё забурліла ізноў.

Хмуры, няласкавы, Сутан падышоў да Марыі. Скоса зірнуў на Кастуся, яе мужа. Не пазіраючы на Марыю, працягнуў руку да яе. Запытаў у Кастуся:

— Ты дазволіш, канешне?

— Можа не з'ясі маю жонку за адзін танец.

Мерныя, павольныя крокі танга. Амаль як не ў танцы, без усялякага напружання, вольна ступалі гэтыя двое.

— Марыя, як ты жывеш?

— Добра.— Яе прыгожы, мілы твар, трохі прыпалоханы, быў блізка да яго. Халадком пахлі яе косы, авейвала цяпло дыхання.



— Успамінаеш хоць калі?

— Не.

— Чаму гэта?

— Не ведаю.

Плечы жанчыны ўздрыгвалі, а вочы хаваліся ад позірку Алеся. Ён мацней абняў яе. Яна прытулілася. Галава гатова была прыпасці да яго грудзей. Горкая пяшчота ўперамешку з гарачай хваляй замілаванасці і любасці захліснула Алеся. Ён вёў яе ціха і асцярожна.

Марыя, здаецца, забыла ўсё — людзей, мужа. Сама дзівілася сабе, сваёй адвазе. Сэрца нясілела ад нечаканага, моцнага, салодкага болю. Было прыемна. І радасна. За сябе, няўдаліцу, а патрэбную ўсё ж гэтаму кручанаму чалавеку. Радасна і за яго. Ён быў такі ж, якім мроіўся: добры, ласкавы, напорысты.

Яны амаль не гаварылі, суцішаныя, зачараваныя, ледзьве перастаўлялі ногі. Сонца залаціла траву. Доўгі танец канчаўся. Але ў гэты час Анатоль Клязовіч і Валодзя Кадзюшка заспрачаліся каля аркестра. Клязовіч даказваў, што музыкі будуць іграць яшчэ паўгадзіны. Кадзюшка сцвярджаў адваротнае. Вакол іх сабраліся цікаўныя, а яны ледзь не крыкма даводзілі сваё. Пайшлі аб заклад. Анатоль Кучэўскі, слабенькі, недалёкі хлопец, які заўжды цягнуўся за дужэйшымі, тут жа падахвоціўся, перабіў рукі.

— Хто не выйграе, я — абавязкова,— вясёленька праспяваў ён.

— Музыканцікі — рэжце! — выгукнуў Клязовіч, калі тыя прыцішылі тэмп.

Танец зацягнуўся. Трубачы прысталі. Акардыяніст ледзь расцягваў мяхі. Адзін толькі скрыпач, амаль дзядок, пілікаў з ахвочасцю.

Нарэшце музыкі ў знямозе адваліліся ад сваіх інструментаў.

Надрывалася адна скрыпка... Яна выцягвала сэрца з Алесевых грудзей. Ужо ніхто не танцаваў, толькі ён з Марыяй. Гукі скрыпкі, на дзіва выразныя, як іскры, украсаліся ў душу. Ён нічога не чуў, не бачыў. Скрыпка, яе жалобныя гукі, і Марыя. «Як на хаўтурах...— працяла раптам яго кароткая думка.— Як на хаўтурах па нечым дарагім...» Алесю зрабілася яшчэ самотней. Было шкада нечага безвароткага і далёкага-далёкага...

Асцярожнае маўчанне, рэдкія словы...

Моладзі надакучыла чакаць, калі яны кончаць свой дзіўны танец. Дружна ступілі ўкруг пары. Танга пачыналася нанава.

— Скажы што-небудзь...— вымавіў Алесь.

— Што? — ачнуўшыся, не зразумела яна.

З палёў патыхала спелаю збажынаю і зноў распукнутымі водарнымі краскамі восені. У Алесевай душы трымцела штосьці павабнае і дарагое, ажывала, святлела, як ранішняя вада пад прамяністым блакітам нябёс. Алесь бачыў бляск яе вачэй, адчуваў яе ўсю, гнуткую і падатную... Час супыніў для яго сваю няўтрымную хаду.

— Як жывеш?

— А ты сам як жывеш?

— Я — норма. Жыву. А цябе ўтахліць твая жытка раней часу,— як вырашанае, усім вядомае, сказаў Алесь.

— Чаму ж, дагадны, раней не дбаў. Пастой, папраўлю косы.— Яна адхіснулася.

— Нічога ты не раскудлацілася...— і глядзеў на яе хуткія пальцы.

Пазіралі і людзі на танцораў. А Кастусь Дубоўскі, ужо свабодны ад юначай гарачнасці, спакойны, разважны чалавек, са скрухаю думаў аб адным — дарма ўзяў ён Атахнавічанку. Ён любіў яе, стала ўжо і прывычна, паважаў як гаспадыню. Але не трэба хлопцу маладому такіх надломленых у жонкі браць. Марыя помсціла Алесю, выйшла замуж за другога. І нядобра, мусіць, гэта...

Танец канчаўся. Алесь адчуў, як пачужэла раптам Марыя, хутка сказаў:

— Кідай яго, бяры сына і ідзі ка мне.

Сказаў і сам дзіву не даўся: нішто яго не палохала. І голас яго гучаў сонечна і пераканаўча далей:

— З'едзем адсюль. У другое месца. Нойдзецца куды. Свет вялікі. Усё ўладуецца.

Спалоханы твар яе. Умольныя вочы. Халодны пот на лбе. Потым з пабялелых губ сарвалася:

— Выкінь з галавы...

Алесь злосна і прагна пазіраў на яе, нешта гаварыў.

— Не магу я. Не магу,— цвярдзей адно і тое казала Марыя. Не слухала яго.—Не захацеў узяць, як людзі, а цяпер позна. Зразумей — цяпер так лепш. Нельга раны вярэдзіць. А ў хованкі гуляць я не здатная. Не магу. Не хачу. І не буду.— Востры боль у яе сэрцы саступіў месца смутнай трывозе і невыразнаму суму.— Я пайшла. Не падыходзь больш да мяне. Не трэба попел варушыць...

Спынілася, трымала яшчэ руку ў яго руцэ.

— Я пайшла. Не правodзь. Не трэба.

Ён стаяў, стараўся ні аб чым не думаць. Потым схамянуўся, рашуча ступіў да яе.

— Пастой! Я!..

— Ідзі! — сказала Марыя. Па жаночы ўмела, каб не чулі другія, дадала: — Не падыходзь да мяне больш...

...Кастусь глядзеў на крыху ўзрушаную доўгім танцам жонку, маўчаў.

— Прыстала, Кастусёк,— проста адказала яна. Ласкава прыхінулася, з усмешкай глянула ў твар. Гэта пяшчота заспакоіла яго. «Глупства гэта ўсё, пра надламанасць,— падумаў ён.— А ўсё-такі... Яна ў мяне разумная».

— Хадзем у хату,— сказала яна.— Каравай скора дзяліць будуць.

Асядаў на зямлю пыл.

Алесь не глядзеў ім услед. Ён думаў. Як часта жыццёвая дарога залежыць ад дробязі, не так зробленага ўчынку, не так вытлумачанага...



# У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ

## чытайце паэму Сцяпана ГАЎРУСЁВА

## «ПРОФІЛЬ ВЕКУ».

**Уладзімір СКАРЫНКІН**

Змалку мы
пра тэатры не зналі...
Для мяне,
быццам рампы агні,
У гародзе сланечнікі ззялі,
У полі хорам гулі авадні.

Сонца шчодрае ў небе гарэла...
І была для мяне,
хлапчука,
Траццякоўскаю галерэяй
Траццякоўка —
лясная рака.

І таму я лячу —
не еду —

Да цябе,
мой сівы Гарадок!
Тут я
сейбіта шчасце
зведаў,
Склаў
свой першы ў жыцці радок.

Сустракай
мяне разам з сынам.
Упрыгож дзьмухаўцамі
шлях —
І знайдзі нам
той ранак сіні,
Што згубіў я
ў тваіх палях.

**Юрка ГОЛУБ**

# ДАРОГА Ў БУДАПЕШТ

Іду да цябе начамі —
такімі ж,
як два дзесяцігоддзі назад:
псўнымі трывогі
чакання.
Карпаты мне сцелюць
пасцель
з высокай хмарай
ў галовах.
Толькі спаць не магу!
Дваццаць год

са сваёй стараны
пясу я ваду
хлопцам — вяскоўцам маім
і сталым мужчынам...
Яны і зараз ляжаць
з губамі сухімі
на цэгле балючай бітай
побач з чырвоным
Дунаем...
Я іду ў Будапешт...

**Міхась КАЗАКОЎ**

І чаму крычаць цягнікі,
Цішыню палохаюць,
І мігцяць,
завуць агенькі
У дарогу далёкую?

Мне тайга
за працу маю
Падарыла алмазы;
Я прыкурваў ад зорак
цыгарку сваю,
Як рабіў верхалазам;

Мне цалінных стэпаў
вятры
Валасы абпалілі;
Я пазычыў у Ангары
Неспакою і сілы...

Дык чаму ж
крычаць цягнікі
І куды завуць непаседу?
Пэўна, ведаюць:
я — такі,
Што ў любую дарогу
паеду!

# ПЕРШЫЯ ТВОРЫ



**Вячаслаў ПОЗНЯК** нарадзіўся ў 1940 годзе. Яго маці загінула ў час вайны, і хлопчык гадаваўся ў дзіцячым доме. Скончыўшы дзевяць класаў, Вячаслаў вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы, а потым у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Сёлета ён абараніў дыпломную работу «Пакарыцелі космасу» (мазаічнае пано).



**Іван ГЛЯЦЭВІЧ** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Турэц Чэрвеньскага раёна. Яго бацькі — калгаснікі. Вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы, служыў у Савецкай Арміі. Сёлета скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Яго дыпломная карціна — «Адыход у партызаны».



**Георгі КАЧАНОЎСКІ** — брэстаўчанін, нарадзіўся ў 1938 годзе ў сям'і рабочага. Атрымаў мастацкую адукацыю ў Мінскім мастацкім вучылішчы і Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Яго дыпломная работа прысвечана гераічным абаронцам Брэсцкай крэпасці.



**Рыгор НАРЧУК** прысвяціў сваю карціну Міхаілу Іванавічу Калініну, які ў 1919 годзе праехаў па Беларусі на агітпоездзе «Кастрычніцкая рэвалюцыя». Нарчук родам з Гомеля. Яму 31 год. Сваю творчую кар'еру ён пачаў у клубе Гомельскага шклозавода, потым вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы. Сёлета скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут.






# ЛЕНІНСКІМ МАРШРУТАМ

Вернемся ў думках да таго часу.

У гуле баёў, у голадзе і разрусе ішоў суровы 1919 год. Маладая рэспубліка Саветаў знаходзілася ў вогненным кальцы. На ўсходзе і ў Сібіры яшчэ быў недабіты Калчак, з поўдня на Маскву ішлі наёмныя полчышчы Дзянікіна, у Крыму — Урангель, ля сцен Петраграда — Юдзеніч, на захадзе — белапанская Польшча. 8 красавіка 1919 года дэкрэтам ВЦВК Літоўска-Беларуская рэспубліка аб'яўляецца на ваенным становішчы, ствараецца Савет Абароны. Партыйная арганізацыя Мінска мабілізуе камуністаў на фронт. ЦК кампартыі Літвы і Беларусі звяртаецца да насельніцтва з заклікам: «Да зброі!»

У. І. Ленін у тэлеграме Глаўкому і Рэўваенсавету Заходняга фронту патрабаваў: «Паскорце прасоўванне падмацаванняў, якія ідуць, і дзейнічайце энергічна. Палявому штабу ўзмацніць усямерна пільнасць за аперацыяй у гэтым напрамку».

У маі Савет Абароны Літбела выступіў з прапановай устанавіць цесны ваенны саюз Савецкіх рэспублік з адзіным ваенным камандаваннем для адпору ворагу. Гэта прапанова была прынята савецкімі рэспублікамі, і 1 чэрвеня 1919 года ВЦВК прымае дэкрэт аб аб'яднанні Савецкіх рэспублік для барацьбы з контррэвалюцыяй і сусветным імперыялізмам.



**Уважліва слухаюць дзядулю Калініна дзеці беларускай вёскі.**

**Захар Несцеравіч Радзевіч з Бабініч абвяшчаў некалі сялянам навакольных вёсак аб прыездзе Усерасійскага старасты.**
Фота **В. Жданавіча.**



Рыгор НАРЧУК. 1919 год. Агітпоезд «Кастрычніцкая рэвалюцыя».



Вячаслаў ПОЗНЯК. Пакарыцелі космасу. Мазаіка.



Георгі КАЧАНОУСКІ. Абаронцы крэпасці. Брэст, 1941 год.

Іван ГЛЯЦЭВІЧ. Адыход у партызаны.



У той цяжкі для краіны час па ўказанню У. І. Леніна на Заходні фронт у Беларусь прыбыў агітпоезд «Кастрычніцкая рэвалюцыя» на чале з М. І. Калініным. Агітпоезд наведаў Віцебск, Оршу, Магілёў, Гомель, Жлобін, Бабруйск, Мінск. Яго работу накіроўваў Уладзімір Ільіч, падтрымліваючы сувязь з Міхаілам Іванавічам Калініным.

Віцебская газета «Известия» 12 чэрвеня 1919 года пісала пра знаходжанне на беларускай зямлі Старшыні ВЦВК Міхаіла Іванавіча Калініна, які ўзначальваў гэтую гістарычную паездку:

«11 чэрвеня раніцай у г. Віцебск прыбыў літаратурна-інструктарскі поезд «Кастрычніцкая рэвалюцыя» на чале са Старшынёй Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта тав. Калініным.

Поезд стаяў ля станцыі супраць вакзала, прыцягваючы да сябе масу народу: рабочых, салдат і дзетвары.

Тав. Калініна суправаджаюць інструктары, прадстаўнікі розных народных камісарыятаў і Саюза моладзі. Інструктары ўжо з раніцы разышліся па розных аддзелах з мэтай інструктавання і азнаямлення з ходам работ арганізацыі Савецкай улады ў Віцебску.

Пры поездзе маецца друкарня і выдаецца лісток «Последние известия РОСТа». Абсталяван кінематограф, і маецца запас літаратуры рэвалюцыйнага і навуковага зместу.

Учора і сёння (11—12) тав. Калінін разам з таварышамі прымалі ўдзел у спецыяльна арганізаваных мітынгах. Учора тав. Калінін выступаў на гарнізонным мітынгу ў Маркаўшчыне, мітынгу ў Пралетарскім клубе і аб'яднаным пасяджэнні выканкомаў і адказных работнікаў.

Сёння з раніцы старшыня поезда разам з Калініным паедуць у павет, у воласці. Днём назначаны мітынг у чыгуначнікаў. Увечары будзе наладжан мітынг у мастацкім тэатры і ўрачыстае пасяджэнне Савета сумесна з прадстаўнікамі прафесіянальных саюзаў і фабрычна-заводскімі камітэтамі, на якіх таксама мяркуецца выступленне Калініна.

Поезд прабудзе ў Віцебску 2 дні».

А гэта радкі з газеты «Известия ВЦИК», якая тады асвятляла паездку М. І. Калініна:

«Асабліва кранальнымі па сваёй цеплыні і сардэчнасці, шчырасці былі сустрэчы таварыша Калініна на маленькіх станцыях. Нярэдка насельніцтва навакольных вёсак, дазнаўшыся аб прыездзе таварыша Калініна, цярпліва чакала яго 2—3 дні, і калі поезд спазняўся, усё ж заставалася чакаць».

Асабістае знаёмства Старшыні ВЦВК з вясковымі людзьмі ўмацоўвала давер іх да Савецкай улады. Калінін, як ніхто іншы, мог зразумець селяніна — працаўніка з усімі яго клопатамі і трывогамі. Сам селянін, ён ведаў, што такое свая зямля, свой конь, свой інвентар. Міхаіл Іванавіч паважаў сялянскую працу і, ужо з'яўляючыся главою дзяржавы, не раз станавіўся ў баразну і браўся за поручні плуга. Таму так даверліва і ўважліва слухалі яго сяляне, імкнучыся не прапусціць ні аднаго слова.

Дванаццаць дзён поезд «Кастрычніцкая рэвалюцыя» знаходзіўся на беларускай зямлі. Адбыліся сотні сустрэч, задушэўных гутарак, дакладаў і выступленняў. Яны пакінулі ў памяці людзей незабыўнае ўражанне.

«Выступленні таварыша Калініна выклікаюць уздым рэвалюцыйнай энергіі»,—тэлеграфаваў Леніну са Жлобіна камісар поезда П. І. Ваяводзін.

У пярэдадзень усенароднага свята 50-годдзя Вялікага Кастрычніка мы наважылі праехаць па маршруту агітпоезда, наведаць гарады і вёскі, дзе пабываў Міхаіл Іванавіч Калінін у чэрвені 1919 года, сустрэцца з людзьмі, якія бачылі і чулі Калініна, пазнаёміцца з нашчадкамі тых, хто ў суровым дзевятнаццатым адстаяў родную зямлю.

Мы—на Віцебскім вакзале. Недзе тут, на запасным пуці, сорак восем гадоў назад стаяў агітпоезд «Кастрычніцкая рэвалюцыя», і тысячы віцяблян горача віталі Старшыню ВЦВК Міхаіла Іванавіча Калініна.

Вакзала таго няма. Яго разбурылі гітлераўцы, як і ўвесь горад. Недзе вось тут быў Полацкі базар. На яго месцы—сквер. Новы будынак вакзала выглядае велічна і прыгожа. Ад яго да самай Дзвіны цягнецца новы бульвар з прыгожымі дамамі. На бульвары шмат дрэў і кветак. Горад расце, будуецца. Зніклі вузкія, цесныя вуліцы. Гэта—новы, індустрыяльны горад.

Едзем на Маркаўшчыну, былую ўскраіну горада. Маркаўшчыны не пазнаць. Калі М. І. Калінін выступаў тут у 1919 годзе, на Маркаўшчыне было толькі адно буйнае па тым часе прамысловае прадпрыемства—ільнопрадзільная фабрыка «Дзвіна», якая некалі належала франка-бельгійскім капіталістам, і некалькі саматужных майстэрняў. На фабрыцы працавала 1 400 рабочых, у большасці жанчыны і падлеткі. Імкнена працоўная Маркаўшчына, дзе асабліва жорсткай была эксплуатацыя, у гады рэвалюцыі і барацьбы за ўладу Саветаў рашуча падтрымала бальшавікоў.

Цяпер Маркаўшчына вялікі прамысловы раён. У ім 15 прадпрыемстваў: заводы запасных частак, радыёдэталей, механічны; домабудаўнічы і дрэваапрацоўчы камбінаты; шаўковая, мэблевая і панчошна-трыкатажная фабрыкі...

Панчошна-трыкатажная фабрыка «КІМ»—дзецішча першых пяцігодак. У нашай краіне яна займае другое месца пасля ленінградскай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі». Капрон, нейлон, перлон (замест бавоўны і даваеннай віскозы) з маркай «КІМ» ідуць далёка за межы рэспублікі. У віцебскіх панчохах шпацыруюць дзяўчаты і ў Беларусі, і ў многіх братніх рэспубліках.

На месцы дарэвалюцыйнай фабрыкі «Дзвіна»—магутны дывановы камбінат. Яго калектыў адзін з першых у рэспубліцы заслужыў права называцца прадпрыемствам камуністычнай працы. Імёны Героя Сацыялістычнай Працы памочніка майстра Пятра Клімкова і ткачыхі Ганны Кізікавай, узнагароджанай ордэнам Леніна, сёння добра вядомы ў нашай рэспубліцы і за яе межамі.

Здзіўляюць не толькі працоўныя поспехі,—у нас цяпер шмат ардэнаносных заслужаных прадпрыемстваў,—здзіўляе высокая культура. Яна ва ўсім. Ад выстаўкі дываноў нельга адвесці вочы, але цяжка сказаць, што прыгажэй, квяцістыя дываны ці дыван з кветак на камбінацкім двары. Бабіць засень маладога саду, які камсамольцы пасадзілі на пустэчы. Зямлю дзяўблі кіркамі, ламамі, і гэта не таму, што моладзі не было чым заняцца ў вольны час: на камбінаце шмат спартыўных секцый, а плавальны басейн адкрыты для ўсіх рабочых...

Гэтая культура на прадпрыемстве



**Дываны казачных узораў ткуць віцяблянкі Жэня Кітчанка і Вера Скарыновіч.**

**Не сядзіцца дома ветэрану Трафіму Дзяменцьевічу Угрумаву — так і цягне сюды, у дэпо, да моладзі.**





**Любіў Міхаіл Іванавіч у час адпачынку прайсціся па родным полі за плугам.**

ідзе ад культуры самога Віцебска. За гады савецкай улады тут створаны чатыры вышэйшыя навучальныя ўстановы, тэхнікумы; віцебскі тэатр імя Якуба Коласа канкурыруе з Акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы. У Віцебску працуюць 256 кандыдатаў і 126 дактароў навук.

Мы сустрэліся са старым чыгуначнікам, які ў 1919 годзе слухаў М. І. Калініна. Трафім Угрумаў працаваў тады ў дэпо майстрам па рамонту. Хоць прайшло з таго часу шмат гадоў ды і ўзрост Трафіма Дзяменцьевіча—за восьмы дзесятак, але ён добра памятае, з якой увагай чыгуначнікі лавілі кожнае слова Старшыні ВЦВК, як жорстка яны асуджалі выкрыкі меншавікоў, іх спробы падарваць давер рабочых да Савецкай улады.

— Тады са станцыі Віцебск накіроўвалася ў суткі да 5—7 пар паяздоў,—успамінае Трафім Дзяменцьевіч.—Ад машыніста да хваставога цягнулася вяроўка для сувязі. Паравозікі былі маламоцныя, да таго ж—зношаныя. У дэпо ўсё рабілася ўручную—такая была ў нас тэхніка.

— Пасля таго, як мы паслухалі Калініна, кожны стараўся працаваць лепш,—расказвае далей стары чыгуначнік.—Усім жадалася хутчэйшай перамогі над ворагам, над голадам і разрухай. Памятаю, мы ўзнялі са звалкі паравоз і вырашылі адрамантаваць сваімі сіламі, каб адправіць цягнік у Паволжа па хлеб. Працавалі не зважаючы на цяжкасці. Накіравалі дзве брыгады на чале з Маркоўскім і Герасімавым. Даставілі ў горад 37 вагонаў хлеба. Як радаваліся ўсе рабочыя тады! Васемнаццаць вагонаў адправілі ў Маскву і дванаццаць у Петраград...

Трафім Дзяменцьевіч жывы сведка таго, як развіваўся наш чыгуначны транспарт. На яго памяці паявіліся першыя савецкія паравозы «ФЭДы» і «СУ», ён удзельнічаў у асваенні пасляваенных паравозаў «Перамога», праз якія давялося перашываць асобныя ўчасткі чыгункі. А вось і яны сталі на запасны пуць: цяпер па магістралях імчацца магутныя цеплавозы. Да іх не так проста было прывыкнуць. Самы складаны паравоз многа прасцейшы за гэты магутны лакаматыў, які рве на кавалкі эшалон, калі крышку смялей кранецца з месца. А хіба параўнаеш грузы, што перавозіліся па дарэвалюцыйнай чыгунцы і па сённяшняй! Тады з Віцебска вывозілі льняныя тканіны, рыдлёўкі, сякеры, шчоткі, свечкі. А сёння ў Віцебску 18 заводаў, 17 фабрык, 9 камбінатаў!

Пасля Віцебска—шлях на Оршу.

Па-святочнаму выглядаюць аршанскія праспекты і вуліцы. Аршанцы толькі што адсвяткавалі 900-годдзе свайго горада. За сваю гісторыю не раз Орша разбуралася. Гітлераўцы яе бамбілі, рушылі ўсё, што сустракалася на шляху.

Яшчэ ў самым пачатку вайны ўзнялася на помсту аршанская зямля. З крутога пагорка Дняпра грозна глянулі на захад гвардзейскія мінамёты капітана Флёрава. Гэта быў першы «канцэрт» грозных «кацюш».

З высокага дняпроўскага берага, дзе стаіць помнік у гонар першага залпа, добра відаць уся Орша. Злева ўзняліся гмахі Аршанскага льнокамбіната, буйнейшага ў краіне. Камбінат—горад у горадзе, са сваімі вуліцамі і культурнымі ўстановамі, са сваімі школамі і магазінамі. Ці мог беларускі мужык пяцьдзесят гадоў назад спадзявацца і марыць, што той самы лён, з якога шылі зрэбныя кашулі, стане прадметам экспарту, што без беларускага льну не зможа існаваць самы сучасны інтэр'ер!



**Орша. З дняпроўскай кручы глядзіць на захад першая «кацюша».**

Мы едзем туды, дзе расце «сінявокі маладзец». У Машкове, Межаве і іншых вёсках былой Машкоўскай воласці памятаюць прыезд Усерасійскага старасты, памятаюць сустрэчу і гутарку з ім.

Міхаіл Антонавіч Шаматульскі тупае вакол сваёй старэнькай хаткі, адна такая толькі і засталася з вайны ў Машкове. Дзядок доўга жыве на белым свеце. Са шчукароўскай хітрасцю ён расказвае пра сваё жыццё:

— Да японскай вайны, акрамя сваёй вёскі, я нідзе не быў. А тут адразу трапіў пад Мукдэн. Там я ан-ты-ле-рыс-там быў. Каб мне цяпер тую гарматку, ото пеканув бы!.. Павајаваў я з самураямі, вярнуўся дамоў, а праз дзесяць гадоў зноў прыставілі мяне да гарматы: за цара і айцечаства на румынскім фронце гібеў. Ды хутка пачулі мы, што ў Піцеры рэвалюцыя, і вырашылі: ліха яго матары, з гэтай вайной, абрыдла яна нам, як горкая рэдзька... Я з фронту збег у Машкова—зямлю браць у пані Васілеўскай. Ды нешта не спяшаліся нам яе даваць. А мне рупіла зямля, ведама ж, пашвэндаўся па свеце, ажно рукі свярбяць, так працаваць хочацца.

Напісаў я тады Леніну. Так, маўляў, і гэтак, ваюю я ўсё ды ваюю, а зямлі няма, і хаты няма. І што вы думаеце? Неўзабаве ў воласць вяртаецца мой ліст, а на ім рэзалюцыя Леніна: зямлю Шаматульскаму даць на агульных падставах, а жыллё выдзеліць у адным з панскіх маёнткаў.

Так я стаў гаспадаром. Але прыйшлося яшчэ крышку павајаваць. Усялякі зброд тады на нас ішоў: Юдзеніч, Дзянікін, белапалякі. Быў я на Украіне, у Прыбалтыцы, прайшоў Крым і Беларусь. Ан-ты-ле-рыс-там быў! А з 1927 года сеў на сваю гаспадарку, як гаспадар...

Міхаіл Антонавіч памятае гутарку са Старшынёй ВЦВК:

**На ўспамін аб сустрэчы з аршанцамі.**





Мітынг у Магілёве.



Магілёўскі драмтэатр. З гэтага балкона выступаў Міхаіл Іванавіч Калінін.



— Як справы, сынок?—завітаў бацька на работу да Героя Сацыялістычнай Працы Рыгора Пускіна.

— Валасць тады змяшчалася ў маёнтку графа Лубенскага, у Межаве. А тут, у Машкове і ў навакольных вёсках, былі землі пані Васілеўскай. Сяляне мелі маленькія надзелы, ды і тыя былі не ва ўсіх. І вось усе мы тады цікавіліся зямлёй, сенажацямі, выпасамі, лесам, скардзіліся Калініну, што няма ўгнаенняў, газы, солі, недзе пасвіць жывёлу...

Падрабязнасці гэтай сустрэчы ўдакладняе Васіль Палікарпавіч Яскевіч, які быў у той час загадчыкам земаддзела валасці. Ён сустракаў і суправаджаў Калініна, частаваў яго чаем.

— Вось тут, на двары перад будынкам валсавета, сабраліся сяляне і батракі,—успамінае Васіль Палікарпавіч.—Мы раіліся з Калініным, як лепш падзяліць панскую зямлю. Гаварылі пра становішча на франтах. Тады ў валасці было шмат дэзерціраў, і мы спыталі ў Калініна, што рабіць з імі. Ён сказаў, што яны нашы людзі і хутка зразумеюць, што неабходна абараняць Савецкую ўладу. З імі трэба шчыра пагутарыць, растлумачыць іх памылку, і яны пойдуць ваяваць.

Па ўказанню Калініна тады адрэзалі частку зямлі ад дзяржаўнай гаспадаркі, што была створана на панскіх палетках, і далі па дзве дзесяціны на чалавека тым, у каго яе не хапала ці зусім не было. Неўзабаве ўсе дэзерціры пайшлі на фронт.

Васіль Палікарпавіч добра памятае выпадак з Шаматульскім і тую рэзалюцыю У. І. Леніна на яго лісце. Яму, як загадчыку земаддзела, давялося выконваць усё тое, што было ў ёй напісана.

Непадалёк ад Межава ёсць лясок, які тут называюць «лес Яскевіча». Яго Васіль Палікарпавіч на пустэчы пасадзіў і выгадаваў, калі быў за лесніка. Пасля, як закончыў агратэхнікум, узяўся за сады. Цяперашнія вакол Межава сады, больш як 120 гектараў, таксама яго клопат.

Вунь як вырасла вёска Межава, разлеглася ўшыр і ўздоўж! Мураваныя дамы, сярэдняя школа, клуб з шырокаэкраннай установкай. Амаль у кожным доме тэлевізар, радыё, газ. Межаўцы сёння скардзяцца на тое, што ў іх магазін мала завозяць халадзільнікаў, матацыклаў, тэлевізараў, аўтамашын.

У Межаве эксперыментальная база Віцебскай доследнай станцыі. На яе палях вырошчваецца элітнае насенне лепшых раяніраваных гатункаў збожжа. Былыя батракі, атрымаўшы з рук Савецкай улады зямлю і шырокую ініцыятыву, сталі гаспадарамі свайго лёсу. Многія сярод рабочых за самаадданую працу і высокія вытворчыя паказчыкі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі. А даярка Вольга Сямёнаўна Дзерваед удастоена высокага звання Героя Сацыялістычнай Працы.

***

14 чэрвеня 1919 года Міхаіла Іванавіча сустракаў Магілёў. На Тэатральнай плошчы сабраліся жыхары, чырвонаармейцы, прадстаўнікі розных устаноў. Пасля прывітальных прамоў выступіў Калінін.

«За паўтара года Савецкай улады, нягледзячы на жахлівыя ўмовы, мы зрабілі крок далёка наперад,—гаварыў ён.—Калі мы і далей так будзем рухацца наперад, то нашы ворагі павінны будуць прызнаць, якія творчыя сілы скрыты ў народных масах».

М. І. Калінін выступіў у клубе чыгуначнікаў, пабываў у некаторых установах і воінскіх часцях. Хвалюючай была сустрэча з выпускнікамі Магілёўскай школы чырвоных камандзіраў. Курсанты паднеслі Калініну сцяг, адбіты імі ў белапалякаў, пазнаёмілі з работай школы.

Тэатральная плошча. Змяніўся яе выгляд—не пазнаеш ні вуліц, ні дамоў. Толькі будынак драматычнага тэатра, з балкона якога выступаў перад магіляўчанамі Калінін, амаль што захаваў свой ранейшы выгляд. Усё астатняе,—і Першамайская вуліца і гэтыя дамы-гмахі, што акружаюць плошчу,—вырасла нядаўна на месцы руін, пакінутых вайной. У дзевяціпавярховым доме на Тэатральнай



Успамінае Адам Сямёнавіч Гавароўскі.



У саўгасе «Бабруйскі».



Яны сустракалі Міхаіла Іванавіча Калініна (вёска Палыкавічы).

плошчы, у зале з вялізнымі вокнамі, працуе выстаўка Бялыніцкага-Бірулі. Мы разглядаем раннія пейзажы вялікага мастака і міжволі параўноўваем іх з сучасным беларускім краявідам. Глянуць толькі на сам Магілёў: шырачэзная індустрыяльная панарама! Магілёўскі аўтамабільны завод выпускае самаходныя скрэперы, якія можна сустрэць на буйнейшых будоўлях краіны. Іх ведаюць і за мяжой. У высотных будынках Масквы, Кіева, Мінска снуюць ліфты магілёўскага завода «Строммашына». На правым беразе Дняпра дымяць каміны завода штучнага валакна імя Куйбышава. Побач будуецца яшчэ адзін мост праз Дняпро.

...З Рыгорам Пускіным мы едзем збіраць палыкавіцкіх людзей, што сустракаліся ў дзевятнаццатым годзе з М. І. Калініным. Нам не заўсёды шанцуе, не ўсе адразу згаджаюцца ехаць: аднаму нездаровіцца, а той яшчэ не паспеў паснедаць.

— Яны старыя ўсе. Гадоў па семдзесят, а то і па восемдзесят маюць, —кажа Рыгор.—Маці мая яшчэ таксяк, а бацька зусім нядужы: хадзіць яму цяжка. Перажыць войны ды дзесяць дзяцей выгадаваць,—яно, ведаеце, не проста...

— І вы ўсе ў калгасе працуеце?

— Не, не ўсе. Старэйшы мой брат Іван—у Маскве. Урач. Яшчэ чацвёра нашых у Магілёве, на заводах. А ў калгасе нас—пяцёра.

— Хто вы па спецыяльнасці, Рыгор?

— Трактарыст.

— Ды ён жа Герой Сацыялістычнай Працы!—не вытрымлівае Фёдар Лявонавіч Хуртаў.—От жа, лабідуда, і чаго тут саромецца!

Зачырванеўшыся, Рыгор апраўдваецца:

— А чаго выхваляцца. Не я адзін. У нашым калгасе пяць Герояў. І старшыня наш Аркадзь Іосіфавіч Якірэвіч—таксама Герой.

Гэта мы ведалі раней. І ведалі, за што такая павага палыкавіцкім людзям. Палі калгаса «Камінтэрн» раскінуліся на 35 кіламетраў уздоўж Дняпра. Высокія ўраджаі жыта, пшаніцы, кармавых траў дазваляюць атрымліваць з кожных ста гектараў па 122,9 цэнтнера мяса, 697 цэнтнераў малака.

Сёння толькі ў Палыкавічах 600 двароў. Шмат новых дамоў вырасла за апошнія гады, а таксама клуб з бібліятэкай на 36 тысяч кніг, фельчарска-акушэрскі пункт, дзве пачатковыя і адна сярэдняя школы. Радыё, электрычнасць і газ—усё гэта даўно не навінка ў жыцці калгаснікаў.

На лавачцы, пад кучаравымі вішнямі, мы гутарым са старажыламі вёскі. Цікавімся, хто бачыў і чуў тады Калініна. У Палыкавічах нямала жывых сведак гэтай сустрэчы: Антон Аляксандравіч і Таццяна Мікітаўна Пускіны, Кузьма Майсеевіч Чмыроў, Фёдар Лявонавіч Хуртаў.

— Не вельмі што жылося нам у той час,—прыгадвае Антон Аляксандравіч Пускін,—хаця мы і вызваліліся ад паноў. Не хапала зямлі, не было коней, інвентару. І мы на гэта скардзіліся Калініну. А ён, расказаўшы аб прычынах нашага няшчасця, заўважыў, што прыйдзе час, калі сялянская праца аблегчыцца. Там, дзе цяпер працуе дзесяць чалавек, некалі будзе ўпраўляцца адзін. Не верылася!..

Антон Аляксандравіч адзін з першых уступіў у 1930 годзе ў калгас. Такіх смельчакоў, як ён, было ўсяго пяцёра. Яны аб'ядналі інвентар, зямлю, коней і назвалі свой калгас «Чырвоны барацьбіт». Неўзабаве да іх пацягнулася ўся вёска. Пачалося новае жыццё, новая гісторыя Палыкавіч, народжаная Кастрычнікам.

У калгасе «Камінтэрн» восем спецыялістаў з вышэйшай і дзесяць з сярэдняй адукацыяй. Атрад механізатараў і жывёлаводаў налічвае 150 чалавек. Інтэлігенцыя вёскі—гэта больш як 40 настаўнікаў, урачоў, акушэрак. А між тым, як успамінаў той жа Антон Аляксандравіч, пры царызме на ўсю Палыкавіцкую воласць не было ні аднаго чалавека з сярэдняй адукацыяй.

***

Агітпоезд прыбыў у Гомель 16 чэрвеня. У гонар М. І. Калініна на вакзале адбыўся парад гомельскага інтэрнацыянальнага батальёна войск ВЧК і роты асобага прызначэння. Гэта быў своеасаблівы агляд салідарнасці працоўных розных нацыянальнасцей, якія абаранялі маладую рэспубліку Саветаў.

У той жа дзень Калінін наведаў цэхі вагонарамонтнага завода, гутарыў з рабочымі. Персанальны пенсіянер Казімір Казіміравіч Казлоўскі, які ў 1905 і 1917 гадах актыўна ўдзельнічаў у баявых рабочых дружынах і чырвонагвардзейскіх атрадах, успамінае, што тады па ўказанню Калініна пачалі прэміраваць прадуктамі лепшых рабочых, а на чале завода быў пастаўлены вопытны інжынер.

Казімір Казіміравіч—адзін з нямногіх, хто добра помніць гісторыю завода, баявыя справы рабочага класа Гомеля. За самаадданую працу і рацыяналізацыю на вытворчасці яшчэ ў 1932 годзе ён быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга Беларускай ССР.





**Міхаіл Іванавіч Калінін выступае на Гомельскім вагонарамонтным.**

— Памяркуйце самі, як мы жылі раней,—кажа Казімір Казіміравіч.— Рабочы дзень цягнуўся 14—16 гадзін. Заробкі былі мізэрныя, усё ў цэхах рабілі ўручную...

З руін і попелу зноў узняўся Гомельскі вагонарамонтны завод. Поўнасцю абнавіўся яго станочны парк. Сёння тут рамантуюцца пасажырскія вагоны самых розных марак. Каб хутчэй рамантаваць вагоны, зробленыя на замежных заводах, асобныя дэталі з металу і пластмас выпускаюць тут жа, на заводзе.

...18 чэрвеня на станцыі Беразіна, куды прыбыў поезд «Кастрычніцкая рэвалюцыя», сабраліся натоўпы людзей. Як адзначалі потым газеты, Калінін «кожнага выслухаў, з кожным пагутарыў, раздаваў літаратуру і газеты». За два дні, якія правёў Міхаіл Іванавіч у Бабруйску, ён выступіў на агульнагарадскім мітынгу ў Палацы працы, у Народным садзе і на аб'яднаным пасяджэнні выканкома Саветаў і прадстаўнікоў партыйных і прафсаюзных арганізацый. У суправаджэнні ваеннага камісара і прадстаўніка павятовага выканкома ён наведаў Гарбацэвіцкую воласць.

— Як сёння памятаю гэтую сустрэчу,—расказвае Адам Сямёнавіч Гавароўскі.—У рабочай кепцы, у простым карычневым гарнітуры, у ботах... Бародка клінком... Просты рабочы чалавек...

Такім Усерасійскі староста запомніўся ўсім гарбацэвіцкім сялянам, якія слухалі яго, задавалі яму пытанні. Гутарка праходзіла на двары валаснога Савета, дзе цяпер новы будынак сельсавета.

У Гарбацэвічах—цэнтр саўгаса «Бабруйскі». Гэта буйная механізаваная гаспадарка, якая з кожным годам дае краіне ўсё больш збожжа, мяса, малака, гароднiны. Дабротныя вытворчыя пабудовы, магазіны, жылыя дамы, сталовая працягнуліся ўздоўж



**Гомельскі суперфасфатны: змена ідзе.**



**Шмат пытанняў у беларускіх сялян...**

Слуцкай шашы. І куды не кінеш вокам—усюды паспелая збажына, пад цяжарам пладоў сады...

***

20 чэрвеня, завяршаючы паездку па Беларусі, Міхаіл Іванавіч Калінін прыбыў у прыфрантавы Мінск. На мінскім вакзале яго сустракалі прадстаўнікі кампартыі Літвы і Беларусі, Саўнаркома, Чырвонай Арміі і прафсаюзаў.

Вірыла людское мора. Кожнаму хацелася бліжэй убачыць Міхаіла Іванавіча. «На вас усіх,—гаварыў Калінін на вакзале,—ляжыць абавязак прыняць удзел у барацьбе з ворагамі рэспублікі і сваёй доблесцю, сваёй пралетарскай дысцыплінай нанесці канчатковы ўдар рэштам контррэвалюцыі на Заходнім фронце».

У Мінску Міхаіл Іванавіч выступіў на плошчы Свабоды перад пятнаццаццю тысячамі школьнікаў горада.

«Я прашу вас,—гаварыў ён,—вучыцца і вучыцца. Перад вамі адкрыта шырокая дарога, дзеці. Я спадзяюся, што з вас вырастуць добрыя грамадзяне, добрыя патрыёты, якія заўсёды са зброяй у руках будуць абараняць нашу свабоду, наша новае жыццё».

Тысячы тых, хто яго слухаў тады, мужна змагаліся ў гады Вялікай Айчыннай вайны супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Многія аддалі сваё жыццё за свабоду і шчасце, заваяваныя іх бацькамі.

На развітанне Міхаіл Іванавіч запрасіў дзяцей у поезд: «Прыходзьце. У мяне там ёсць кінематограф, і вы ўбачыце шмат цікавага».

Затым ён прымаў парад часцей Мінскага гарнізона і рабочых усенавуча на Траецкай плошчы, дзе цяпер парк і Тэатр оперы і балету.

Увечары Калінін выступіў на аб'яднаным пасяджэнні ЦВК Саветаў Літоўска-Беларускай ССР, Мінскага Савета і праўлення прафсаюзаў, якое адбылося ў гарадскім тэатры. Удзельнікі пасяджэння горача віталі Савецкую Расію, Чырвоную Армію і адобрылі дэкрэт аб стварэнні ваенна-палітычнага саюза Савецкіх рэспублік. Калінін адзначыў, што Расія ва ўсе цяжкія моманты будзе абараняць беларускі народ, што саюз Савецкіх рэспублік дапаможа перамагчы ўсіх ворагаў.

Міхаіл Іванавіч наведаў Сенненскую і Самахвалавіцкую валасці.

«Я хачу ведаць, у якіх адносінах вы знаходзіцеся з уладай, як яна адносіцца да сялянскага побыту,—гаварыў ён у гутарцы з сялянамі ў Самахвалавічах.—Я хачу ведаць, як вы жывяце, што ў вас робіцца». Закранаючы пытанні мясцовай улады, ён сказаў: «Дзяржаўны апарат вы павінны наладзіць у першую чаргу ў сваёй вёсцы. Будзе наладжана воласць, наладзіцца і павет, а па павету наладзіцца і губерня. Нечага чакаць, што прыйдзе пан, рассудзіць ды адлупцуе—прайшлі ўжо тыя часы...»



**Усерасійскі стараста на парадзе войск Мінскага гарнізона.**

У маёнтку Ігнатовічы і іншых вёсках, дзе пабываў Калінін, сяляне часта прапаноўвалі падзяліць былыя панскія маёнткі і землі, на што Калінін адказваў, што культурныя маёнткі Савецкай уладзе патрэбны як фабрыкі хлеба, што Савецкая ўлада зацікаўлена ў павелічэнні пагалоўя прадуктыўнай жывёлы, што перабоі з дастаўкай тавараў у вёску выкліканы цяжкасцямі вайны.

У Самахвалавічах цяпер старыя гавораць: «У нас, хутчэй, горад, чым вёска. І жывём мы не горш, як жывуць у горадзе».

***

Прашумелі гады. Прайшло амаль паўвека, як па абпаленай вайною, разбуранай і знявечанай зямлі Беларусі ішоў поезд «Кастрычніцкая рэвалюцыя». Даўно згнілі косці старых і новых заваёўнікаў, якія зарыліся на наша шчасце. З попелу паўсталі гарады і вёскі, расквітнела зямля здабыткамі вольнай чалавечай працы.

Ленінскім маршрутам ішоў у суровым 1919 годзе агітпоезд. Ленінскім маршрутам пад кіраўніцтвам партыі Леніна крочыла наша родная Беларусь у шарэнзе з усімі народамі савецкай краіны, пераадольваючы ўсе цяжкасці на сваім шляху. Ленінскі маршрут натхняе нашых сучаснікаў на паход далей, да сваёй светлай будучыні.

Антон **КАВАЛЬЧУК.**

# СЯЛЯНСКІ ДЭПУТАТ

**У асабістым архіве палкоўніка ў адстаўцы Уладзіміра Піліпавіча Караткевіча, які жыве ў Маскве, захавалася фота. На ім зазнята група людзей і ёсць надпіс: «Усерасійскі савет сялянскіх дэпутатаў Беларускай вобласці. Петраград. 27.V.1917 г.»**

**Уладзімір Піліпавіч перадаў гэтае фота ў рэдакцыю «Маладосці». Мы папрасілі намесніка дырэктара Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацбудаўніцтва БССР Мікалая Іванавіча КАМІНСКАГА расказаць аб падзеях і людзях таго часу.**

**Тут расказваецца пра нашага земляка Піліпа Караткевіча, які быў адным з дэлегатаў з'езда сялянскіх дэпутатаў ад Беларусі ў Петраградзе.**



Адкрыўся гэты з'езд 17 мая 1917 года ў Петраградзе. І хоць называўся ён І Усерасійскі з'езд сялянскіх дэпутатаў, галоўнымі арганізатарамі яго былі эсэры. Пад іх уплывам праходзілі выбары прадстаўнікоў ад губернскіх сялянскіх арганізацый. Да канца з'езда дэлегатаў сабралася больш чым 1 300 чалавек.

Актыўны ўдзел у рабоце з'езда прынялі беларускія дэлегаты. Так, дэ-

легацыю Мінскай і Віленскай губерняў узначальваў вядомы бальшавік-ленінец Міхаіл Васільевіч Фрунзе.

Бальшавікоў на з'ездзе было ўсяго дваццаць чалавек, яны склалі асобную фракцыю на чале з Г. Разжывіным, якая дзейнічала пад кіраўніцтвам ЦК РСДРП(б) і асабіста У. І. Леніна. Бальшавікі перацягнулі на свой бок фракцыю беспартыйных дэлегатаў у чатырнаццаць чалавек. Кіраваў гэтай фракцыяй М. В. Фрунзе. У яе склад уваходзіў і дэлегат ад сялян Бабруйскага павета народны настаўнік Піліп Мацвеевіч Караткевіч.

У першыя дні работы з'езда У. І. Ленін быў хворы і не здолеў на ім прысутнічаць. Таму ён звярнуўся да дэлегатаў з адкрытым пісьмом, якое было надрукавана ў газеце «Солдатская правда» 24 мая 1917 года. У пісьме Уладзімір Ільіч растлумачваў патрабаванні бальшавіцкай партыі па трох асноўных пытаннях: аб зямлі, аб вайне і аб будове дзяржавы.

З'езд ператварыўся ў арэну барацьбы бальшавікоў з эсэрамі за сялянскія масы. Асабліва вострыя спрэчкі ішлі аб зямлі. Гэтае пытанне з перапынкамі абмяркоўвалася з 29 мая да 7 чэрвеня.

У. І. Ленін напісаў рэзалюцыю па аграрнаму пытанню і прапанаваў яе ад імя фракцыі бальшавікоў на разгляд з'езду. Рэзалюцыю ўхвалілі таксама беспартыйныя дэлегаты.

4 чэрвеня Ленін выступіў на з'ездзе з прамовай па аграрнаму пытанню. Ён прапанаваў перадаць зямлю народу, адмяніць прыватную ўласнасць на яе. Адзін з дэлегатаў, успамінаючы гэты дзень, пісаў:

«Шум, які стаяў у зале, адразу заціх, калі старшыня абвясціў, каму прадастаўляецца слова. Аднекуль з-за прэзідыума выступіла наперад постаць Уладзіміра Ільіча... Спачатку з правых лавак чуліся рэплікі. Але хутка іх не стала чуваць. Дэлегаты, асабліва сяляне, напружана ўглядаліся ў твар і жэсты Леніна. А ён хадзіў па ўзвышэнні ўзад і ўперад, голас яго гучаў моцна, яго словы, выразныя і ясныя, былі ўсім зразумелыя. Скончыў Ленін прамову — і пачалася дружная авацыя большасці з'езда. Гэта было нечакана нават для многіх, хто апладыраваў: так іх захапіла прамова Уладзіміра Ільіча».

Уважліва слухаў Леніна і Піліп Караткевіч. Ён тады ўпершыню бачыў і чуў правадыра бальшавіцкай партыі, пра якога расказваў Міхаіл Васільевіч Фрунзе па дарозе ў Петраград, а пасля на нарадзе фракцыі чатырнаццаці беспартыйных. Па рэгламенту пасля выступлення Леніна з'езд павінен быў прыняць рэзалюцыю, прапанаваную эсэрамі. Аднак, баючыся правалу, эсэры спынілі на два дні пасяджэнні з'езда і звярнуліся за дапамогай да Г. В. Пляханава. Той прыслаў на імя з'езда пісьмо, у якім заклікаў сялян не чапаць памешчыцкіх і кулацкіх земляў таму, што «калі ў іх адбяруць зямлю, то памешчык стане жабраком. Гэта значыць, што мы будзем пладзіць жабракоў у Расіі...»

Аднак большасць дэлегатаў з'езда была за неадкладную перадачу зямлі сялянам. І эсэрам прыйшлося змяніць загадзя падрыхтаваную рэзалюцыю. Яны раздзялілі дэлегатаў па губернях і на раздзельных пасяджэннях літаральна навязалі ім сваю рэзалюцыю з дадаткам пункта аб перадачы ўсіх земляў, у тым ліку і памешчыцкіх, пад ведама і на ўлік зямельным камітэтам і аб забароне спекуляцыі зямлёй. 7 чэрвеня гэтая «каўчукавая» рэзалюцыя была прынята большасцю з'езда. Напышлівымі фразамі эсэры ашукалі сялян. Аднак заклік Леніна на з'ездзе прагучаў на ўсю краіну і меў велізарнае значэнне для палітычнага выхавання сялянства.

Напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Петраградзе пры Усерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў быў створаны Беларускі абласны камітэт пад старшынствам Я. Канчара. Адным з двух яго намеснікаў быў Піліп Караткевіч. Гэта была чыста сялянская арганізацыя, якая складалася з сямідзесяці беларусаў — дэлегатаў Усерасійскага з'езда — і стаяла за канфіскацыю памешчыцкіх земляў. У канцы 1917 года камітэт быў цесна звязаны з Наркамнацам РСФСР, які падрыхтоўваў утварэнне Беларускай рэспублікі.

У жніўні 1919 года Піліп Караткевіч не паспеў эвакуіравацца з Бабруйска, і яго арыштавалі белапалякі. Некалькі месяцаў ён сядзеў у мінскай турме. Потым, па стану здароўя, яго вызвалілі пад нагляд жандармерыі. Піліп Караткевіч уцякае на савецкую тэрыторыю. Там ён расказвае сялянам аб становішчы на захопленай акупантамі тэрыторыі і заклікае падтрымліваць Чырвоную Армію.

Пасля вызвалення Бабруйска Піліп Караткевіч працаваў у аддзеле народнай асветы інструктарам школ, а пасля быў загадчыкам школы першай ступені ў Любонічах.

У сакавіку 1921 года пасля цяжкай хваробы Піліп Мацвеевіч памёр. Пахаваны ён у Бабруйску. Бабруйскі акруговы аддзел народнай асветы пісаў пра яго: «Не было да гэтага часу сярод школьных працаўнікоў Бабруйскага павета настолькі адданага справе народнай асветы і столькі многа аддаўшага гэтаму чалавека, як тав. Караткевіч».

**Мікалай КАМІНСКІ.**



*80 гадоў з дня нараджэння Джона РЫДА*



# ВОІН КАСТРЫЧНІКА

Сярод барацьбітоў-камуністаў, якія прысвяцілі сваё жыццё рэвалюцыі, ярка ззяе імя амерыканскага сябра Савецкай Расіі Джона Рыда. Шлях прагрэсіўнага пісьменніка да сацыялізма быў складаны.

Джон Рыд атрымаў адукацыю у Гарвардскім універсітэце, са сцен якога выйшла нямала дыпламатаў, банкіраў, бізнесменаў і нават прэзідэнтаў ЗША. Д. Рыд вельмі старанна займаўся гуманітарнымі навукамі. Асабліва захапляўся літаратурай, гісторыяй, эканомікай, палітыкай і мовамі. Велізарны ўплыў на светапогляд Д. Рыда зрабіў яго бацька — чалавек незалежных поглядаў, які працаваў федэральным судовым выканаўцам, а таксама прагрэсіўны амерыканскі дзеяч Лінкольн Стэфенс, з якім малады пісьменнік пазнаёміўся ў Нью-Йорку.

Яшчэ будучы студэнтам, Джон Рыд рэдагаваў сатырычны ўніверсітэцкі часопіс, пісаў для яго прозу і вершы, высмейваў недахопы сынкоў буржуазіі. Пазней, ужо ў Нью-Йорку, з-пад яго пяра выходзяць апавяданні «Куды вядзе сэрца», «Гульня правасуддзя», «Убачыць — значыць перамагчы», «Капіталіст», «Яшчэ адзін выпадак няўдзячнасці» і іншыя, у якіх Джон Рыд крытыкуе сістэму буржуазнага грамадства, паказвае адваротны бок так званага амерыканскага ладу жыцця, з абурэннем выкрывае цынізм капіталістычнага свету.

У красавіку 1913 года Рыд убачыў мужную барацьбу пралетарыяў на шаўкаткацкіх фабрыках Патэрсона. Тут пісьменніка арыштавалі, ён некалькі дзён сядзеў у турме і разам з забастоўшчыкамі спяваў «Марсельезу». Там жа ён пазнаёміўся з Білам Хейвудам — лідэрам рэвалюцыйнай у той час прафсаюзнай арганізацыі «Індустрыяльныя рабочыя свету». У выніку Д. Рыд напісаў нарыс «Вайна ў Патэрсоне», у якім з вялікай страсцю выступіў у абарону забастоўшчыкаў.

Праз год малады пісьменнік прымае баявое хрышчэнне ў Мексіцы, дзе пачалася грамадзянская вайна. Д. Рыд быў першы і адзіны карэспандэнт, які расказаў свету пра тое, што адбывалася ў гэтай краіне, ахопленай полымем народнага паўстання. Яго рэпартажы, сабраныя ў кнізе «Паўстаўшая Мексіка», маюць вялікае значэнне і сёння.

Вярнуўшыся ў Нью-Йорк, Рыд прадаўжаў абараняць інтарэсы мексіканскай рэвалюцыі. У апавяданні «Мак—амерыканец» ім выкрываюцца наёмнікі, правакатары і забойцы.

Вясною 1914 года Д. Рыд-карэспандэнт спяшаецца да месца крывавых падзей у Ладлоу (штат Каларада). Падзеі, што адбыліся на вугальных шахтах Джона Ракфелера, ускалыхнулі ўсю Амерыку, бо наёмныя ахоўнікі вугальнага магната спалілі палатачны лагер, дзе туліліся забастоўшчыкі — 1200 чалавек дваццаці адной нацыянальнасці.

Пісьменнік смела выкрывае цынічныя і злачынныя дзеянні прадстаўнікоў вялікага бізнесу супраць працоўнага люду. Сабраны ў Ладлоу матэрыял паслужыў

асновай для нарыса «Вайна ў Каларада», якi ператварыўся ў абвiнаваўчы акт супраць усёй сiстэмы наёмнага рабства.

Зноў Нью-Йорк. Д. Рыд выступае на мiтынгах у абарону забастоўшчыкаў i ўдзельнiчае ў кампанii збору сродкаў пацярпеўшым рабочым. У адказ на гэта падкупленыя шахтаўладальнiкамi газеты пачалi траўлю i праследаванне маладога пiсьменнiка. Але Джон Рыд не склаў зброi. Усё выразней акрэслiваецца разыходжанне i раскол памiж iм i класам буржуазii.

Праз некалькi месяцаў пасля падзей у Ладлоу ў Еўропе пачалася сусветная вайна. Д. Рыд заявiў: «Гэта не наша вайна!» У сваiх новых апавяданнях «Дачка рэвалюцыi», «Праўда малых нацый», «Галава роду», «Ноч на Брадвеi» i iншых ён выкрывае чалавеканенавiсны лад iмперыялiстычных дзяржаў, з горыччу зазначае, што ў Еўропе на франтах памiраюць мiльёны людзей дзеля прыбытку капiталiстаў.

Вясною 1915 года Джон Рыд зноў едзе ў Еўропу. Грэцыя, Сербiя, Расiя, Балгарыя, Турцыя... Аб усiм, што ўбачыў на свае вочы, ён напiсаў у кнiзе «Вайна на ўсходнiм фронце». З болем у сэрцы Рыд гаворыць пра народы, уцягнутыя ў пекла вайны, рашуча паўтарае словы: «Гэта не наша вайна!», адкрыта гаворыць пра свае сiмпатыi да пралетарыяту, спачувае яму «ўсiм сэрцам».

Кастрычнiк 1917 года. Амерыканец Джон Рыд сярод змагароў на вулiцах рэвалюцыйнага Петраграда. Пад уплывам сацыялiстычнай рэвалюцыi i У. I. Ленiна ён становiцца перакананым марксiстам. «Маё жыццё,— пiша Д. Рыд,— я дзялю на два перыяды: да сустрэчы з Ленiным i Кастрычнiцкай рэвалюцыяй i пасля гэтай сустрэчы. Раней я бачыў толькi паверхню з'яў, у Ленiна я навучыўся разумець iх сутнасць. Нi адзiн чалавек не даў мне столькi, колькi ён».

Джон Рыд прыехаў у Расiю карэспандэнтам прагрэсiўнага амерыканскага часопiса «Мэсiз». Гэта быў цяжкi i бурны час пасля правалу карнiлаўскай авантуры. Улада ў Расii перайшла да буржуазii, краiне пагражала поўная эканамiчная катастрофа, контррэвалюцыя намагалася ўстанавiць ваенную дыктатуру.

Джон Рыд актыўна ўключаецца ў вадаварот палiтычных падзей: наведвае мiтынгi, якiмi бурлiў Петраград, вывучае вялiкую колькасць газет, брашур, плакатаў, лiстовак, адозваў i загадаў. I кожны дзень, пражыты ў рэвалюцыйным Петраградзе, пераконвае Д. Рыда, што задушыць пралетарскую рэвалюцыю немагчыма. Сiла бальшавiцкiх iдэй i лозунгаў расце, i бальшавiкi — адзiная партыя, якая можа павесцi народ на штурм старога свету.

У той час выйшла больш 60 артыкулаў i пiсем У. I. Ленiна, у якiх партыя атрымала кiруючыя ўказаннi. Пазней у газеце «Рэвалюцыйны век» Д. Рыд пiсаў: «Дзень за днём са свайго патаемнага сховiшча Ленiн уздымаў голас, падобны звону металу: "Паўстанне, паўстанне!»

25 кастрычнiка (7 лiстапада) 1917 года рэвалюцыя ў Расii перамагла. У сваёй першай каблаграме для часопiса «Мэсiз» Д. Рыд паведамляў: «Гэтай ранiцай я назiраў, як юнкеры займаюць пазiцыi вакол Зiмняга палаца, акружанага бальшавiкамi. Днём я прысутнiчаў на адкрыццi II-га Усерасiйскага з'езда Саветаў. Вечарам я быў сведкам штурму Зiмняга палаца i ўвайшоў туды разам з перадавымi атрадамi бальшавiкоў». Кастрычнiцкая рэвалюцыя захапiла Д. Рыда цалкам i беззаздзельна, ён успрыняў яе як сваю. Амаль кожны дзень пiсьменнiка можна было ўбачыць у калiдорах Смольнага, што былi перапоўнены чырвонагвардзейцамi i матросамi з фронту, або сустрэць у памяшканнi Ваеннарэвалюцыйнага камiтэта.

Бiёграф Д. Рыда Грэнвiл Хiкс вельмi дакладна выказаўся: «Рэвалюцыя ўзнавiла ў iм надзею i мужнасць i стала цэнтрам яго жыцця. Гэта не было цудадзейнае пераўтварэнне. Гэта было пасталенне». Знаёмства з У. I. Ленiным у Рыда пачалося з вывучэння яго твораў. Д. Рыд набыў працы Ленiна «Цi ўтрымаюць бальшавiкi дзяржаўную ўладу?», «Дзяржава i рэвалюцыя», «Пралетарская рэвалюцыя i рэнегат Каўцкi» i iншыя, глыбока iх вывучыў i законспектаваў.

Праз восем месяцаў пасля прыезду ў Расiю Джон Рыд асабiста ўбачыў У. I. Ленiна, калi ён выступаў на II-м з'ездзе Саветаў з дакладам аб мiры i зямлi. Пасля амерыканскi пiсьменнiк часта бываў у Ленiна ў крамлёўскiм кабiнеце. Па прапанове правадыра рэвалюцыi Д. Рыд пiша працу «Камунiстычны рух у Амерыцы». У. I. Ленiн уважлiва прачытаў гэты твор, унёс важныя папраўкi i ўдакладненнi, даў патрэбныя рэкамендацыi i зрабiў заўвагi на палях артыкула.

«Калi Джон Рыд расставаўся з У. I. Ленiным,— успамiнае Карл Ховi (рэдактар часопiса «Метрапалiтэн», дзе раней супрацоўнiчаў Д. Рыд),— у яго было адчуванне, нiбы ён атрымаў у рукi ключы, што адмыкаюць дзверы ў будучыню».

У частых сустрэчах з У. I. Ленiным Д. Рыд чэрпаў ленiнскую праўду, якая паступова авалодвала ўсёй яго iстотай, адчуваў велiчнасць i генiяльнасць рускага правадыра, яго гуманiзм. Як вынiк паездкi ў Расiю, на барыкады Кастрычнiка, Джон Рыд напiсаў кнiгу «Дзесяць дзён, якiя патрэслi свет». Кнiга з'явiлася праз год пасля Кастрычнiка. У ёй правiльна i глыбока асветлены гiстарычныя заканамернасцi Кастрычнiцкай рэвалюцыi, паказаны магутны рух народных мас i створаны незабыўны вобраз У. I. Ленiна.

Былы амерыканскi рудакоп, цяпер савецкi шахцёр, стары камунiст Iван Мацвеевiч Пiптар, успамiнае, што кнiга Джона Рыда «Дзесяць дзён, якiя патрэслi свет» была першым палiтычным падручнiкам амерыканскага рабочага класа. А прагрэсiўны англiйскi пiсьменнiк Джэймс Олдрыдж з хваляваннем пiша, што многiя замежныя сябры ўпершыню адчулi атмасферу Кастрычнiка, чытаючы гэтую кнiгу.

«Нават шмат гадоў пасля мы, здаралася, плакалi ад радасцi,— пiша Олдрыдж,— чытаючы рэпартаж Рыда аб Ленiне». Вярнуўшыся ў Амерыку, Д. Рыд, не шкадуючы сябе, поўнасцю стаў палiтычным прамоўцам i публiцыстам. Ён ездзiў па краiне, чытаючы лекцыi аб новай Расii, друкаваў артыкулы, у якiх палiтычна адукоўваў рабочы клас Амерыкi. Д. Рыд — адзiн з першых людзей, хто ўдзельнiчаў у стварэннi камунiстычнай партыi ў ЗША.

У 1919 годзе Д. Рыд прыехаў у Маскву як дэлегат III-га Iнтэрнацыянала. Ён збiраўся напiсаць новую кнiгу, але здзейснiць задуму не паспеў — пiсьменнiк захварэў на брушны тыф i памёр 17 кастрычнiка 1919 года.



Военно-Революціон. Комитетъ при Петр. С. Р. и С. Д. Комендантскій отдѣлъ. 16 ... 191 г. № 955 Смольный Институтъ

Пропускъ.

Дано сіе ... срокомъ по ... на право свободнаго входа въ Смольный Институтъ.

Комендантъ ...

Рэвалюцыйны пропуск.

Iмя Джона Рыда, шчырага i нястомнага барацьбiта-рэвалюцыянера, для нас, савецкiх людзей, для працоўных усяго свету з'яўляецца сiмвалам беззапаветнай адданасцi iдэям марксiзма-ленiнiзма.

**Нiна ФЁДАРАВА.**

◆ ◆ ◆

**У лiстападзе на старонках нашага часопiса з архiўных матэрыялаў вы даведаецеся ПРА ПАДАРУНКI, якiя рабiлi працоўныя Беларусi кожнай ГАДАВIНЕ КАСТРЫЧНIКА.**


Гэту эмблему ведае ўвесь свет.


Так пачынаецца працоўны дзень. Каршчыцы выязджаюць на работу.

# МАЗ НАБІРАЕ ХУТКАСЦЬ

Рэпартаж

7 лістапада 1924 года па Краснай плошчы ў Маскве пракаціліся першыя савецкія аўтамабілі — грузавікі АМО-Ф-15.

7 лістапада 1947 года па плошчы Леніна ў Мінску праехалі першыя беларускія аўтамабілі МАЗ — 205. Іх было пяць.


Ранак у цэху.

Сёння машыны з маркай Мінскага аўтазавода ходзяць па дарогах пяцідзесяці краін свету. Вітаюць іх пальмы Гвінеі, фінскія шхеры, піраміды Хеопса, джунглі Цэйлона. Беларускі сталёвы зубр, як спадарожнік, імчыцца вакол усёй нашай планеты. І без усялякай нацяжкі, па справядлівасці, па праву можна сказаць: МАЗ — завод і аўтамабіль — нацыянальны гонар беларусаў.

У пачатку жніўня 1944 года, усяго праз месяц пасля вызвалення Мінска, фронт знаходзіўся ўжо ў Польшчы. Хуткасць наступлення Савецкай Арміі ўзрастала з кожным днём. Шалёнага звера гналі ў яго логава. Каб забяспечыць нашы перадавыя дывізіі ўсім неабходным, трэба было мець як мага больш машын. І вось пастанова — стварыць у Мінску аўтазборачны завод.

Тады ў Чырвоным Урочышчы сабралася некалькі сот чалавек. Яны прыйшлі з лесу ў лес. Пакінуўшы адны зямлянкі, хуценька пабудавалі другія. Здалі зброю, атрымалі рыдлёўкі і сякеры. Былі яны ў паўваеннай вопратцы, харч атрымлівалі па прадуктовых картках. І парадак захоўваўся яшчэ паўваенны. Загад № 1 па заводу быў падпісаны не дырэктарам і не галоўным інжынерам, а Упаўнаважаным ЦК КП(б)Б і СНК БССР. Мінскі аўтазавод стваралі партызаны. Быў сярод іх і цяперашні дырэктар завода, былы камандзір партызанскай брыгады «Смерць фашызму» Іван Міхайлавіч Дзёмін.


Як лепш правесці эстафету «100 ударных дзён камсамола» — раяцца камсорг тэрмічнага цэха Галя Анцюфрыева і маладыя рабочыя Іван Тарасевіч, Міхалай Міхалевіч, Леанід Злачынскі.

Партызаны карчавалі лес, будавалі цэхі і збіралі імпартныя аўтамабілі, якія прама з цэха накіроўваліся на фронт. Калі ж скончылася вайна і з'явілася неабходнасць у пашырэнні айчыннай аўтабудаўнічай прамысловасці, у цягніку, што вёз савецкую ўрадавую дэлегацыю з Патсдамскай канферэнцыі, было вырашана пабудаваць у Мінску аўтамабільны завод.

Гэта цяпер наш завод лічыцца самым буйным з пасляваенных аўтамабільных і яго машыны атрымалі сусветнае прызнанне. Да таго, як заслужыць ордэн Леніна, мець сваіх Герояў Працы і заваяваць пераходны Чырвоны сцяг свет ахнуў ад здзіўлення. У Жодзіне, пад Мінскам, вырас яшчэ адзін завод, БЕЛАЗ, які за кароткі час прынёс шмат лаўраў не толькі Беларусі, але і ўсёй краіне.

За дваццаць гадоў, з таго дня, як па плошчы Леніна прайшлі першыя беларускія аўтамабілі, МАЗ узышоў на арбіту сусветнай славы. Чаму ён апярэдзіў усе аўтазаводы краіны, што выпускаюць грузавыя аўтамабілі?

Трэба ведаць аўтазаводцаў, каб растлумачыць гэтае «чаму». Трэба ведаць мінчан. Трэба ведаць наогул беларусаў, іх гісторыю, іх шматвяковыя пакуты, і тады стануць зразумелымі іх дасягненні за гады Савецкай улады. Але гэта



За пультам кіравання цэха афарбоўкі металапакрыццяў — Ларыса Ліпай.

Міністэрства аўтамабілебудавання Саюза, МАЗ прайшоў складаны і нялёгкі шлях.

Як правіла, новыя аўтамабільныя заводы маюць сваіх папярэднікаў. Мазаўцы вучыліся будаваць машыны на Маскоўскім аўтазаводзе. Першую мадэль МАЗ—205 распрацавалі для мінчан у Яраслаўлі. Кіруючы інжынерны і канструктарскі персанал «пазычалі» то на ЗІЛе, то на ГАЗе. Так было спачатку.

А пасля мінскія аўтазаводцы самі сталі настаўнікамі. З іх гнязда вылецела такое птушаня, што ўжо адхіленне ў бок агульнай гісторыі, якая больш-менш вывучана. Гісторыя ж МАЗа яшчэ толькі пішацца.

Лепш пагаворым з рабочымі, майстрамі, інжынерамі, з дзяўчатамі, якія працуюць на заводзе ўсяго некалькі месяцаў, і з пасівелымі дзядзькамі, для якіх работа на МАЗе хутка стане ўспамінам. Не будзем ідэалізаваць іх працу, як гэта робіцца ў песнях, не будзем ставіць адну спецыяльнасць вышэй за другую, бо няма ніводнай лёгкай справы, калі яна робіцца ад душы. Праз лязгат многа-





Выдатную сталь варыць Васіль Карпавіч Ладагубец.

разцовых такарных станкоў, праз дым і гарачыню ліцейкі, з грымучай чорнай фармоўкі паўстаюць перад намі гэтыя людзі.

У заводскім музеі вісіць фатаграфія шафёра Віктара Аляксандравіча Гаршкова. У пасляваенныя гады Гаршкова рэдка калі бачылі на заводзе. Ён заўсёды быў у дарозе, у самых далёкіх рэйсах. Маўклівы, надзвычай сціплы, ён дзень за днём вазіў на завод дэфіцытныя дэталі. У самы люты холад газаваў да Свярдлоўска па латунныя трубкі. Не паспее як след адаспацца, а ў яго зноў пытаюцца:

— Паедзеш?

А чаго тут пытацца! Ён бы ехаў і ехаў, хоць на край свету. Ён тады толькі і жыў, калі роўна вуркатаў матор і ў ветравым шкле мільгацелі гарады і сёлы.

— Ці ездзіце вы ў далёкія рэйсы цяпер, Віктар Аляксандравіч?

— А навошта? Цяпер тэрміновыя грузы для нас перавозіць аэрафлот, «таўкачы» ў нас свае ёсць...

Лягчэйшае стала жыццё, не патрэбны вялікія самаахвяры, каб выканаць праграму. Рэканструкцыя рэзка змяніла твар завода і зменіць яго яшчэ больш. Мадэрнізацыя абсталявання, аўтаматызацыя вызвалілі рабочых ад цяжкай, малапрадукцыйнай працы. Сучасныя тэхнічныя тэндэнцыі знайшлі на заводзе адлюстраванне не толькі ў безлічы канвеераў, навейшых аўтаматычных ліній і агрэгатных станкоў, а і ў самой архітэктуры высокіх са шкла і бетону карпусоў. Ужо зараз можна праводзіць параўнанні тыпу «раней і цяпер», хоць адлегласць па-



У руках мазаўцаў — пераходны Чырвоны сцяг Міністэрства аўтамабілебудавання СССР.

між імі не больш як пяць год.

Гасцям на заводзе заўсёды раяць паглядзець цэх афарбоўкі металапакрыццяў. Тыя ў адказ звычайна моршчаць насы, бо каму ахвота пэцкацца, дыхаць паветрам, насычаным ацэтонам. Але ўсё ж ідуць за экскурсаводам, і, калі трапляюць у цэх, здзіўленню іх няма канца. Ні фарбы, ні традыцыйных заскарузлых камбінезонаў маляроў — замест гэтага пульт, падобны на пульт атамнай станцыі.

Цяпер па ўсіх літаратурных законах трэба было б паказаць апаратара пульта, скажам, маладога хлопца, які мае вышэйшую тэхнічную адукацыю, вялікага эрудыта, або, як мінімум, студэнта-вячэрніка, які паспявае і на вытворчасці, і на лекцыях па радыёэлектроніцы.

Але ў жыцці не бывае схем. І ля пульта мне сустрэўся не ўдачлівы студэнт вячэрняга факультэта, а маці пяцярых дзяцей, колішні маляр Софія Сцяпанаўна Ліпай.

Яна нарадзілася ў 1928 годзе і жыла ў вёсцы Астравок на Уздзеншчыне да таго часу, пакуль вёску не спалілі немцы. Спалілі, як звычайна, за сувязь з партызанамі, і ўсіх старых і малых, каго толькі захапілі, таксама спалілі жывых у гумне. Сярод спаленых была маці Софіі Сцяпанаўны.

У сорак пятым годзе Софія выйшла замуж. Хутка зноў засталася адна, з двума малымі на руках: Міколу прызвалі ў армію. Гэтыя тры гады яна ледзь зводзіла канцы з канцамі. Калі Мікола дэмабілізаваўся, пераехалі ў Мінск, і абодва, муж і жонка, пайшлі на аўтазавод. Мікола быў ліцейшчыкам, яна — стрыжаньшчыцай, потым маляром. Зараблялі добра, жылі дружна, на заводзе іх паважалі. Потым Мікола захварэў. Доўгі час урачы нічога не знаходзілі, а калі знайшлі, было позна: ні курорты, ні санаторыі не выратавалі мужа.

Як жыць, як працаваць на тым заводзе, дзе памёр самы блізкі чалавек? Ёй і тут памаглі, неяк суцешылі, а каб лягчэй было, перавялі на пульт. Крышку раней спецыяльнасцю апаратара авалодала дачка Ларыса. Так яны цяпер і працуюць, кіруюць цэхам, змяняючы адна адну.

Гэта, вядома, не тыповы прыклад. Звернем увагу на другое: чалавек, прайшоўшы праз такія суровыя выпрабаванні, не страціў сваёй годнасці, не замуціў чысціні сваёй душы. Вось што характэрнае ў гэтай біяграфіі і тыпова не для аднае Софіі Сцяпанаўны, а для ўсяго рабочага калектыву.

У новай мадэлі аўтамабіляў закладваюцца і смелыя вынаходніцкія ідэі, і самаадданая праца рабочых, і рызыка тых, хто іх выпрабоўвае.

Канстанцін Рыгоравіч Паўлянковіч, якому летась прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы, выпрабоўвае МАЗы ўжо шаснаццаць гадоў. Праз яго рукі прайшлі амаль усе мінскія мадэлі. Калі скласці кіламетраж усіх спідометраў, дык атрымаецца астранамічная лічба — адзін мільён. Дваццаць пяць разоў вакол зямлі!

Сёлета Канстанцін Рыгоравіч вярнуўся з Каўказа, дзе выпрабоўваліся машыны маркі МАЗ-500Т. Аўтамабілі гэтай маркі будуць выкарыстоўвацца ў краінах з трапічным кліматам. Усе дэталі трапічнага МАЗа маюць павышаную антыкаразійную ўстойлівасць.

У Крыме Паўлянковіч выпрабоўваў МАЗ — 500Г, горны варыянт нашага «зубра».

— У якой ступені небяспечная ваша работа, Канстанцін Рыгоравіч?

— Пасля таго, як два разы гарэў у танку, я не адчуваю асаблівай небяспекі за рулём новага МАЗа. Былі, праўда, непрыемныя моманты на Каўказе. Там грунтовыя воды падмываюць пад асфальтам ямы. Лёгкія аўтамабілі праходзяць над імі, а нашы «зубрыкі» часам правальваліся. Былі спачатку агрэхі ў канструкцыі: падшыпнікі пярэдняга маста не вытрымлівалі вялікай нагрузкі. Ну, а калі клініць падшыпнік на пярэднім коле, машына аказваецца ў кювеце. Мы, выпрабавальнікі, настаялі на тым, каб гэты падшыпнік быў узмоцнены.

МАЗ-500, і наогул усе машыны гэтай серыі, зусім не падобны на таго «зубронка», пра якога некалі спяваў Ворвулеў. МАЗ — 205 хадзіў з хуткасцю 52 кіламетры ў гадзіну. МАЗ-500 — 85, а то і ўсе 90. На шашы няма машыны, роўнай нашаму «зубру». На свайго ляснога сабрата наш новы аўтамабіль падобны нават формай, асабліва МАЗ-503 — самазвал. У прасторнай яго кабіне поўны камфорт. Мяккія зялёныя крэслы, прыгожая прыборная дошка, ёсць нават спальнае месца, каб у вялікай дарозе шафёр мог адпачыць. Кіраваць цяжкім грузавіком гэтак жа лёгка, як «Масквічом» ці «Волгай». У тэхнічных і эстэтычных адносінах мінскі грузавік адпавядае самым сучасным нормам. Вялікую ролю ў стварэнні «пяцісотага» адыграла бюро мастацкага канструявання, якое ўзначальвае Аляксандр Міхайлавіч Першын.

Мы размаўлялі з ім пра тое, як мастацкі густ уплывае на канструкцыю аўтамабіля. Аляксандр Міхайлавіч сказаў:

— Аўтамабіль наогул не можа існаваць без мастака. Інжынеры працуюць над зместам, мы — знаходзім форму. Між тым, тыя часы, калі кожная краіна, кожны



**Выпрабавальнікі ў дарозе. Злева — Герой Сацыялістычнай Працы Канстанцін Рыгоравіч Паўлянковіч.**



**Праблемы эстэтыкі грузавіка вырашаюцца ў мастацка-канструктарскім бюро.**

завод выбіваліся з сіл, каб надаць машыне арыгінальны выгляд, ужо прайшлі. Аўтамабіль у нашы дні страчвае нацыянальны характар. Ён імкнецца да самай рацыянальнай формы, а гэта — касмапалітычная тэндэнцыя. Скажу, што беларускія грузавікі ў сэнсе рацыяналізму задаюць тон. Я, напрыклад, лічу, што самы прыгожы грузавік — БЕЛАЗ-540.

А бюро працуе ўжо над мадэрнізацыяй кабіны МАЗ-500. Калі сядзеш за баранку драўлянай мадэлі, ствараецца ўражанне, быццам трапіў у шырокафарматны кінатэатр. Гэтую ілюзію стварае суцэльнае лабавое шкло. Панарамны агляд, дасканалы інтэр'ер не будуць стамляць шафёра ў дарозе.

Цікава пагаварыць і з тымі рабочымі, якія не ведалі вайны, не мерзлі ў лясных зямлянках, лёс якіх склаўся даволі гладка. Многія з гэтых хлопцаў і дзяўчат нават не прымалі ўдзелу ў вытворчасці МАЗ-205, які да нядаўняга часу яшчэ сыходзіў з галоўнага канвеера.

Міхась Бугаёў, электрык, і не думаў, што будзе працаваць на МАЗе. Ён служыў у войску, а ў дзень дэмабілізацыі да іх прыехаў работнік аддзела кадраў МАЗа:

— Хлопцы, хто хоча ў нас працаваць? — прапанаваў ён. — Набудзеце спецыяльнасць, дамо вам інтэрнат, у сталіцы жыць будзеце...

Многія з хлопцаў, што былі на гэтай сустрэчы, прыехалі на завод.

Хто ж цяпер Міхась Бугаёў?

Дэпутат Заводскага раённага Савета, камсорг цэха, кандыдат у члены партыі. Рыхтуецца да ўступных экзаменаў на энергафак Беларускага політэхнічнага інстытута.

Наогул, людзі на заводзе растуць, як на дражджах. Быў токар, у чатыры разы хутчэй за іншых апрацоўваў дэталі, а цяпер — начальнік аддзела кадраў завода. Гэта Дземідзенка Мікалай Якаўлевіч.

Пасля арміі прыйшоў на завод і Анатоль Догіль. Быў слесарам, вучыўся завочна ў палітэхнікуме, а цяпер адзін з лепшых майстроў у цэху нармаляў.

Сярод аўтазаводцаў шмат людзей знатных, чые імёны адзначаны Указамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Толькі 22 жніўня 1966 года за поспехі ў выкананні пяцігадовага плана 134 аўтазаводцы атрымалі ўрадавыя ўзнагароды.

Растуць людзі, шырыцца завод, дужэюць і прыгажэюць мінскія аўтамабілі.

МАЗ набірае хуткасць.

**Валянцін ЖДАНОВІЧ.**

● ● ●

# САМЫЯ ВЫСОКІЯ

**Кожны, хто ўпершыню заходзіць у майстэрню, дзе працуюць архітэктары, здзіўляецца, нават бянтэжыцца. Дарослыя людзі, як дзеці, гуляюць у пластмасавыя домікі. Прыстаўляюць адзін да аднаго, нарошчваюць паверхі, выстройваюць у шнурочак або, наадварот, раскідаюць па паверхні стала. Бураць усё, зноў кампануюць, каб знайсці перш-наперш гарманічнае спалучэнне аб'ёмаў — між сабой, з тым, што ўжо збудавана, з ландшафтам.**

**І вось, здаецца, ёсць рашэнне...**



**Доўгі час Мінск будаваўся аднастайна — пяціпавярховыя, падобныя адзін на адзін, жылыя дамы стваралі падобныя адзін на адзін кварталы, цэлыя раёны. Архітэктары і грамадскасць забілі трывогу, пачалі пошукі новых, сучасных рашэнняў. Над адным з іх у «Мінскпраекце» працавала група, узначаліць якую давялося мне.**

**Разам з інжынерамі Маркусам Манастырскім, Васілём Перадзерыем і Давідам Янко мы прапанавалі самыя высокія ў Мінску жылыя дамы — па 16 паверхаў. Яны завуцца — кропкавыя. На генеральны план яны праецыруюцца, як кропкі сярод іншых ансамбляў.**

**Для будаўніцтва гэтых дамоў, якое пачнецца ў новым годзе, адведзен правы бок Магілёўскай шашы — паміж будынкамі інстытута народнай гаспадаркі імя В. Куйбышава і перакрыжаваннем шашы з Даўгабродскай вуліцай (квартал № 11).**

**На кожным паверсе — па дзесяць кватэр: чатыры аднапакаёвыя, чатыры двухпакаёвыя і дзве трохпакаёвыя. Унутры — новая планіроўка: павялічаны ад ранейшых тыпавых праектаў памеры кухні і пярэдняга пакоя, а таксама палепшан санітарна-тэхнічны блок. Прахадных пакояў у кватэрах няма. Кожная кватэра мае шырокую лоджыю (крыты балкон).**

**Побач з лесвіцай спраектаваны па два ліфты — адзін пасажырскі, другі ж, каб падымаць грузы вагой да 500 кг. Памеры грузавога ліфта такія, што можна падымаць мэблю.**

**Фасады запраектаваныя ў простых, сучасных гарманічных формах, маюць прыгожае аздабленне па колеру. Усё прадугледжана, каб у нашых дамах не толькі добра жылося, але каб яны і выглядалі адпаведна патрабаванням часу.**

**Міхаіл БАРСУКОЎ,**
**галоўны архітэктар праекта.**

# ДЛЯ МАЛАДЫХ



**Мінск — горад маладосці. Кожны год у ім адкрываюцца новыя навучальныя ўстановы, дамы культуры, клубы, кінатэатры, кафэ... Пройдзе якіх два гады, і на вуліцы імя Янкі Купалы над Свіслаччу-ракой мы ўбачым увесь са шкла і бетону, дэкараваны мастакамі будынак кафэ «Маладзёжнае». Праект яго распрацавалі архітэктары і інжынеры «Мінскпраекта» О. Ткачук, Ф. Кантаровіч, Ф. Кацнельсон.**

◆ ◆ ◆

## «ТУТ ЗДЗЯЙСНЯЛАСЯ РЭВАЛЮЦЫЯ» —

**так будзе называцца**
**фотанарыс Валянціна ЖДАНОВІЧА**
**ў лістападаўскім нумары.**



Гэтыя заўзятыя барабаншчыцы — з Эстоніі.



# ПЕСНЯ з тысяч галасоў

Рэпартаж

Старажытны горад Тарту. Ціхі, чысты і ўтульны. Сонечнымі ліпеньскімі днямі сюды прыехалі студэнты з сямі брацкіх рэспублік на свята песні. Чаму ў Тарту?

Эстонія здаўна славіцца сваімі традыцыямі. Тут кажуць: «Лягчэй пералічыць рыбу ў Балтыйскім моры, чым усе нашы традыцыі і звычаі». Гэта, вядома, жарт. Але іменна з даўняй традыцыі нарадзіўся гэты вясёлы маладзёжны форум песні.

Ініцыятары яго — студэнты Тартускага ўніверсітэта.

Дзесяць гадоў таму назад нарадзілася новая традыцыя — дні харавых спеваў ператварыліся ў студэнцкае шматнацыянальнае свята песні. Сёлета ўжо трэці раз прымаюць удзел у ім беларускія студэнты.

*Ліпень.* Апошнія рэпетыцыі, гарачыя спрэчкі, зборы ў дарогу. І вось картэж аўтобусаў узяў курс на Тарту. Нашу рэспубліку прадстаўлялі калектывы самадзейнасці ўніверсітэта, медыцынскага інстытута і кансерваторыі. У вокнах замільгалі знаёмыя беларускія пейзажы, і — песня над імі. Настрой прыўзняты: дзесьці засталіся турботы сесіі, наперадзе вясёлае студэнцкае свята.

Ідуць літоўскія дзяўчаты.



Пскоў сустрэў нас даўніной і сучаснымі будынкамі. Пейзажы мяняюць свой воблік. Усё часцей з'яўляюцца блакітныя чашы азёр і квадраты востраканечных дахаў...

Тарту вітаў гасцей сонцам, кветкамі і музыкай. На галаўным аўтобусе беларускай дэлегацыі тэрмінова вывешваецца плакат «Тэра-тэра, Тарту!» — «Прывітанне, Тарту!»

У гэты ж дзень з'ехаліся дэлегацыі і з іншых рэспублік. Старажытная Ратушная плошча, святочна прыбраная транспарантамі і прывітальнымі плакатамі, абудзілася шумам матораў, гаворкамі на розных мовах, вясёлым, іскрыстым смехам. Тут эстонцы і ленінградцы, літоўцы і беларусы, ерэванцы і петразаводцы, масквічы і ўкраінцы. Галасы не сціхалі да позняга вечара. Наперадзе генеральныя рэпетыцыі, прэс-канферэнцыі, знаёмства з горадам. А знаёміцца ёсць з чым. Тарту, былы Юр'еў, заснаваны яшчэ Яраславам Мудрым. Тут захавалася шмат помнікаў тых часоў. Даўніною так і вее ад сцен старажытнага горада. З хваляваннем думаеш, што калісьці па гэтых ціхіх і вузкіх вулках гулялі студэнтамі Пірагоў, Бурдэнка, Бэр і многія іншыя вядомыя вучоныя, якія выйшлі са сцен Тартускага ўніверсітэта. Закончыўшы яго, яны па старой традыцыі ішлі да помніка заснавальніку і першаму рэктару ўніверсітэта Парроту, моўчкі кляліся берагчы вернасць выбранай справе і... разбівалі бутэльку шампанскага.

...Свята пачалося ўрачыстым шэсцем па вуліцах горада, запоўненых людзьмі. З тратуараў старых вузкіх вуліц і новых шырокіх праспектаў, з балконаў і вокан даносяцца насустрач святочным калонам прывітанні і воплескі. Каля будынка сельскагаспадарчай акадэміі кожная дэлегацыя прыпыняецца і выконвае сваю нацыянальную песню.

Далей шлях ляжаў праз увесь горад да пеўчага поля Цяхтвеpэ. Своеасаблiва праходзілі беларускія студэнты — яны, апрача песень, выконвалі яшчэ і нацыянальныя танцы. Бурныя апладысменты гледачоў гаварылі самі за сябе. Цяхтвеpэ сустрэла ўдзельнікаў кумачом, зелянінай і стракатым людскім дыванам, які спускаўся па схіле ў даліну, дзе высіцца вялікая сцэна. Дзесяткі тысяч гледачоў!..



Свята песні, свята дружбы і сонечнай усмешкі.



Кветкамі віталі гасцей тартускія студэнты.



**Гучыць беларуская песня. Дырыжыруе заслужаны артыст рэспублікі Аляксандр Іванавіч Білібін.**



Пад гукі дзяўчат-барабаншчыц калоны праходзілі перад трыбунамі і падымаліся на сцэну, якая ўмяшчае каля пяці тысяч чалавек. На звычайнай сялянскай фурманцы прывезлі шматпудовы камень-граніт. Гэта — сімвал ведаў, якія павінен «згрызці» кожны студэнт за пяць гадоў вучобы. Прагучаў гімн нашай Радзімы. Свята адкрыла старшыня аргкамітэта рэктар сельскагаспадарчай акадэміі Міна Аўгустаўна Клемент. Студэнтаў вітаў сакратар ЦК Кампартыі Эстоніі Леанід Ленцман, першы сакратар ЛКСМЭ Рэйн Полліман Юрымях, рэктар універсітэта Тэадор Клемент. На сцэну запрасілі ганаровага дырыжора свята, старэйшага артыста рэспублікі Густава Эрнесакса. Не паспеў ён ступіць некалькі крокаў, як дзесяткі маладых моцных рук падхапілі яго, і пад гучнае скандаванне трыбун «Эр-не-сакс! Эр-не-сакс!» любімы кампазітар узляцеў у паветра.

«Гаўдэамус ігітур» — было напісана на эмблеме свята. Гэтыя словы са старога студэнцкага гімна ў перакладзе азначаюць: «Будзем весяліцца». З гэтага і пачалося свята. Трыбуны падхапілі песню, і яна шырока і велічна плыве над далінай. Хор, паслухмяны кожнаму руху рук кампазітара, выканаў яшчэ некалькі песень.

Слова «цуд» даволі зацёрта ад празмернага ўжывання, але іменна гэтым словам можна перадаць уражанне ад незвычайнага пяцітысячнага зводнага хору рэспублік.

«Там каля млына» — гэтай песняй пачаўся беларускі рэпертуар. Гледачы цёпла віталі зводны хор рэспублікі. Гучалі песні «Сінічку вецер закалыхаў», «Там вдали за рекой» і многія іншыя. Дырыжор, заслужаны артыст БССР Аляксандр Іванавіч Білібін, сышоў са сцэны з лаўровым вянком на грудзях...

Першыя кроплі дажджу напомнілі аб Прыбалтыцы. Трыбуны пакрыліся парасонамі. Але быццам адчуўшы сваё бяссілле перад страснымі аматарамі харавых спеваў, дождж неўзабаве сціх. Да позняга вечара гучалі ў гэты дзень песні розных народаў у мястэчку Цяхтверэ.

Назаўтра свята перанеслася ў маленькі старажытны гарадок Эльву. Асабліва вялікі поспех выпаў у той дзень на долю беларускіх танцораў. Гледачам вельмі спадабаліся беларускія народныя танцы «Кола», «Лявоніха», «Лядкаўская кадрыль». Спакойных і стрыманых эстонцаў пакарылі імклівасць, бадзёрасць і вялікае майстэрства выканання гэтых танцаў студэнтамі Белдзяржуніверсітэта і медыцынскага інстытута. Як герою дня беларускаму танцавальнаму калектыву эстонскія студэнты паднеслі памятны сувенір. Пра беларускіх танцораў цёпла гаварыў Густаў Эрнесакс: «Мне спадабалася выступленне вашага хору, але асаблівае задавальненне я атрымаў ад вашай танцавальнай групы».

**Слухачы размясціліся не горш, чым у тэатры.**

«Вашы танцоры вельмі хітрыя,— з усмешкаю працягвала размову Міна Аўгустаўна Клемент,— яны заваявалі сімпатыі нашых гледачоў яшчэ ў час урачыстага шэсця. А цяпер пажынаюць плады». Вочы сівой жанчыны ласкава ўсміхаюцца, яна шчыра рада поспеху, які выпаў на долю яе новых сяброў.

Яшчэ не ўлегліся пачуцці пасля выступлення, яшчэ шчокі дзяўчат ружавелі ад хвалявання, а аўтобусы ўжо спяшаліся ў Тарту. Наперадзе заключны канцэрт.

Нечакана, на адным з паваротках шашы, злева паказаўся вялікі абеліск. Хтосьці ціха сказаў:

— Гэта тартускі Бухенвальд...

У полі мы назбіралі рамонак, каб пакласці іх ля пастамента. Так мы ўшанавалі памяць тых, хто загінуў у барацьбе з фашызмам.

...На заключным канцэрце гледачоў было асабліва многа. Здавалася, што ўвесь Тарту, як адзін жыхар, прыйшоў на гэтыя зялёныя пагоркі. Змрок паступова ахінае трыбуны. Са сцэны здавалася, што канцэрт ідзе без гледачоў. І толькі па жывым дыханні людзей ды па дружных апладысментах здагадваліся, што ўсе 80 тысяч пар уважлівых вачэй нястомна сочаць за ўсім, што адбываецца на гэтым асветленым пражэктарамі квадраце сцэны. Хоры выконвалі свае любімыя песні. На танцавальнай пляцоўцы перад сцэнай успыхнуў вялізны касцёр. Пачаліся танцы. Нацыянальныя касцюмы ў казачным святле кастра здаваліся яшчэ прыгажэйшымі.



**Для песні — і дождж не перашкода.**

Да мікрафона падышла Ніна Аўгустаўна Клемент. Ад усіх эстонскіх гледачоў яна падзякавала калектывам мастацкай самадзейнасці за іх песні і танцы і сказала, што свята прайшло паспяхова, што мэта гэтага своеасаблівага форуму поўнасцю дасягнута: маладое пакаленне яшчэ мацней здружылася, умацавала веру ў дабро і прыгажосць, мір і светлую будучыню, сваёй творчас-



**Вясёлы танец прывезлі з Мінска будучыя медыкі.**



Патрыярх песні, народны артыст СССР Густаў Эрнесакс.

Люда Грышчанка і Дзіна Скавыш прыехалі на свята ў складзе танцавальнага калектыву БДУ.



цю ўславіла юбілей 50-гадовай многанацыянальнай краіны.

Наступныя такія сустрэчы намечана правесці ў Літве і Беларусі.

Пакуль прадстаўнікі рэспублік дзякавалі за цёплы, сяброўскі прыём, на полі ўжо ўтварыліся калоны. Пачалося самае грандыёзнае і прыгожае відовішча — факельнае шэсце. Маленькая Ратушная плошча ператварылася ў мора агню...

Пачаўся мітынг за мір і дружбу, за веру ў добрае і цудоўнае. Пад звон старынных курантаў, пры святле тысяч факелаў студэнты сямі братніх рэспублік кляймілі ганьбаю амерыканскіх і ізраільскіх агрэсараў, заклікалі да барацьбы за мір ва ўсім свеце. Прыняты зварот да моладзі ўсяго свету. Апоўначы факельнае шэсце вярнулася ў Цяхтверэ. Яшчэ і яшчэ ўспыхвалі кастры. Вакол іх пачаліся вясёлыя танцы і карагоды. Навокал смех, жарты, весялосць. Дэлегаты абменьваюцца сувенірамі, запрашаюць адзін аднаго ў госці.

Ужо і неба пасвятлела, зніклі з небасхілу зоркі, а свята ўсё працягвалася. Студэнты, узяўшыся за рукі, з песнямі пакрочылі па ранішніх, ціхіх вуліцах горада...

Маладыя, шчаслівыя, радасныя ўсмешкі... Тут усё было без конкурсаў, без прызавых месцаў. Дэлегацыі павезлі з сабой дадому штосьці большае, чым граматы і дыпломы. «Цяпер у нас стольکі сяброў стала, што не хопіць і года аб'ехаць усіх»,—так сказалі студэнты Белдзяржуніверсітэта Тамара Лявонава і Васіль Літвінка на развітанне.

Дружба — галоўны здабытак свята.

**Анатоль КУДРАЎЦАЎ.**
Фота аўтара і **У. ХВАЙНІЦКАГА.**

# СУСТРЭЧА З ЧАСАМ

Гэтаму экрану пашанцавала: за свой век ён столькі бачыў, як ніякі другі, нават у першаразрадным кінатэатры.

Кожны дзень, ледзь толькі на Мінскай студыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў пачынаецца звычайная мітусня, ён працуе ўжо.

«Экран пакажа... Паглядзім на экране...» — гэтыя словы не пераўвялічваюць магічную сілу своеасаблівай пробы новых здымак і задум. Экран — першы суддзя: на белым палатне змястоўныя кадры стануць цікавымі і захапляючымі, а ад шэрых, невыразных — павее халадком.

Звычайна з ранку для прагляду прыносяць стос карабкоў. Тут і зафіксаваныя падзеі працоўнага дня ў Жодзіне, дзе нараджаюцца новыя медалісты міжнародных кірмашоў — магутныя БЕЛАЗы, і кадры з Салігорска — шахцёрскай беларускай сталіцы, і кі-



Міхась Бераў на заводскай пляцоўцы Мінскага трактарнага.

наразмова з вядомым асілкам — чэмпіёнам свету Аляксандрам Мядзведзем. Ёсць у гэтых карабках і асаблівыя здымкі. Пажаўцелыя ад часу этыкеткі з надпісам «Архіў» — таксама рэпартажы, толькі ўжо ўчарашняга дня, кавалкі з жыцця нашых бацькоў і старэйшых братоў, фрагменты гісторыі.

Сустрэча з мінулым часам. У невялікай праглядальнай зале, — а яна ў такія гадзіны заўсёды перапоўнена, — пануе цішыня і хваляванне. З экрана пазіраюць жывыя вочы герояў першых пяцігодак; нам усміхаюцца жанчыны, рукі якіх толькі што напісалі: «Мы — не рабы»; мы бачым вясёлыя твары першых піянераў. Не, мы ўжо не толькі бачым, мы адчуваем пафас часу, біццё сэрцаў энтузіястаў першых фабрык і заводаў.

Гасне экран, успыхвае святло, моўчкі сядзяць людзі — атмасфера мінулага завалодала ўсімі.

— А памятаеш... тады мы яшчэ спяшаліся, а рамізнік ніяк не хацеў ехаць праз новы мост, — загаварылі, успомнілі аператары, аўтары гэтых унікальных сёння здымак. Экран вярнуў і іх маладосць, і іх час, калі яны, юнакі-камсамольцы, нясмела пераступалі парог «Вялікага нямога» — як у той час называлі кіно — каб сваім запалам, талентам і ўменнем дапамагаць будаваць сацыялізм.

Гледачы сталічнага кінатэатра «Перамога» і не здагадваюцца, што насупраць у невялічкай камяніцы на другім паверсе, у звычайнай трохпакаёвай кватэры, больш як сорак гадоў таму назад нараджалася беларускае кінамастацтва.



Кадр даваеннай кінахронікі: лакамабільны завод — буйнейшае прадпрыемства рэспублікі (аператар Іосіф Вейняровіч).



Партызанскі налёт на чыгунку — гэтыя хвіліны мужнасці, рашучасці, адвагі засведчыў Іосіф Вейняровіч.



Легендарны бацька Мінай. Фільм пра яго здымаў аператар Яўген Сакалоў.

— Праяўлялі мы плёнкі ў ванным пакоі,—успамінае ветэран нашага кіно заслужаны дзеяч мастацтва Іосіф Навумавіч Вейняровіч.—Рэзалі знятую плёнку на дзесяціметровыя кавалкі і асцярожна праяўлялі ў пасудзіне, што вельмі нагадвала звычайны гаршчок. Потым у цемнаце на імгненне запальвалі маленькі ліхтарык. Трэба было вельмі хутка вырашыць: дастаткова ці—яшчэ праяўляць... Потым гэтак жа рукамі фіксавалі кавалкі плёнкі. Праз некалькі гадзін у суседнім пакоі, што быў і канцылярыяй і залай, на невялікай кінапрасоўцы з хваляваннем глядзелі «жывую фатаграфію».

Тэматыка першых здымак нашых апаратараў, яе ідэйная накіраванасць былі абумоўлены жыццём рэспублікі, яе справамі, праблемамі. Галоўнае месца займалі кароткія кінарэпартажы з новабудоўляў, справаздачы аб палітычных і грамадскіх падзеях, першыя перамены ў жыцці вёскі.

— Сёння, калі мы глядзім даўнія здымкі і сучасныя,—працягвае Іосіф Навумавіч,—дык вырысоўваецца жывая дыяграма росту, сапраўды сямімілёвых крокаў Кастрычніка. Успамінаюцца ў сувязі з гэтым і мае першыя работы ў беларускім дакументальным кіно. Мне, як пачынаючаму мастаку, даручылі зрабіць малюнкі для фільма пра першыя поспехі маладой Савецкай улады. Вырашалі мы гэтую творчую задачу даволі проста. Напрыклад, рост статку адлюстроўвалі ў трох кадрах. У першым была намалявана маленькая кароўка, у другім—значна большая, у трэцім—яшчэ большая. Паміж кадрамі ўклейвалі надпісы і лічбы. Не вельмі арыгінальна, але зразумела. Калі ўлічваць, што глядач толькі пачынаў вучыцца разумець мову кіно.

Уявім сабе пачуцці кінаапаратараў і рэжысёраў, калі ў той жа дзень 1 мая ці 7 лістапада вечарам у сталічных кінатэатрах са старымі і вельмі гучнымі назвамі «Эдэн» і «Мадэрн» дэманстраваліся перад гледачамі на экране кадры народнага шэсця і святочнага лікавання. І не вядома, хто больш хваляваўся: гледачы ад такой аператыўнасці ці стомленыя і перапэцканыя фарбай (бо асобныя кадрыкі і надпісы малявалі анілінам для больш эмацыянальнага ўздзеяння) кінахранікёры, якія чакалі канца сеанса, каб хутчэй перанесці плёнку ў другі кінатэатр, дзе таксама было аб'яўлена пра свежую хроніку.

З часам арганізацыя «Белдзяржкіно» пашырыла сваю сетку, адкрыліся новыя кінатэатры ў многіх гарадах рэспублікі, кіно ўладарна заваёўвала і сельскага гледача. А на экранах, што сталі своеасаблівымі універсітэтамі ведаў, з'яўляліся новыя фільмы, назвы якіх гаварылі пра час і запатрабаванні: «Маланка», «Папера», «Там, дзе льецца сталь», «Тэлефон», «Заваяваная зямля».

Ішлі гады, мяняўся воблік краіны, мяняліся і адрасы, куды ездзілі ў камандзіроўкі кінахранікёры.

Летняя ноч... Месяц углядаецца ў сонныя палі. Манатонна шуміць матор, машыну злёгку пакалыхвае. Стрэлка спідометра набліжаецца да лічбы «100». Стомленыя ў працяглай камандзіроўцы, але задаволеныя, што вязём цікавыя здымкі з Лукомльскай электрастанцыі, асілка энергетыкі Беларусі, мы ўжо ў думках былі дома.

Машыну адразу моцна пахіснула ўлева, пасля яе нехта нібы падкінуў угару. Не паспелі мы здагадацца, у чым справа, як наш вадзіцель супакоіў нас:

— Балон... Цяпер пакорпаемся...

Мы выйшлі на абочыну дарогі. Шафёр ужо ўвіхаўся ля запаскі, а мы аддаліся цалкам ва ўладу чароўнай ночы. Час ад часу побач праносіліся машыны. Гледзячы на шашу, што недзе гублялася ў моры агнёў нашай сталіцы (да Мінска было з дзесятак кіламетраў), нехта ўздыхнуў: «Эх, шляхі-дарогі, колькі іх пройдзена!..»

— А вы ведаеце, што вось гэтая,—уключыўся ў гутарку апаратар Уладзімір Паўлавіч Цяслюк,—для мяне асаблівая. Так сказаць, дарога ў жыццё...

Усе адразу зацікавіліся такім сімвалічным значэннем для Уладзіміра Паўлавіча аўтамагістралі Мінск—Масква.

— Гэта было,—ціха пачаў ён сваю размову,—у 1933 годзе. Тады магістралі яшчэ не існавала. Яна толькі будавалася. І было вырашана адлюстраваць на плёнцы такую грандыёзную будоўлю, паказаць яе гледачам. Здымачная група студыі «Белдзяржкіно» назірала за ходам работ, вяла летапіс магістралі. У гэтай групе быў і я, памочнікам апаратара. Час гарачы, а тут захварэў старэйшы таварыш—апаратар, і здымкі спыніліся. Хтосьці прапанаваў паслаць мяне. Падумалі і паслалі. Ну, што і казаць, хваляваўся... Але калі пагля́дзелі мае здымкі,—пахвалілі. Так я самастойна зняў першыя кадры...

— Пачыналі мы,—успамінае Уладзімір Паўлавіч, цяпер ужо заслужаны дзеяч мастацтва, старэйшы апаратар студыі,—з самага простага: вучыліся круціць ручку здымачнага апарата. Так, у той час у нас яшчэ не было тэхнікі з электраматорамі. І каб потым на экране кадрыкі не «скакалі», трэба было ўмець вельмі плаўна і ў адным рытме—прыблізна 24 кадры ў секунду—круціць ручку апарата. Ды і сам выезд апаратара на тэрміновую здымку выглядаў вельмі імпазантна: рамізнік крычаў на ўсю вуліцу: «Убок, убок! Вязу кіназдымшчыкаў!..»

Але такія карціны хутка адыходзілі ў нябыт. Краіна станавілася на рэйкі індустрыялізацыі. Тэхнічны прагрэс прыйшоў і ў лабараторыі і павільёны кінастудыі. Вядуцца інтэнсіўныя спробы прымусіць загаварыць «Вялікага нямога». Яшчэ ў жніўні 1929 года на нашай студыі гэтай справай заняліся супрацоўнікі спецыяльнай лабараторыі гуказапісу. Дарэчы прыгадаць, што ў Мінску адкрыўся чацвёрты па ліку ў краіне гукавы кінатэатр.

— У нас, як і ва ўсім кінематаграфічным свеце,—успамінае тыя часы апаратар Міхась Бераў,—хапала скептыкаў. Многія не разумелі, для чаго кіно гук, яны не бачылі ў ім новага раўнапраўнага кампанента кінамастацтва, яшчэ адной асаблівасці «мовы» экрана. Але час браў сваё, і на нашай студыі вырашана было стварыць гукавую кінапраграму. Нашы хваляванні раслі яшчэ і таму, што гук вырашылі запісваць па сістэме, прапанаванай работнікамі нашай студыі В. Ахотнікавым і А. Машковічам.

— У цесным павільёне панаваў настрой незвычайны, трывога змешвалася з нейкай радасцю,—працягвае Міхась Сямёнавіч:—а як там будзе?.. Ці не падвядзе тэхніка?.. Здымаліся кадры выступлення мастацкай самадзейнасці. Некалькі дзён таму назад гукаапаратары запісалі спеў хору. Цяпер гук далі праслухаць спевакам, яны павінны былі спяваць з такой жа самай артыкуляцыяй, а апарат са спецыяльным матoрам гэта ўсё павінен быў зазняць, прычым строга па 24 кадрыкі ў секунду з такой жа хуткасцю, як і запісваўся гук, каб потым на экране дасягнуць сінхроннасці. Трэба сказаць, што не так проста і лёгка ўвайшоў гук у наша кіно. Патрэбны быў пэўны час, вопыт, шматлікія эксперыменты, каб гук з «новага атракцыёна» стаў моцным выяўленчым сродкам кінамастацтва. У 1934 годзе пачаў выходзіць гукавы кіначасопіс. Першы нумар яго музыкальна афармляў І. Дунаеўскі, які, дарэчы, быў сталым супрацоўнікам студыі «Белдзяржкіно».

Даваенныя гады—як сведчаць кінахранікёры—былі часам натхнёнай працы, плённых пошукаў. Кіно з ілюзіёна кірмашоў ператварылася ў сур'ёзнага спадарожніка жыцця савецкіх людзей, яно стала мастацтвам, патрэбным і зразумелым народу. Героі нашых кінадакументаў таго часу—перадавікі заводаў і калгасных ніў. Жывой



**Кулямёт і апарат — побач. Аператар Уладзімір Цяслюк перад баявым вылетам.**

творнай тэмай кіно стала новае жыццё. І як апафеоз, уручэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы вышэйшай урадавай узнагароды—ордэна Леніна.

Шмат важнага, цікавага і непаўторнага здолелі адлюстраваць на кінаплёнцы нашы кінахранікёры. На жаль, у ліхалецці вайны многае загінула.

— Ясны летні ранак,—успамінае Уладзімір Паўлавіч Цяслюк.—Напярэдадні мы з апаратарам Міхасём Беравым пачалі здымаць рэпартаж з заняткаў па процілаветранай абароне. На нядзелю раніцой прызначаны заключныя здымкі вучэння. У гэты час Мінск яшчэ не вельмі рухлівы. Яно і зразумела—выхадны: людзі не спяшаюцца.

Загружана ўжо машына здымачнай апаратурай, на развітанне нам памахаў вартаўнік студыі, і мы паехалі. Ціхая і цяністая вуліца Карла Маркса. Ля Дома афіцэраў рознакаляровыя вялікія афішы нашых гасцей—артыстаў МХАТа. Нядаўна многія з нас былі на іх спектаклях, усхвалявана апладзіравалі вядомым майстрам сцэны. Савецкая—галоўная вуліца. Вось і Інстытут фізічнай культуры. На фоне маленькіх драўляных домікаў ён выглядае гігантам. І раптам нам дарогу загарадзіў міліцыянер. Шафёр захваляваўся:

«У чым справа, чаму далей ехаць не дазволена? У аб'езд мы можам не паспець».

І як бы ў адказ на наша недаўменне—у небе пачуліся выбухі. Спазніліся? Але байцы ўжо стралялі баявымі снарадамі—пачалася вайна. У акулярах кінакамер апаратараў былі ўжо іншыя кадры—кадры гэтай вайны.

— Немцы стварылі па ўсім фронце глыбокую лінію абароны,—успамінае Іосіф Навумавіч Вейняровіч.—Цяжка было прабрацца да іх у тыл, асабліва

кінаапаратару з апаратурай. Вырашылі скінуць мяне ў партызанскі раён на парашуце. Дагэтуль я ніколі не скакаў з парашутам, а між тым— трэба было зрабіць начны скачок, ды яшчэ ў лес...

...Мы ў паветры... Вось і лінія фронту. Яна добра бачна нават ноччу. Самалёт пачалі абстрэльваць. Маланкамі замільгалі трасіруючыя кулі. Непадалёк успыхнулі зенітныя снарады. Яшчэ некалькі мінут—і мы за фронтам, над акупіраванай фашыстамі тэрыторыяй. Чым далей ад фронту, тым часцей бачны кастры ў цёмных лясах.

— Гэта партызаны,—растлумачыў штурман.

Самалёт змяніў курс, пакружыўся над лесам.

— Мы над арыенцірамі. Падрыхтавацца!—пачулася каманда.

Я ледзь вылез з кабіны і сеў на грузавы мяшок. Халодны вецер, здавалася, скіне мяне. Перабівала дыханне. Моцна трымаюся за борт кабіны і чакаю, пакуль штурман штосьці шукае ў суцэльнай цемнаце. Калі пад намі праплыла вёска, ён штурхануў мяне рукою:

— Пайшоў!..

Спрабую нічога не думаць... Лячу галавою ўніз... Некалькі імгненняў куляюся, захлёбваюся паветрам... Мяне занесла ў лес. Парашут павіс на дрэве. Я стаяў па калена ў вадзе ў невялікай лясной рачулцы. У цёмным небе, чакаючы майго сігналу, кружыўся самалёт. Я прасігналіў яму электрычным ліхтарыкам. Лётчык скінуў мяшок з прадуктамі і запасам плёнкі, і гук самалёта прапаў...

Так 19 красавіка 1942 года беларускі кінааператар Вейняровіч пачаў летапіс партызанскай барацьбы. Бранскія лясы, Украіна, Віцебшчына—вось якія надпісы значацца на карабках з тымі неацэннымі кадрамі.

А ў Налібоцкай пушчы У. П. Цяслюк—яшчэ нядаўна таксама франтавы аператар—здымаў атакі партызан на паліцэйскія гнёзды і фашысцкія гарнізоны. Разам з партызанамі ён увайшоў у вызваленую Любчу, а адтуль ужо спяшаўся ў Мінск на партызанскі парад.

Праўда, тут паспеў пабываць ужо яго калега М. Бераў, які разам з перадавымі часцямі III-га Беларускага фронту ўвайшоў у сталіцу 3 ліпеня.

— Не раскажаш, што рабілася ў Мінску...—успамінае ён.—Людзі вышлі з сутарэнняў і зямлянак і са слязамі радасці сустракалі калоны нашых салдат. Цалавалі ўсіх у вайсковым, нават і мяне, кінааператара. Знайшліся знаёмыя, сябры па рабоце ў «Белдзяржкіно». Я зняў момант, калі скідвалі свастыку з Дома ўрада, зрывалі фашысцкі сцяг з будынка гасцініцы Дома афіцэраў...

Тое, што аператар убачыў і перажыў, захавалася на плёнцы, якая хоць з часам і старэе тэхнічна, але набывае новую вартасць—нагадвае мінулыя дні.

Кінакадр. Нейкае імгненне «бывае» ён на экране. А каб адзняць яго, парою трэба і некалькі дзён. Ён, адзіны кадр, часам скажа болей, чым цэлы пасрэдны фільм. Але як цяжка знайсці яго, адзняць так, каб ён адразу закрануў душу гледача...

Спідометр нястрымна накручваў кіламетры: ішлі дні звычайнай і напружанай камандзіроўкі аператара Рыгора Масальскага. Да фільма «Арліная крыніца»—усхваляванай і паэтычнай аповесці пра лёс народа—патрэбны былі кадры, якія ярка і поўна адлюстравалі б усё, што вайна прынесла на нашу зямлю.

І аператар знайшоў такія кадры, дакладней сказаць, адзін, толькі адзін кадр з незвычайнай эмацыянальнай сілай уздзеяння, кадр, які нельга глядзець без хвалявання.

...У вёсцы Карма Добрушскага раёна пад вечар, калі скончылася работа ў полі, Рыгор Масальскі зазняў жанчын, калі яны вярталіся дамоў. Яны прасілі аператара хутчэй скончыць здымку, бо вячэра не згатавана, дзеці не памыты, каровы не доеныя.

602 мужчыны з вёскі Карма пайшлі дарогамі вайны. Вярнулася толькі два...

Доўга, можа і не па правілах мантажу, доўга на экране трымаецца гэты кінакадр, але ён такі праўдзівы, так яскрава перадаў сутнасць вайны, што выклікае слёзы людзей, якія ў зале.

...Сядзяць жанчыны, стомленыя за доўгі працоўны дзень, а дыктар чытае прозвішчы іх мужоў, бацькоў, братоў. І падаюць назвы мясцін, дзе яны аддалі сваё жыццё, каб працягвалася і квітнела наша...

— Калі мы паставілі гэтыя кінакадры побач,—расказвае аператар С. Фрыд,—самі здзівіліся той сіле, якую набылі некалькі метраў плёнкі.

У 1945 годзе аператар пабываў у Кімбараўскім дзіцячым доме. Тут жылі сіраты, дзеці, што цудам выратаваліся з фашысцкага лагера смерці ў Азарычах, дзеці загінуўшых партызан, франтавікоў.

Нават цвёрдае салдацкае сэрца ўздрыгнула. Дзеці нагадвалі жывыя шкілеты, яны былі такія знясіленыя, што не маглі рухацца. Савецкі воін выратаваў ім жыццё і першы паклапаціўся аб іх лёсе, аддаючы ім свой палявы паёк.

І вось праз 20 гадоў яны зноў у сваім родным доме. Педагогі, урачы,





Аператарскія сцежкі прывялі Уладзіміра Пужэвіча ў Налібоцкую пушчу на сустрэчу былых партызан.

інжынеры, геолагі, людзі самых мірных прафесій, яны з'ехаліся сюды з розных канцоў краіны.

Разам з усімі савецкімі людзьмі працаўнікі беларускага кіно прайшлі праз суровыя выпрабаванні вайны.

І вось зноў мірныя дарогі паклікалі кінарэпарцёраў. Яны—заўсёды ў пошуках, заўсёды ў раз'ездах. У любой гасцініцы іх сустракаюць як добрых знаёмых, іх пазнаюць праваднікі чыгункі, сцюардэсы самалётаў. Бухгалтары падлічылі, што палавіна іх рабочага часу—камандзіроўкі. Яны ў паездках не толькі летам, калі хораша грэе сонейка і хораша ловіцца рыбка на Нарачы,—хаця бываюць і такія здымкі,—але і 31 снежня, калі людзі падымаюць чарку за Новы год, і 8 Сакавіка, калі жонкі вельмі б хацелі бачыць іх дома, і 1 Мая, і ўвосень, калі расквашаны дарогі і спрытны «газік» буксуе, і ўзімку, калі дарога знікае пад белым покрывам.

...Зубры ніяк не хацелі «пазіраваць», больш таго, яны адышлі ад вальера і пасвіліся за дрэвамі. Вярнуцца з Белавежскай пушчы без цікавых кадраў аператар Цяслюк не хацеў. Егеры некалькі разоў папярэджвалі, што небяспечна знаходзіцца ў вальеры, што зубр—не заўсёды ціхая жывёліна.

Але аператар зайшоў у вальер. Спачатку зубры быццам і не звярталі на яго ніякай увагі, а пасля ўсім статкам рушылі проста на чалавека з кінакамерай. Што рабіць? Бегчы да агароджы—далёка, і, як сцвярджаюць егеры, зубр тады ўсё роўна дагоніць... Лепш стаяць на месцы...

...Зубры падышлі зусім блізка, спыніліся. Адзін з іх, гадавалы Пуф, падышоў яшчэ бліжэй, выцягнуў шыю, уцягнуў ноздрамі паветра і... пайшоў за статкам...

Кадры атрымаліся цудоўныя. Ніхто нават на студыі не здагадаўся пра небяспеку, якая пагражала аператару ў час здымкі.

...Адразу вышыня здалася не страшнай, ды і разважаць не было часу. Аператар Міхась Бераў здымаў першамайскае шэсце з балкона чацвёртага паверха. Адсюль дэманстрацыя мінчан выглядала яшчэ больш унушальнай, людскі паток разліўся ва ўсю шырыню Ленінскага праспекта. Зняўшы некалькі кадраў, аператар заўважыў, што з суседняга балкона панарама яшчэ лепшая, ды толькі гаспадароў кватэры няма дома. Аператар перайшоў па карнізе на аблюбаваны балкон, зняў цікавыя кадры і, толькі вярнуўшыся назад, ацаніў усю сітуацыю: 20—30 сантыметраў выступу і ніякай іншай апоры на працягу чатырох метраў!

...Гэта былі апошнія метры да вяршыні, самыя цяжкія метры. Няміласэрна ўпіваўся ў плячо пасак рукзака, цяжэйшага, чым у астатніх альпі-

ністаў на добры дзесятак кілаграмаў. А што такое дзесяць кілаграмаў на вышыні 5 000 метраў!

Калі малады аператар М. Южык ехаў на Каўказ здымаць штурм Эльбруса першай групай беларускіх альпіністаў, дык думаў, што за месяц можна будзе і крыху адпачыць і загарэць пад паўднёвым сонцам. Аднак яго спадзяванні развеяліся, нібы туман. Яму сказалі: хочаце зазняць вяршыню Эльбруса—трэніруйцеся цэлы месяц, здайце экзамен, а потым ідзіце разам з усімі на штурм. Выбару не было, і кінаапаратар стаў альпіністам-аматарам. Аднак, калі ён апынуўся на «даху» Эльбруса, у яго перастаў працаваць кінаапарат. На вяршыні 25 градусаў марозу, а тэхнік забыўся перавесці механізм з летняй змазкі на зімовую. І тут усе альпіністы па чарзе бралі пад вопратку здымачны апарат, каб сагрэць яго, каб дапамагчы аператару адзняць апошні кадр.

Кожны дзень у невялікай праглядальнай зале студыі адбываецца незвычайнае падарожжа па Беларусі і знаёмства з яе людзьмі, з важнымі падзеямі—«пішацца» летапіс нашага часу. Хочацца, каб сучаснікі і нашчадкі ўбачылі сёлетні год—50-ты год Савецкай улады—праўдзівым і знамянальным.

Радкі пра кінарэпарцёраў хочацца закончыць расказам аб адной здымцы, на першы погляд можа і звыклай, але глыбока ўвабраўшай у сябе дух нашага часу, яго глыбокі змест.

У калгасе «Рассвет», што на Магілёўшчыне, падзея гэтая была ўжо даўно запланавана. Адбываецца яна штогод, і да яе тут прывыклі. На цэнтральнай вуліцы калгаса выстройваюцца ўсе аўтамабілі. Аўтаінспектары прыдзірліва правяраюць тэхнічны стан і знешні выгляд машын. А іх тут нямала: 56 легкавых аўтамашын у асабістым карыстанні, каля ста матацыклаў і некалькі дзесяткаў арцельных аўтамашын. Жадаючых папоўніць рады аўтааматараў значна больш, чым зараз тут ёсць машын.

Некалі кірмаш, дзе прадаваліся коні, быў вялікай падзеяй для цэлай ваколіцы. І вось сяляне беларускай вёскі 1967 года прапануюць гандлёвым установам наладзіць у іх сяле кірмаш па продажу аўтамабіляў, матацыклаў. Якія велізарныя змены! Які высокі дабрабыт!

Гэтыя здымкі, зробленыя аператарам Ю. Іванцовым, былі ўключаны ў чарговы выпуск часопіса «Савецкая Беларусь». Дарэчы, каменціраваць іх дыктару не давялося. Суправаджаліся кадры гутаркай К. П. Арлоўскага, Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы—старшыні слаўтай сельскагаспадарчай арцелі. Кірыл Пракопавіч простымі словамі гаварыў пра тое, што было на гэтай зямлі ў цяжкім 1944 годзе, з чаго пачыналі калгаснікі.

...Кінакадры нагадваюць цудоўную дыяграму нашага росту, паказваюць шлях народа, які за гады Савецкай улады здзейсніў самы вялікі цуд—стварыў краіну працы, шчасця, творчасці.

Рычард ЯСІНСКІ.

● ● ●

## На каляровых укладках у наступным нумары— рэпрадукцыі работ з РЭСПУБЛІКАНСКАЙ ЮБІЛЕЙНАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ.



# З ПАКАЛЕННЯ ПЕРШЫХ

**15 кастрычніка споўнілася 60 гадоў Раману Карпавічу Сабаленку, чыё імя вядома беларускаму чытачу вось ужо сорак гадоў.**

**Раман Сабаленка належыць да пакалення пісьменнікаў, чые жыццёвыя ветразі надзімалі вольныя вятры рэвалюцыі, хто быў першым піянерам, першым камсамольцам, першым памочнікам і апораю тых, хто на руінах старога свету закладваў падваліны новага жыцця.**

**Праца з малых год на зямлі, на гаспадарцы, школа сялянскай моладзі, Гомельскі педтэхнікум, вячэрняе аддзяленне Гомельскага педінстытута, а пасля праца ў рэдакцыях газет «Палеская праўда» і «Звязда» — вось тыя ўніверсітэты, якія прайшоў вясковы хлопец з Брагіншчыны і якія абудзілі ў ім пісьменніка.**

**Пісаць пачаў ён рана. І спачатку — вершы. У 1927 годзе яго імя паяўляецца на старонках «Маладняка», а потым і на старонках «Полымя рэвалюцыі». Вершы паэта сабраны ў двух зборніках: «З родных крыніц», «Мая эстафета».**

**У пяцідзесятыя гады Раман Сабаленка звяртаецца да прозы. У 1957 годзе выходзіць у свет яго зборнік апавяданняў «Жменя зярнят», а ў 1958 — кніга «Юнацтва ў дарозе», у якую ўвайшла і аднайменная аповесць.**

**Аповесць «Юнацтва ў дарозе» — твор знамянальны не толькі для самога пісьменніка, але і для ўсёй беларускай літаратуры. Звярнуўшыся да свайго жыццёвага вопыту, да ўбачанага, перажытага і перадуманага, пісьменнік здолеў паказаць духоўны вопыт свайго пакалення, якому выпала нялёгкае шчасце на ніве, разварушанай рэвалюцыяй, тарыць шляхі новаму жыццю.**

**Паэт і празаік, гумарыст і публіцыст, Раман Сабаленка валодае яшчэ адным шчаслівым талентам — талентам чалавечнасці. Таварышы, якія ездзілі з ім некалі ў шматлікія камандзіроўкі, і сёння ўспамінаюць, як умее Раман Сабаленка падысці да чалавека, загаварыць з ім, як умее сваёй шчырасцю адамкнуць чужое сэрца. Можа таму ён з такой ахвотаю працаваў у жанры мастацкага нарыса і меў у ім бясспрэчны поспех.**

**Шэсць дзесяткаў гадоў — вяршыня высокая. Няхай Вам, Раман Карпавіч, з яе далёка і ясна бачыцца і няхай Вам плённа пішацца пра адкрытыя з гэтай вышыні новыя жыццёвыя мацерыкі.**

Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# ЗАПАЛ ПАЭТЫЧНАГА СЛОВА

— Не, не сказаць, каб асабліва радавала сённяшняя паэзія — вельмі сцішанай і задумёнай яна стала.

— А хіба няма пра што думаць?

— Слушна, але ці не здаецца вам, што паэтычнае «ўдумванне» частаператвараецца ва ўяўную глыбакадумнасць, гэтакую дробную філасафічнасць, якая заклікана маскіраваць недахоп вопыту? Замест думкі — апісанне думкі, замест пачуцця — апісанне...

— А, разумею... Вы прывыклі, відаць, да бадзёрай патэтыкі. Дык магу нагадаць вам «маладнякоўцаў»...

Не ведаю, чым скончылася гэтая спрэчка паміж двума аматарамі паэзіі, і наогул, ці магла яна скончыцца, бо, урэшце, густ ёсць густ, і кожны густ мае права на існаванне. Мае такое ж права і кожны паэтычны жанр, у тым ліку і тая паэзія, якую мы называем публіцыстычнай і да якой ставімся нярэдка з недаверам, забываючы на тое, што ад паэзіі «нам патрэбны ісціны простыя, як хлеб, і праўдзівыя, як плач дзіцяці» (П. Панчанка) і што такія ў вышэйшай ступені каштоўныя ісціны можа адкрыць нам публіцыстычная лірыка.

«Жанравая разнастайнасць, — гаворыць І. Бэхер, — ёсць вынік шырокага размаху паэтычных пошукаў. Новы герой, які думае і адчувае, паступова пачынае звяртацца да палітычных і маральных праблем сучаснасці — і вось адраджаецца і абагульняецца жанр філасофскай, інтэлектуальнай грамадзянскай лірыкі. Новы лірычны герой можа быць іранічны, насмешлівы — і вось вам умова для адраджэння гумару ў паэзіі. Ён можа быць рэзкі і бязлітасны — і вось вам уздым сатыры. Ён вольны ў выражэнні сваіх любоўных пачуццяў — і вось вам росквіт любоўнай лірыкі. Ён не хавае свайго захаплення прыгажосцю прыроды — вы бачыце ажыўленне пейзажнай лірыкі і г. д. Для яго няма забаронных сфер».

Сёння літаратурная крытыка зусім справядліва адзначае развіццё філасофска-медытатыўнай тэндэнцыі ў сучаснай паэзіі. Ад дэкларатыўных заклікаў, абяцанняў і прызнанняў тыпу «перад дарогаю трошкі падумаць хачу» (К. Кірэенка) паэзія пераходзіць да паўных эстэтычных здзяйсненняў, вынікам якіх з'явіліся шырока вядомыя і агульнапрызнаныя па сваёй мастацкай каштоўнасці паэтычныя кнігі А. Куляшова. М. Танка, М. Аўрамчыка, П. Панчанкі, А. Пысіна, А. Вярцінскага і іншых паэтаў, дзе востра і бескампрамісна пастаўлены «вечныя» і «нявечныя» праблемы чалавечага існавання, якія так хвалююць сучасніка.

Такое — змястоўнае — наватарства непасрэдна звязана, на маю думку, з актывізацыяй ідэйна-творчых пазіцый мастакоў, якія напружана шукаюць новых шляхоў мастацкага пазнання свету. Навізна жыцця і навізна мастацтва, навізна ідэі і навізна выражэння — як быццам бы ўсё ясна. Але як часта мы механічна аб'ядноўваем адно з другім, прымітыўна склейваючы іх сродкамі наіўнай эстэтыкі: маўляў, новы матэрыял абавязкова знаходзіць новыя сродкі выражэння і... кропка, забываючы пры гэтым «маленькую рэч» — асобу самога мастака з яго паэтычнай свядомасцю і ўсім тым, што фармуе мастака ў істоту грамадскую, у індывідуальнасць агульназначную. Мастацкая свядомасць творчай індывідуальнасці заўсёды рухомая, яна можа ісці ўпоравень з часам і адставаць ад яго, можа ісці наперадзе жыцця і паўтараць яго старыя, даўно засвоеныя формы. Наватары і традыцыяналісты, эксперыментатары, эпігоны і архаісты — усе яны жывуць у адзін і той жа час і часта карыстаюцца аднымі і тымі ж мастацкімі прыёмамі і сродкамі, але ў адных «прыём» стаў арганічнаю часткаю і якасцю іх паэтычнай свядомасці, у другіх застаўся механічным, прыўнесеным звонку, чужым. Іншымі словамі, не спалучыўся з асобаю мастака.

Ёсць, мне здаецца, нешта слушнае ў гаворцы таго «незадаволенага» прыхільніка пафаснасці і публіцыстычнасці, які, спрачаючыся з «філосафам», магчыма залішне катэгарычна паставіўся да недахопаў нашай паэзіі. Не думаю, каб ён не ведаў пра бліскучую філасофскую кнігу А. Куляшова і яго новыя вершы, пра лірычную пластыку М. Танка, пра навукова-інтэлектуальныя пошукі ў паэзіі А. Русецкага і дапытлівую праблемнасць А. Вярцінскага — яго філасофскія «Тры цішыні», пра гукапісныя эфекты некаторых паэтычных эксперыментаў (дабавім, вельмі цікавых і павучальных) Р. Барадуліна, пра лірычную споведзь перад судом памяці А. Пысіна і шмат што іншае, што належыць да безумоўных дасягненняў нашага паэтычнага «сёння». Але тым не менш, ці мала халодных («філасофскіх») вершаў з'яўляецца побач з гэтымі дасягненнямі, вершаў, якія — хоць яны і няблага скроены — нельга аднесці нават у маштабе творчай біяграфіі аўтара да «накладных выдаткаў» асабістых пошукаў. Возьмем, для прыкладу — не з горшых — такі верш аднаго з бясспрэчна здольных сучасных паэтаў:

Я зайздрошчу табе,
бяссоннае сонца:
Колькі светаў ты бачыш,
колькі людзей.
Калі б нават жыццё ўсё —
адна бяссонніца,
За жыццё я не ўбачу,
што бачыш за дзень.
Я зайздрошчу табе,
бяссоннае сонца:
Я прашу: не прыходзь да мяне,
бяссонніца.
Пасля ночы
хай прыйдзе звычайны дзень,
Я патрэбен яму,
як другія патрэбны, —
Каб планета наша
ўзяла здаля.
Справа рук — для яе лепшы гімн хвалебны,
Бо другое бяссоннае сонца —
Зямля!

Ніхто, напэўна, не ўсумніцца ў правільнасці таго, што чалавеку, гаворачы метафарычна, патрэбен дзень, а дню — чалавек. І метафара неблагая, і іншыя паэтычныя знаходкі ёсць. Здавалася б, усё на месцы. Аднак ці стала гэтая «правільная» ідэя фактам паэтычнай свядомасці Р. Тармолы, аўтара верша? Думаю, што не. Паэт, урэшце, застаўся раўнадушны і да бяссоннага сонца і да шматтурботнага звычайнага дня, якія так і не сталі прадметам яго паэтычнага асэнсавання. Што яго найбольш «усхвалявала», дык гэта карэнная рыфма «бяссоннае сонца — бяссонніца», вакол якой тэхнічна «накруціўся» верш, але злучыць жыццё з паэзіяй яму не ўдалося. Думка ў вершы пазбаўлена якіх-небудзь прыкмет часу, ёй нестае перажытасці, страснасці, гарачай абароны той ісціны, з якой паэт намерыўся выступіць: ісціна — сама па сабе, верш — сам па сабе.

Філасафічнасць і медытатыўнасць не заўсёды дапамагаюць узмацнен-

ню праблемнасці. Праблемы не выдумляюцца з галавы ў вольны час, яны звязаны перш за ўсё з жыццёвым вопытам паэта, з узроўнем яго асабістай свядомасці, са ступенню яго грамадскасці. «Для стварэння праблемнага твора,— пісаў яшчэ ў 1940 годзе крытык А. Дэрман у адным з сваіх артыкулаў («Праблемнасць як фактар мастацкай творчасці»),— неабходна, каб пісьменнік адчуў тую ці іншую праблему іменна як асабістую, каб ён зазнаў з вялікай сілай націск унутранай патрэбы высветліць сабе гэту праблему». І далей: «...выкрышталізаваўшыся ў ім у якасці чагосьці асабіста неабходнага, яна (праблема.— **У. Г.**) вяртаецца ў грамадскае асяроддзе ў якасці аб'ектыўнай каштоўнасці».

Узняць праблему — тое самае, што падняць трывогу, звярнуўшы тым самым увагу грамадскасці на нешта вельмі важнае і неадкладнае. Я з цікавасцю сачу за творчым ростам, не заўсёды роўным і прамалінейным, Ніла Гілевіча. Быў час, калі крытыка справядліва адзначала рыгарыстычны антыэстэтызм у некаторых вершах, скажам, у «Размове з калегам аб рыфмах і хлебе надзённым», у «Здарэнні на выстаўцы шкла», калі паэт, адмаўляючы пошукі, здаралася, перабіраў меру («Толькі ...знаеш: сама па сабе гэта рыфма — каму яна трэба? Ёю ў сэрцах людскіх не заменіш надзённага хлеба»). Але нават у гэтых палемічных крайнасцях паэта ёсць штосьці рацыянальнае. І справа не толькі ў тым, што Ніл Гілевіч палемізуе з тымі, хто папаў у палон да рыфмы або выбраў сабе за ідал каралеву Метафару. У другім выпадку ён як бы супярэчыць самому сабе:

Не адбірайце музыкі ў паэта,
Заканадаўцы паэтычных мод!
Яна з ім дружыць ад стварэння свету,
Ва ўсякім разе — сотні тысяч год.

Зайздросная рыса таленту Ніла Гілевіча — і менавіта ў гэтым сэнс яго эстэтычных патрабаванняў — вострая праблемнасць яго лепшых твораў, якая якраз і выяўляе ўнутраную патрэбу паэта высветліць для сябе, а значыць і для іншых, пэўныя грамадскія пытанні. Ва ўсіх на памяці верш «Пра дзядоў і зямлю» (зборнік «Бальшак»). Здарылася лірычнаму герою Н. Гілевіча «ў той час — ні лепшы, ні горшы, калі ўдарнаю сілай лічыліся ў вёсцы дзяды», пабываць «у лясной старане», дзе адвеку не мераюць на грошы «ні закуску, ні чарку, ні шклянку халоднай вады», зайсці ў хату да звычайнага працоўнага чалавека. Паэт малюе прывабны яго партрэт:

...Дзеркачом абабіўшы валёнкі
(На працы быў дзесьці),
Ён прысеў каля грубкі.
Ільдзінкі плывуць з барады...

Адбываецца цікавая размова:

— Цяжкавата зімою?
— Памог бы!..
— А дзе вашы дзеці?
— Дзеці? Там, дзе і ты, брат...
Па шчасце пайшлі ў гарады.

— Ну, чаго так глядзіш?—
Пераняў мой збянтэжаны позірк.
— Я адсюль не сыду ўжо,
Калі не сышоў малады.
Ад зямлі уцякаем,
А хлеб сюды з горада возім...
Чым далей ад зямлі мы збяжым,
Тым бліжэй да бяды...

На прыкладзе гэтага верша выразна бачны рост маральнай адказнасці сучаснага чалавека за жыццё, за чалавечае шчасце, якое нельга аддзяліць ад зямлі, ад народа, які працуе на ёй. Паэзія ўсё больш глыбока ўсведамляе гэта і таму так смела паглыбляецца ў грамадскія праблемы, даследуе нашу рэчаіснасць з пазіцый сацыялістычнага ідэалу, шукае адказаў на самыя вострыя пытанні сучаснасці. Ідэя ў вершы Гілевіча палітычная, бо



яна — вывад з рэалістычнага адлюстравання жыцця, вынік той па-гаспадарску зацікаўленай пазіцыі ў адносінах да жыцця, якую займае паэт.

Праблемнасць у паэзіі — родная сястра публіцыстычнасці. Я ні на ёту не хачу прыніжаць філасофскага жанру ў паэзіі. Наадварот, цяпер ёсць усе магчымасці для яго росквіту, пра якія гаварыў І. Бэхер. Па развіццю гэтага жанру можна меркаваць пра ўзровень эстэтычнай культуры паэзіі, пра ўменне паэта самастойна аналізаваць жыццёвы матэрыял, пра сталасць светапогляду. Разам з тым, пра ўсё гэта можна меркаваць па ступені развіцця публіцыстычнай лірыкі, дзе талент грамадзянскасці выяўляецца яшчэ больш непасрэдна, дзе асоба паэта (або яе адсутнасць) бачны здалёк і адразу, дзе лірычны характар праяўляецца як істота грамадская ва ўсіх сваіх душэўных жэстах і валодае магутнай сілай уздзеяння.

Мне запомніўся чамусьці даўні верш К. Кірэенкі «Жыву», хоць гэта і не самы лепшы твор аўтара:

Што ты здзіўляешся,
Што я часам гневам грымлю,
Што я часта і сам
Агонь на сябе заву?
Што ты здзіўляешся,
Што я слабым быць не цярплю,—
Я ж жывы, братка,
Я жыву...

Нягледзячы на шматслоўе (у вершы пяць такіх, падобных адна на другую строф), на элементы рытарычнасці, якія занадта фарсіравана, «у лоб» перадаюць або, правільней сказаць, называюць перажыванні аўтара, словам, нягледзячы на недахопы «формы», верш хвалюе. У ім б'ецца сэрца нашага сучасніка — неспакойнага, няўрымслівага чалавека. Тут ёсць і самааддана́сць, і грамадскія турботы, і цяжкія пошукі сэнсу жыцця — якраз тое, што перш за ўсё неабходна для шчырай публіцыстыкі.

Некалі адзін з удзельнікаў паэтычнай дыскусіі на старонках «ЛІМа» катэгарычна заявіў: «Публіцыстыка — гэта, калі гаварыць коратка,— палітычная лірыка, у якой аўтар выступае па важнейшых грамадзянскіх падзеях». Прама скажам: збедненае і паверхоўнае разуменне публіцыстычнай паэзіі. Яно вядзе да газетнага «адзначання» падзей і дат, бо не ўлічвае таго, што сёння трэба народу, партыі, дзяржаве перш за ўсё, што сёння самае галоўнае, не ўлічвае высокаразвітае ў паэта пачуццё асобы.

Адчуваю, мой уяўны апанент незадаволены: шукаць самае галоўнае? Як гэта разумець? Не, лепш не ўскладняйце, таварыш. Тут усё проста. Грамчэй заклікай, шумі! Ну, хоць бы так:

Праўду-матку ўсім рэжу я ў вочы адкрыта,
Як сумленне заўсёды падказвае мне,
Сябра сябрам заву,
А бандыта — бандытам.
І пра тое кажу, што душу ўскалыхне.

Не варта тлумачыць, што такія агульныя дэкларацыі, дзе поўнасцю адсутнічае лірычны характар і засушаны пачуцці, нікога, вядома, не праймуць. У вершы адсутнічае характар, а ў паэта — пачуццё асобы. І ніякім барабанным боем тут не ўратавацца. Пафас азначае, сцвярджаў Гегель, супадзенне ідэі з асобаю, высокай мэты з кроўнай патрэбаю, думкі з характарам, страснасці з інтэлектам. У цытаваным намі вершы адна з гэтых палавін адсутнічае, і пафас губляе рэальную апору, становіцца на хадулі.

Зрэшты вышэй прыведзенаму выказванню справядліва, хоць, відаць, залішне катэгарычна, пярэчыў другі ўдзельнік дыскусіі І. Агееў: «Жанру публіцыстыкі няма ў паэзіі, тэорыя гэтага жанру — гэта тэорыя рыторыкі». І ён мае рацыю ў тым сэнсе, што актуальнасць тэмы не можа

падмяніць сабою грамадзянскую актыўнасць паэта, самую яго асобу пры багатай яе духоўнай змястоўнасці, — адным словам, усяго таго, без чаго публіцыстычная лірыка ператворыцца ў халодную рыторыку. Да гэтага трэба дадаць і аптымістычны, жыццесцвярджальны погляд на свет — фактар у выключнай ступені станоўчы і дабратворны для развіцця паэзіі.

Публіцыстычнасць, такім чынам, азначае пэўны тып эстэтычных адносін паэта да рэчаіснасці, які характарызуецца глыбокім жыццесцвярджальным пафасам, высокай узрушанасцю паэтычнага перажывання, партыйнай вынашанасцю думак і пачуццяў, якія выказвае паэт.

Магутным талентам публіцыстычнасці, унаследаваным па традыцыі ад Я. Купалы з яго высакародным «Чаго вам хочацца, панове...», ад Я. Коласа з яго «Ворагам» і ад У. Маякоўскага, валодае П. Панчанка. паэт уражлівы, страсны, з незвычайна чуйным «болевым парогам». Панчанка — сумленне нашай паэзіі, увасабленне яе грамадзянскасці і чалавечнасці. Аб гэтым пераканаўча сведчыць яго апошняя кніга «Пры святле маланак»:

Праўда веку!
Зрабі нас дужымі,
Рабства знішчыць дапамажы:
Рабства жонкі і рабства мужа,
Рабства дачаў і аўтамашын;
Рабства чаркі, паперкі, блату,
Біркі званняў і крэслы чынуш.
Мы плацілі вялікую плату
За шчаслівы наш дзень.
Дык чаму ж
З-за каня, з-за палена
без гневу
Удава б'е паклоны царку?
Сярод белага дня нейкі невук
Старажытную нішчыць царкву?
Век наш любіць дакладнасць і мужнасць,
Будзь праўдзівы, бо ты камуніст.
Вось хапуга. Вось хам. Вось двурушнік.
Канцылярскі арол. Кар'ерыст.

Мяне мучыць сумленне і памяць
Аб загінуўшых.
Што ж, рызыкнём
Біць хлусню без чарговых кампаній
У другіх і ў сабе, і з агнём.

Гэта і ёсць баявая публіцыстыка, так сказаць, «філасофія прамога называння», заснаваная на сумленным пазнанні і вывучэнні рэчаіснасці, жыцця, якое адно можа надзяліць паэта душэўнай актыўнасцю, любоўю, палымянасцю. Зразумела, не так проста паказаць пальцам: вось двурушнік, вось хам і г. д. Сёння ўсё гэта куды складаней, бо выступае, каб прыстасавацца да новай рэчаіснасці, у новых, замаскіраваных формах, і адным «называннем» тут не абысціся. Паэт і сам гаворыць: «Часта га́ды і тарбахваты карыстаюцца дабратой». Але важна сама сумленна-бескампрамісная пазіцыя паэта, які смела і прама ставіць маральна-этычныя праблемы сучаснага жыцця і тым самым прымушае чытача задумацца. Канкрэтнасць лірычнага пачуцця — абавязковая адзнака паэтычнага мыслення П. Панчанкі, адзнака партыйнай спеласці яго светапогляду і актыўнай пазіцыі ў жыцці. Паэт не баіцца спрачацца з агульнапрынятымі ісцінамі і нават з самім сабой, учарашнім. Яго лірыка па-сапраўднаму канфліктная, паэтычная думка — рухомая, паэт валодае здзіўляючым уменнем аналізаваць і сінтэзаваць з'явы жыцця. І калі хто думае, што ў паэзіі П. Панчанкі ўсё ясна і проста, то ён глыбока памыляецца. Публіцыстычнасць паэта складаная, багатая на фарбы і адценні, але заўсёды ваяўнічая. Тут яму памагае сатыра, гумар, жарт, іронія. Паэт умее шчыра смяяцца, умее смуткаваць, трывожыцца за тых, «каму нялёгка ў жыцці». Ёсць у Панчанкі матывы драматычнага і нават трагедыйнага гучання, і трагедыя ёсць трагедыя — тут нічога не паробіш, але ў паэта яна сцвярджае пераможнасць жыцця, перамогу праўды над несправядлівасцю, любові над нянавісцю, дабраты над злом, смеласці над страхам, ініцыятывы над пасіўнасцю. Сцвярджанне жыцця ў імя жыцця — душэўна багатага, паўнакроўнага, словам, чалавечага жыцця — галоўны пафас лірычных перажыванняў паэта. І вельмі натуральна, што гэты пафас увасабляецца ў публіцыстычную форму размоўных інтанацый, свабодных рытмаў, у якіх так шырока і вольна дыхае думка паэта:

Мой белы свет,
Мой свет цяжкі ды мілы,
Я ведаю, як трэба шмат рабіць,
Каб нам бліжэй было, чым да магілы,
Да шчасця і да сонечных арбіт.
Таму крывінкай кожнай ненавіджу
Я раўнадушных,
Чэрствых,
Прагных,
Хіжых,
Якія, каб паболей адхапіць,
Гатовы праўду Леніна забіць.
Гаворыце, што выйшлі вы з народа?
Куды? Чаму?
Якой цяпер пароды?
Я са свайго народа не выходзіў
І жыць да скону буду ў народзе.
Мне сорамна народ агітаваць,
Каб людзі больш і больш штодня рабілі,
Мясілі гліну, валуны драбілі:
Ён ведае і сам, як працаваць...

Сёння П. Панчанка на правым флангзе актыўнай праблемна-публіцыстычнай лірыкі, якая ніколі не падмяняе пафас рыторыкай. Ён узначальвае цэлую плеяду паэтаў, якія, як і ён, імкнуцца да канкрэтна-публіцыстычнага засваення жыцця. Гэта Р. Барадулін і А. Вярцінскі, А. Наўроцкі і Г. Бураўкін, В. Зуёнак, Н. Гілевіч і іншыя. Амаль усе яны належаць да пакалення наследнікаў П. Панчанкі, і гэта да іх звяртаўся паэт, гаворачы: «Двум пакаленням за працай не цесна: мы з аднаго ваяўнічага цеста» («Размова з наследнікамі»). Публіцыстычнасць паэтычнага таленту ў кожнага з іх выяўляецца па-свойму, але, як правіла, заўсёды сведчыць пра большую або меншую яснасць і сталасць ідэйнага светапогляду, пра грамадзянскасць творчай пазіцыі, пра маральную чуйнасць і смеласць паэта.

Нехта, магчыма, не згодзіцца, што я ў «разрад публіцыстаў» (у маім разуменні гэта вельмі ганаровае слова) залічыў А. Наўроцкага з яго відавочнай схільнасцю да філасафічнай разважлівасці, да мастацкага эксперыменту. «Чыстых» лірыкаў-публіцыстаў, напэўна, няма, а мне і сёння яшчэ помніцца ўражанне, якое зрабіла на мяне некалькі год таму назад яго паэма «Стрэл у твар смерці»:

Крытыка,
Бяры на прыцэл
Таго, хто азыз!
Хай грыміць
У твар смерці стрэл —
Яшчэ больш умацаваны
Сацыялізм!

Вобразная асацыятыўнасць, нярэдка вельмі нечаканая, узмацняе ў А. Наўроцкага публіцыстычны запал слова, якое ад гэтага не губляе сваёй філасафічнасці, не траціць эстэтычнай змястоўнасці. Разам з тым, паэт не ігнаруе быт, а пераадольвае яго. «Я — корань... жыллёвай праблемы», — гаворыць ён у адным з вершаў. Быт у вершах паэта паўстае як грамадскае быццё, як нешта надзвычай важнае, рашаючае для таго, каб «не моўкнуў стрэл у твар смерці», а грамадскае быццё выступае ў святле вельмі асабістых, падчас па-добраму дзіўна смелых паэтавых хваляванняў. А. Наўроцкі добра арыентуецца сярод тых — старых і новых —

пазітыўных чалавечых каштоўнасцей, з якіх складаецца свет нашага жыцця. Лясы, птушкі, акіяны, чалавечыя ўсмешкі, вясновыя ранкі, каханне, дружба, прырода — усё гэта без эклектыкі ўжываецца ў яго паэме, усё знаходзіць у паэце вернага прыхільніка і страснага абаронцу.

А. Наўроцкі не ўхіляецца ад складанасці жыцця, ён страсна заглыбляецца ў яго, пераадольвае пазнавальнымі сіламі розуму і эмоцый, сінтэзуе. Моцны публіцыстычны струмень адчуваецца ў многіх яго філасофскіх вершах: «Адгабляваная дошка», «Ветры, буйныя ветры...», «Размова з Уладзімірам Ільічом» — тут скрозь прысутнічае, я б сказаў, напорыстая тэндэнцыя (успомнім Маякоўскага: паэзія пачынаецца там, дзе ёсць тэндэнцыя) аптымістычна-філасофскага сцвярджэння жыцця як дзеяння, як працы, якая — аснова ўсяго, аснова чалавечнасці. Думаецца, што ў такім разуменні жыцця і заключаецца паэтычная канцэпцыя А. Наўроцкага з характэрнымі для яго адзнакамі маштабнага філасофскага мыслення, якое нярэдка ўвасабляецца ў форму палымянай публіцыстыкі. І гэта, дабавім, грунтоўная і плённая канцэпцыя!

Іншымі рысамі — з націскам на маральна-этычны момант — характарызуецца паэтычная праблематыка А. Вярцінскага, аднаго з самых здольных і шматабяцаючых нашых паэтаў. Праблемнасць — душа яго лірыкі, і тое, як востра яна ставіцца і як сумленна і бескампрамісна вырашаецца, дазваляе гаварыць і аб немалым публіцыстычным таленце паэта. Вось цікавы, хоць і не самы лепшы, верш з яго кнігі «Тры цішыні»:

Ідзі! Не марудзь, ідзі!
Іначай нельга ў жыцці.
Ідзі, белахалатая,
Ідзі, да іх — да людзей.
Ідзі з палаты ў палату —
Суцеш, супакой, абнадзей.
Ідзі і цяплом абдорвай.
Ідзі, бо патрэбна ты...
Не ўсе хочуць быць добрымі,
Ды хочуць усе дабраты.

Тут цэлае крэда паэта — сучаснага гуманіста, паслядоўнага прапагандыста дабраты і чуласці. Праўда, толькі гэтым не вычэрпваецца маральная пазіцыя А. Вярцінскага: ён — сацыялістычны гуманіст, любоў да чалавека азначае для яго дзейсную і самаадданую барацьбу за яго, з найбольшай дабраты і пяшчотнасці да чалавека вырастаюць гнеў і рашучасць паэта. А. Вярцінскаму, як і яго настаўніку П. Панчанку, ні ў самай малой ступені не ўласціва нейтральнасць эстэтычных пазіцый, без спробы асэнсаваць падзеі, ацаніць факты. Для яго арганічныя тэндэнцыйнасць і адказнасць. Гэта бачна па яго вершах і тэарэтычных артыкулах: «... навучыцца «проста плакаць» (гэтак жа, як і «проста кахаць») у вершах — гэта ўжо нямала і гэта неабходна. Але паэту — такі ўжо закон мастацтва — трэба ісці далей, трэба «рашаць складаную задачу, глыбінныя загадкі жыцця». Трэба быць, інакш кажучы, грамадзянінам. Грамадзянінам і мысліцелем» *.

Мысліцельна-грамадзянскі пачатак вельмі моцны ў А. Вярцінскага: паэт вавое дабратою, якую разумее як унутраную актыўнасць і дасканаласць маральных ідэалаў, на якіх павінны будавацца чалавечыя ўзаемаадносіны:

Вы зразумейце правільна.
Я не за тое, не,
Каб падстаўлялася правая,
Калі хто па левай б'е.
Я не супроць гнева.
Ды я за тое, каб нас
Не білі ні справа, ні злева,
Ні ў профіль, ні ў анфас.
Каб гордасці нашай і годнасці
Ніхто не наносіў абраз,
Каб не было неабходнасці
Рашаць: ці біць у адказ?

* «Полымя», № 1, 1967.



Прага чалавечнасці, шчырасці, душэўнага абнаўлення, цэласнасці і гарманічнасці — вось пафас лірыкі А. Вярцінскага, чыя пазіцыя пазбаўлена ўсялякай позы, усяго паказнога. Кніга «Тры цішыні» — значны здабытак сучаснай беларускай паэзіі. Гэта па-сапраўднаму востра-праблемная, актуальная кніга, якая ўзнімае аўтара, скажам без перабольшання, да паэтаў усесаюзнага класа.

Сёння публіцыстычнай паэзіі шмат работы. І гэта адчувае Г. Бураўкін, для якога публіцыстычнасць, як неспакой і трывога, як любоў і нянавісць, больш, чым блізкая. Пра гэта сведчыў адзін з першых, праграмных, яго вершаў:

Я з твайго неспакойнага племені,
Партыя,
Хоць ля сэрца білет твой яшчэ не нашу.
Гэта ты разам з маці дала мне ўпартую
І няўрымслівую душу.

Гэта ты мне адкрыла прасторы шырокія
І ў дарогу ўручыла свой дапытлівы зрок.
І заўсёды
з тваімі ўладарнымі крокамі
Я зніто́ўваю кожны свой крок.

Па апошняму зборніку паэта «Дыханне» можна бачыць, як напружана імкнецца ён апраўдаць сваю ўрачыстую дэкларацыю, не адмаўляючыся ад палкага слова, ад узнёслых пачуццяў, якімі яго, «грамадзяніна дваццатага стагоддзя», шчодра надзяліла жыццё, уласная біяграфія. Ідэал паэта — усебакова развітая чалавечая асоба (гэтым ён блізкі А. Вярцінскаму, хоць увогуле цяжка знайсці двух, больш непадобных сярод паэтаў іх пакалення), чалавек «ва ўвесь рост», гаспадар «зялёнай зямлі», улюбёны ў прыгажосць сацыялістычнай рэчаіснасці. Не так даўно ён крыху наіўна, але, як кажуць, у межах паэтычнага «дапушчэння», раіў свайму калегу:

Не трэба мудрыць,
выдумляць не трэба
Нейкі іншы,
дзівосны свет.
Ёсць у нас
зямля зялёная,
сіняе неба,
І на ім —
баразною белаю —
самалёта след.
І навокал
буяе духмянае лета,
З чмялямі калматымі
і дажджоў буйнымі слязьмі.
Калі ты летуценнік,
збяры ўсё гэта
І на плечы песні сваёй вазьмі...

І гэта не спрошчанасць, не абмежаванасць душы, гэта, хутчэй, яе шырыня, напорыстасць, той аптымізм, які натуральна вынікае з веры ў жыццё, у будучыню. Праўда, адчуванні героя Г. Бураўкіна нярэдка бываюць занадта катэгарычныя, ім, на мой погляд, часам бракуе ўдумлівай засяроджанасці. Такія адчуванні да месца там, дзе паэт будзіць людскую пільнасць, узнімае голас супраць мілітарызму і вайны:

Людзі,
памятайце пра гэта
І ў радасны час,
і ў сумны час...
Ракеты на Рэйне!
На Рэйне — ракеты,
Нацэленыя
на кожнага з нас...

Іншая справа, калі паэт бярэцца судзіць «чужую споведзь». Я кажу пра паэму «Чужая споведзь«», паказальную якраз у гэтым сэнсе, дзе мяне нават крыху здзівіла ў многім, дарэчы, правільнае і мне ўвогуле асабіста сімпатычнае непрынядце паэтам споведзі «ціхенькага палахлівуца», гэтакага «маленькага чалавечка» 60-х гадоў XX-га стагоддзя. Пафас паэта можна зразумець і, без сумнення, ухваліць, калі ён гаворыць:

Я проста
ненавіджу палахліўцаў
І аб'яўляю «ціхенькім» вайну.
Я сэрца поўню лютасцю зацятай
Да іх —
цішэй вады, ніжэй травы.
Далі нам век дваццаты,
з'езд дваццаты —
На смеласць чалавечую правы.

Але калі гаворка ідзе пра канкрэтнага героя, пра «чалавека сярод людзей», то чытачу абавязкова патрэбны падрабязнасці: хто ён?, адкуль?, чаму так сталася?, хто ў гэтым вінаваты? і г. д., словам, патрэбна сацыяльная «біяграфія» з'явы, відаць, вельмі цікавай і актуальнай. Няма патрэбы спяшацца асуджаць, важна, каб абвінавачы прысуд «шэранькаму чалавечку» прагучаў абгрунтавана, аб'ектыўна і пераканаўча. Інакш кажучы, патрэбен аналіз усёй сукупнасці абставін, што прывялі да маральнага злачынства.

А ўвогуле кніга «Дыханне» сведчыць, што да паэта прыйшла сталасць — і жыццёвая, і паэтычная. Запамінаецца трыпціх «Неба і зямля» з гэтай кнігі, твор асабісты, я б нават сказаў, аўтабіяграфічны ў тым сэнсе, што Г. Бураўкін раскрывае аўтабіяграфію свайго пакалення, як ён яе адчуў і перажыў. Кранае сваім публіцыстычным гучаннем верш «Пра «сціпласць», дзе расказваецца пра нейкага «бойкага дзядзьку», што «пляваў на мой народ і край». Праўда, і тут здзіўляюць непрадуманасцю асобныя радкі:

Глынуўшы ком абразы даўкі,
Мы дзядзьку «выдалі» з пляча.
А побач быў таварыш даўні
І...
акуратненька маўчаў...

Не ведаю, хто такі «даўні таварыш», але наўрад ці правільны такі спосаб вырашэння канфлікту — «выдаць з пляча» — і ў жыцці, і ў паэзіі. Я разумею і падзяляю непрынянце паэтам усякага нейтралізму, усякага «мая хата з краю» і сімпатызую яго герою, які так страсна жадае сцвердзіць на свеце справядлівасць і дабро. Але такая паспешлівасць, як у вершы «Пра «сціпласць», усё ж такі мала прыймальная для нас. Да вырашэння падобных канфліктаў варта падыходзіць удумлівей і больш грунтоўна, улічваць усе «пазіцыі». Зрэшты, гэта «накладныя выдаткі» нялёгкіх пошукаў паэта ў тонкай сферы маральна-этычнага...

Публіцыстычная лірыка, можа, як ніякая іншая, патрабуе сталасці светапогляду, выразнасці ідэалаў, разумнасці — у філасофскім сэнсе гэтага слова, добрага адчування жыццёвых тэндэнцый, вострай рэакцыі на падзеі рэчаіснасці. Гэта не лёгкі «жанр», тут не абысціся аднымі дэкларацыямі, няхай сабе і самымі вогненнымі. Суб'ектыўны пафас паэта павінен арганічна спалучацца з аб'ектыўнымі заканамернасцямі жыццёвага «матэрыялу».

У пачатку нашага артыкула аматар філасафічнасці дакараў прыхільніка публіцыстычнай лірыкі сумным вопытам «маладнякізму». «Маладнякоўцы (і крытыкі і самі паэты), — піша Н. Гілевіч у сваім даследаванні пра паэзію «Маладняка», — бадзёры, вясёлы і радасны настрой лічылі не толькі характэрнай асбалівасцю сваёй творчасці, але і яе сапраўдным зместам, яе сутнасцю. У гэтым яны бачылі яе галоўнае адрозненне ад беларускай паэзіі нашаніўскага перыяду — на іх думку, сумнай, журботнай, слёзнай». Так, сапраўды, такая аднастайнасць настрою ў паэзіі «маладнякоўцаў» мела месца, і тым горш, што яна часта спалучалася з абмежаванасцю светапогляду, з туманнасцю эстэтычнага ідэалу, з касмічна-планетарным успрыняццем рэчаіснасці, у якім губляўся дарагі для лірыкі момант асабістасці. Усё гэта паглыбляла недахопы маладнякоўскай публіцыстыкі. У гэтым сэнсе ўрокі «Маладняка» выключна павучальныя для сучаснай паэзіі. Аднак гэта недахопы не публіцыстычнага «жанру», а пэўнай эстэтычнай пазіцыі, тых творчых прынцыпаў, з якіх у пераважнай сваёй частцы выходзілі «маладнякоўцы». Потым яны, кожны па-свойму, пераадольвалі хваробы росту, станавіліся паэтамі высокай эстэтычнай і грамадзянскай культуры...

Сярод многіх розных і добрых паэтаў я выбраў некалькі імёнаў, якія асабліва імпануюць мне сваім талентам публіцыстычнасці, лірычным запалам слова, еднасцю споведзі і пропаведзі. Зразумела, яны не вычэрпваюць публіцыстычны струмень у нашай паэзіі, і спіс іх можна было б прадоўжыць, успомніўшы стаўшыя хрэстаматыйнымі вершы А. Куляшова «Слова да Аб'яднаных нацый», «Камуністы», «Маё сэрца ў бары», многія вершы з яго «Новай кнігі», так багатай, як сказаў адзін крытык, на «валявы публіцыстычны патэнцыял». А паэзія В. Таўлая з яго магутным «Жаданнем»:

Гром, — загрымі! Віхор, — завый!
Пад бляск маланак агнявы
хай задрыжаць прасторы неба:
скрануць Зямлю з падвалін трэба!

Знойдзем узоры палымянага слова і ў М. Танка, і ў П. Броўкі, і ў А. Вялюгіна, У. Дубоўкі, С. Гаўрусёва і іншых. Звяртаюцца да публіцыстыкі, праўда, з розным поспехам, і самыя маладыя У. Паўлаў, В. Жуковіч, А. Канапелька, М. Кусянкоў, Х. Чэрня і іншыя. І гэта вельмі добра. Няўвага да публіцыстычнага верша азначала б паслабленне актыўнасці ў дзейснасці паэзіі, здрабненне яе рэалізму, нарэшце, жанравае збядненне.

Гісторыя беларускай літаратуры, асабліва савецкай беларускай літаратуры, пераканаўча сведчыць, што лепшыя ўзоры публіцыстычнай паэзіі сталі неад'емнаю часткаю лірычнага летапісу нашай эпохі.

●●●

# ЗДЗЕЙСНЕНЫЯ НАДЗЕІ

З вялікім хваляваннем чакалі шахматысты Беларусі старту IV Юбілейнай спартакіяды народаў СССР. Гэта ж была своеасаблівая справаздача не толькі за перыяд з часу папярэдняй Спартакіяды 1963 года, але вынік усёй шахматнай работы Беларусі за 50 год.

Варта ўспомніць, што яшчэ ў перадваенныя гады маладыя беларускія майстры ўпэўнена выйшлі на ўсесаюзную шахматную арэну. Двойчы — у 1934 і 1940 гадах — прымаў удзел у фіналах першынства СССР малады майстар Гаўрыіл Верасаў. Званне майстра ў цяжкіх баях заваявалі гамяльчанін Абрам Маневіч, віцяблянін Уладзіслаў Сіліч. У пасляваенныя гады пачынаюць рэгулярна разыгрывацца камандныя чэмпіянаты краіны. І год за годам каманда Беларусі гуляе ўсё больш упэўнена і паспяхова. У 1953 годзе каманда Беларусі ўпершыню выходзіць у фінал, у 1955 годзе паспяхова вядзе ўжо барацьбу з мацнейшымі калектывамі.

Сенсацыяй папярэдняй Спартакіяды народаў СССР было трэцяе прызавое месца беларусаў. І вось зноў — Спартакіяда... У паўфіналах упэўнена выйшлі наперад у сваіх групах РСФСР і Ленінград, Масква і Грузія. Больш напружаная сітуацыя склалася ў 2-й групе, дзе сустрэліся Украіна, Беларусь і Латвія. Таму, зразумела, барацьба ў фінале была вельмі зацятай і сур'ёзнай, а ў большасці сустрэч былі перамогі з самым мінімальным лікам.

Усё вырашаў апошні тур. Масквічы сустрэліся з упартым супраціўленнем калектыву Беларусі, у той час як каманда РСФСР, якая адставала ўсяго на адно ачко ад масквічоў, рашуча «абрушылася» на сваіх бліжэйшых канкурэнтаў.

Залатыя медалі заваявалі масквічы пасля перамогі над беларусамі з лікам 5,5 : 4,5. Наступныя месцы з другога па шостае адпаведна занялі РСФСР, Украіна, Ленінград, Беларусь, Грузія. Пераможцам падгрупы «Б» аказалася каманда Латвіі, якая заняла агульнае сёмае месца.

***

У турнірах на дошках было нямала сенсацый. Пачаліся яны з грубага прагляду Цігрaна Петрасяна ў партыі з туркменскім майстрам Кудрашовым. Экс-чэмпіён свету Міхаіл Батвіннік прайграў грузінскаму майстру Раману Джынджыхашвілі, гросмайстры Марк Тайманаў і Леў Палугаеўскі — армяніну Эдуарду Мнацаканяну. Два паражэнні мела юная чэмпіёнка СССР Нана Александрыя. Тут нават цяжка пералічыць усе «сенсацыйныя» партыі, але зусім відавочным стаў індывідуальны і калектыўны рост шахматыстаў усіх саюзных рэспублік. І перш за ўсё гэта мае дачыненне да шахматыстаў Казахстана і Арменіі. Наогул, камандныя чэмпіянаты краіны сталі значна цікавейшымі і напружанымі.

На першых дошках скрыжавалі шпагі вядучыя гросмайстры краіны. Лепшага выніку на першых дошках дамагліся Барыс Спаскі (РСФСР) і Віктар Карчной (Ленінград), якія набралі па шэсць ачкоў з васьмі, Цігран Петрасян мае 4,5 з 8, Аляксей Суэцін і Леанід Штэйн па 5 з 9. Замыкае табліцу лідэраў па 1-ай групе міжнародны майстар Б. Гургенідзе. У 2-ой групе (7—12 месцы) на дошцы лідэраў лепшым быў Міхаіл Таль — 6 з 9. На другой дошцы лепшага выніку дамогся Міхаіл Батвіннік, які перамог у рашаючых сустрэчах Палугаеўскага і Тайманава.



І ў балельшчыкаў — гарачыя дні.



***

Падводзячы вынікі выступленню беларускай каманды, трэба расцэньваць занятае ёю пятае месца як адпаведны поспех. Некаторыя чытачы будуць пярэчыць: моў, на папярэдняй Спартакіядзе народаў СССР беларускія ж шахматысты былі трэцімі? Так. Але гэта шчаслівы вынік, які, здаецца, з кожным годам усё цяжэй і цяжэй будзе зрабіць паўторна: расце добрая, моцная армія шахматыстаў ва ўсіх рэспубліках краіны. У цэлым, поспехі нашай каманды зусім заканамерныя. Пачынаючы з ІІ Спартакіяды народаў СССР 1959 года наш калектыў прымаў удзел таксама ў камандных першынствах краіны 1960, 1962, спартакіядах 1963 і 1967 гадоў, дзе адпаведна займаў 8,7—8,5—6, 3, 5 месцы. У сярэднім каэфіцыент месца роўны амаль шасці, прычым у трох апошніх першынствах мы трывала ўваходзілі ў пяцёрку пераможцаў. Апошняя спартакіяда была не вельмі ўдалай для нас: міжнародны майстар Гаўрыіл Верасаў набраў усяго 0,5 ачка з 5, а на юначай дошцы майстар Віктар Купрэйчык 2 ачкі з 9. Калі ўлічыць, што ад каманды Ленінграда мы адсталі ў фінале на 1,5 ачка, нават у выпадку ўдалага ліку ў Верасава і Купрэйчыка калектыў беларускіх шахматыстаў змог бы разлічваць толькі на чацвёртае месца. Але на такім спаборніцтве, як гэта спартакіяда, пятае месца трэба лічыць бясспрэчным поспехам.

Пра некаторыя індывідуальныя дасягненні ўдзельнікаў нашай каманды мы ўжо гаварылі. Вось вынікі астатніх: другая дошка — гросмайстар Ісак Баляслаўскі — 5,5 з 9; чацвёртая дошка — майстар Альберт Капенгут 5,5 з 9; пятая дошка — майстар Абрам Ройзман 5 з 8. Вялікага поспеху дамогся на шостай дошцы кандыдат у майстры Уладзімір Літвінаў — 6 з 9. Ён выканаў норму майстра спорту. Гэты дваццацішасцігадовы аспірант Беларускага політэхнічнага інстытута папоўніў нашу кагорту майстроў.

На першай жаночай дошцы міжнародны майстар Кіра Зварыкіна набрала 6 ачкоў з 9, на другой жаночай дошцы майстар Тамара Галавей — 6,5 з 9. Юная шахматыстка Люба Стольнікава таксама паспяхова вытрымала экзамен на сталасць, набраўшы 4,5 з 9. Запасны ўдзельнік майстар Абрам Шагаловіч набраў 2,5 з 5.

Апрача «дарослай» спартакіяды па шахматах, у Ленінградзе адбылася юначая спартакіяда. Тут беларускія шахматысты былі пятымі. Калі ўлічыць, што на папярэдняй спартакіядзе нашы школьнікі занялі толькі адзінаццатае месца, дык агульны вынік сёлетняй спартакіяды для нас здавальняючы.




Наша шахматная каралева Тамара Галавей.

***

Некалькі слоў пра нашу «ўнутраную» Усебеларускую спартакіяду па шахматах, якая папярэднічала ўсесаюзнай. Тут спаборнічалі між сабою зборныя каманды абласцей. Перамагла каманда Мінска, якая па сутнасці была адной з першых зборных рэспублікі. Другое месца заняў згуртаваны калектыў гамяльчан. Трэба адзначыць, што поспеху гамяльчан у вялікай ступені садзейнічала выдатная работа іх абласной секцыі (старшыня Аляксандр Мазучэнка) і шахматнага клуба (дырэктар Аркадзь Іофе). Наступныя месцы занялі прызёры папярэдняй спартакіяды — Магілёўская і Віцебская вобласці.

***

Вось адна з партый IV Юбілейнай спартакіяды народаў СССР. **А. Шагаловіч** (Беларусь) — **Э. Гуфельд** (Украіна). Сіцылійская абарона: 1.e4 c5, 2. Kf3 d6, 3. d4 cd, 4. Ле2d4 Kf6, 5. Kc3 gb, 6. Ce3 Cg7, 7. f3 Kc6, 8. Cc4 0—0, 9. Фd2 Фa5, 10. Cb3 Cd7, 11. h4 Лfc8, 12. h5 K : h5, 13. g4 K : d4? 14. C : d4 C : d4, 15. Ф : d4, Kf4, 16. C : f7+ Kp : f7, 17. Л : h7+ Kpe6, 18. Фg7 Ле8, 19. Фf7+ Kpe5, 20. Kd5 Л : c2+, 21. Kpb1 Kd3, 22. Фg7+, і чорныя здаліся.

**Аляксей СУЭЦІН,**
**міжнародны гросмайстар.**




●

**ГРАХОЎСКІ Сяргей** нарадзіўся 25 верасня 1913 года ў мястэчку Нобель былога Пінскага павета. Скончыў у 1930 годзе Глускую сямігодку, працаваў на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце. Вучыўся на рабфаку, пасля ў мінскім педінстытуце імя Горкага. Працаваў на беларускім радыё, а пасля *Вялікай Айчыннай вайны* ва Урэцкай сярэдняй школе, затым у рэдакцыі часопіса «Бярозка». Цяпер працуе ў часопісе «Вясёлка». Ён аўтар многіх паэтычных зборнікаў.

«Рудабельская рэспубліка» — першая аповесць паэта.

●

**САНЬКО Валеры** нарадзіўся ў 1939 годзе на Случчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна — філалагічны факультэт.

Працуе ўласным карэспандэнтам газеты «Звязда» па Магілёўскай вобласці.

## ПЕРШЫЯ ТВОРЫ

«Урадлівасць» — так назваў свой барэльеф выпускнік Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута **Леанід ДАВІДЗЕНКА.** Леаніду 26 год. Ён мінчанін. Перад паступленнем у інстытут вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы.



●



Скульптар **Віктар АНДРУШЧАНКА** абараніў дыплом на тэму «1919 год». Ён нарадзіўся ў Днепрапятроўску, яму 28 гадоў. Да паступлення ў тэатральна-мастацкі інстытут скончыў Луганскае мастацкае вучылішча і служыў на флоце.



Леанід ДАВІДЗЕНКА. Урадлівасць.

Віктар АНДРУШЧАНКА. 1919 год.



**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 10**

*Литературно-художественный и общественно-политический ежемесячник*
*На белорусском языке*

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Ніна ЯЎМЕНАВА.**
Карэктар **Лідзія ТАУЛАЙ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **Б-93-854** — сакратарыят і аддзел крытыкі, **Б-93-592** — аддзелы паэзіі і прозы. **Б-93-892** — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **Б-93-775** — аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 26/VIII-67 г. Падпісана да друку 29/IX-67 г.
АТ 00745. Тыраж 9728 экз. Зак 482. Цана 40 кап. Папера 70×108[1]/16. Фіз. друк. арк. 16. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі прасп. 79.**